Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 37 (4683) 14 верасня 2012 г.

Думкапісьменніка

## Хай будзе святло!



На наступным тыдні, 17 верасня, мы будзем адзначаць дзве важныя падзеі: 100-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка і чарговую гадавіну ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй.

Падзеі гэтыя, між іншым, звязаны не толькі адной датай, але і куды больш глыбокім зместам. Максім Танк сваё дзяцінства і юнацтва правёў на так званых "крэсах усходніх", поўнай мерай спазнаў "ласку і даброты" панскай Польшчы. За сваё натуральнае жаданне гаварыць і пісаць на роднай мове, за актыўную барацьбу за лепшую долю свайго народа паэт неаднаразова арыштоўваўся і правёў нямала дзён у турэмных засценках.

"Шалелі панскія найміты па ўсёй Польшчы, і асабліва на землях Заходняй Беларусі, — напіша пазней у аўтабіяграфіі Максім Танк. — Закрываліся прагрэсіўныя арганізацыі, бібліятэкі, друкаваныя органы. Суды не спраўляліся чыніць расправу, без суда тысячы людзей былі кінуты за калючыя драты канцлагера Картузскай Бярозы.

Праводзілася жудасная паланізацыя..."

Гэты негатыўны працэс быў спынены сонечным вераснёўскім днём 1939 года, калі савецкія воіны-браты прынеслі на заходнебеларускія землі доўгачаканае вызваленне.

На жаль, сёння на старонках некаторых друкаваных органаў можна прачытаць і адваротнае. Што гэта была захопніцкая акцыя Чырвонай Арміі, гвалтоўная акупацыя польскіх зямель. Не хочацца нават такое каменціраваць — хай гэта застаецца на іх сумленні.

А мне куды важней ацэнка гэтай падзеі непасрэднага сведкі і актыўнага ўдзельніка станаўлення новага ладу жыцця. Вось што пісаў Максім Танк у сваім дзённіку 17 верасня 1939 года:

"Не знаю, з чаго нават пачынаць запісваць падзеі гэтага дня. Хіба — з усходу сонца, якое хоць і дакладна ўзышло па календары, але гэта ўжо быў каляндар новага жыцця і іншы ўсход сонца.

Раніцай прыехалі на веласіпедах слабадскія хлопцы... Яны першыя пачулі па радыё і прывезлі мне гэту ашаламляльную, радасную вестку, што Чырвоная Армія перайшла граніцу і ідзе вызваляць Заходнюю Беларусь. Цікава, сама ідэя вызвалення Заходняй Беларусі пры дапамозе нашых усходніх братоў — не была новая. Толькі за дваццаць гадоў акупацыі, я сказаў бы, яна стала літаратурнай тэмай. І калі запаветная мара здзейснілася, мы ёй не менш здзівіліся, як ажыццяўленню казкі".

Семдзесят тры гады таму над былымі "крэсамі" ўзышло святла жаданай волі і мірнай, стваральнай працы. Яно, гэтае святло, адчуваецца і ў нашых сённяшніх буднях, ва ўпэўненых, акрыленых кроках незалежнай, суверэннай Беларусі.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**

# Паэт-наватар

Ніхто, відаць, з такой паўнатой не выявіў духоўны космас беларуса ў паслякупалаўскі перыяд нашай літаратурнай гісторыі, як Максім Танк. Прычым багаццю і непаўторнасці гэтага космасу арганічна адпавядала непараўнанае багацце вершаванай формы ў галіне паэтычнай вобразнасці, метрыкі і рытмікі, строфікі, сінтаксісу, кампазіцыі... Паэт, як і Янка Купала ды Максім Горкі, у выніку цяжкіх жыццёвых абставін не меў магчымасці скончыць нават звычайную гімназію, але здабыў шляхам самаадукацыі такія глыбокія веды ў галіне культуралогіі, гісторыі і тэорыі літаратуры, што стаў паўнапраўным акадэмікам, літаратурным першапраходцам, заканадаўцам паэтычнага стылю.



**Вячаслаў РАГОЙША,**
**фота з архіва Музея гісторыі беларускай літаратуры**

Змоладу, ва ўмовах Заходняй Беларусі, Максім Танк не толькі актыўна займаўся палітыкай, удзельнічаў у камуністычным падполлі, выяўляў сябе як грамадзянін, але і прагна назапашваў літаратурныя веды, удасканальваў сваё паэтычнае майстэрства. Гэта вучоба, у прыватнасці, зафіксавана ў дзённіку паэта заходнебеларускага перыяду — "Лістках календара". На яго старонках — назвы дзясяткаў твораў, у тым ліку фальклорных, сотні прозвішчаў беларускіх, рускіх, польскіх, украінскіх, заходнееўрапейскіх пісьменнікаў, з творчасцю якіх ці не штодзённа знаёміўся малады літаратар. Прычым яму быў даступны не толькі польскі і заходнееўрапейскі друк, але і савецкі (дзякуючы атрыманаму дазволу працаваць у славянскім аддзеле ўніверсітэцкай бібліятэкі ў Вільні). Ён мог супастаўляць творы, напісаныя ў рэчышчы розных літаратурных і стылёвых напрамкаў, арыентавацца на лепшае, нягледзячы на тое, дзе, на якой мове яно было напісана.

У канцы жыцця Максім Танк падкрэсліваў, што вершы пачаў пісаць "са злосці", бо ў тагачаснай заходнебеларускай літаратуры было багата "муры", якая і яго справакавала ўзяцца за пяро. Як бы там ні было, але ўжо тое, што малады паэт мог адрозніць сапраўднае мастацтва ад яго падробкі ("муры"), сведчыць пра яго тонкі эстэтычны густ. У станаўленні ж гэтага густу яму пасадзейнічала беларуская народна-паэтычная творчасць, якую ён увабраў, як і родную беларускую мову, з малаком маці. Фальклор, які, паводле слоў паэта, "ўратаваў ад забыцця і нашу мову, і мінуўшчыну, а яна — нашу будучыню", ён ведаў настолькі глыбока, што вольна спрачаўся нават з прафесіяналамі ў гэтай галіне. Зваротам да лепшых фальклорных здабыткаў пазначаная літаральна ўся яго шасцідзесяцігадовая арыгінальная творчасць.

Пры ўсім тым варта зазначыць: у паэзіі Максіма Танка ніколі не было чыста фармалістычнага штукарства, пошукаў "формы дзеля формы", чым грашылі (і грашаць) некаторыя вершатворцы, прадстаўнікі т. зв. "чыстага мастацтва", "панэстэтызму", мадэрнізму і постмадэрнізму. Яшчэ ў маладыя гады, калі паэтаў звычайна разбірае фармалістычны сверб, Яўген Скурко, пазнаёміўшыся з асобнымі вершаванымі практыкаваннямі В. Хлебнікава, зусім па-сталаму мудра запісаў у сваім дзённіку: "Ледзь змусіў сябе дачытаць Хлебнікава. Мне здаецца, што падобнымі эксперыментамі могуць займацца паэты, перад якімі ніколі не стаяла пытанне: быць ці не быць іх мове? Аж зайздросна, што ёсць на свеце пісьменнікі, якіх ніколі не трывожыла гэта праблема" (7.04.1935). Перад Максімам Танкам з падлеткавага ўзросту і да апошніх дзён жыцця стаяла пытанне: быць ці не быць беларускай мове, а значыць — і беларусам як нацыі, а ўрэшце — і Беларусі як дзяржаве...

Так, у Максіма Танка заўсёды, пачынаючы з самых ранніх вершаваных спроб, на першым месцы быў сэнс як увасабленне тых думак і пачуццяў, якія хацеў і мог ён выявіць. Іншая справа, што ў паэта ў розны час, у адпаведнасці з асабістым творчым досведам, эстэтычнымі ўпадабаннямі, рознымі літаратурнымі ўплывамі, нават пэўнымі экстралітаратурнымі варункамі, сэнс "апранаўся" ў тую ці іншую адмысловую форму. Прычым, гэта пазначалася на ўсіх складніках паэтычнага выяўлення — тропіцы, рытміцы і метрыцы, страфіцы, эўфаніі... Увогуле паэт усе свае шэсць дзясяткаў творчых гадоў знаходзіўся ў няспынным пошуку, пра што ён сам выразна сказаў: *"Вершы мае — часовыя прыстанішчы, // Якія будую ўсё жыццё. // Але пасля таго, як заб'ю // Апошні цвік у рытмы, // Устаўлю вокны ў строфы, // Навешу дзверы на цэзурах, // Прымацую клямку да pointe — // У гэтым доме // Ужо мяне не шукайце".* Максім Танк яшчэ ў пару творчай маладосці ўсвядоміў неабходнасць настойлівых пошукаў у галіне вершаванай формы, прычым пошукаў не дзеля саміх пошукаў, а дзеля лепшага, глыбейшага ўвасаблення пэўнага паэтычнага сэнсу. Імкнучыся да найбольш арганічнай формы для выяўлення *дадзенага* сэнсу, ён, разам з тым, не забываў пра амбівалентнасць асобных кампанентаў формы. Ужо ў сталыя гады паэт так скажа пра рыфму (верш "Рыфма", 1993): *"Ты можаш быць // І мікельанджэлаўскім // Ударам кулака // У ашчэр // Яго славутага // "Сатыра". // І можаш быць // Тым фігавым лістком, // За якім еўнухі // Скрываюць сваю немач".*

**(Заканчэнне на стар. 6.)**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Іосіфа Кабзона з 75-гадовым юбілеем. "У Беларусі Ваша творчая і грамадская дзейнасць карыстаецца вялікай павагай і прызнаннем. Упэўнены, што Вы і надалей будзеце садзейнічаць умацаванню сяброўства і пашырэнню культурных сувязей паміж нашымі народамі", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Міністр культуры Беларусі Павел Латушка сустрэўся з намеснікам генеральнага дырэктара ЮНЕСКА па пытаннях камунікацыі і інфармацыі Янісам Карклiньшам. Бакі дамовіліся пра ўзаемадзеянне ў пытаннях стварэння электроннай бібліятэкі Беларусі. Таксама абмяркоўвалася перспектыва пашырэння прадстаўніцтва аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі ў спісе сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

✔ Першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч паведаміла, што кіраўніцтва "Роспечати" прыняло прапанову стаць ганаровым госцем XX Мінскага кніжнага кірмашу, які традыцыйна збірае шмат удзельнікаў з іншых краін.

✔ У мэтах стварэння Музея Васіля Быкава ва ўласнасць Рэспублікі Беларусь перададзена маёмасць народнага пісьменніка — дача ў дачным пасёлку Ждановічы. Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры працуе над новай экспазіцыяй.

✔ Дні культуры Беларусі ў Літве пройдуць з 22 верасня па 30 кастрычніка і абяцаюць насычаную і разнастайную праграму. На ўрачыстым адкрыцці, якое адбудзецца 24 верасня ў Нацыянальнай філармоніі Літвы, па традыцыі выступіць Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава.

✔ Міністэрства культуры Беларусі аб'явіла конкурс кінапраектаў на вытворчасць нацыянальных фільмаў і фільмаў у рамках сацыяльна-творчых заказаў. Заяўкі на ўдзел прымаюцца з 8 кастрычніка па 6 лістапада. Мяркуецца, што вынікі будуць падведзеныя на пачатку наступнага года. Больш падрабязную інфармацыю можна знайсці на сайце Міністэрства культуры.

✔ У наступным годзе, паводле слоў мэра сталіцы Мікалая Ладуцькі, будзе завершана рэканструкцыя большай часткі гістарычнага цэнтра Мінска. А ў 2014-м плануецца распачаць работы па ўзнаўленні Мінскага замчышча — будзе сфарміраваны археалагічны музей, музей гісторыі горада, аднаўлена ложа рэчкі Няміга.

✔ 7 верасня ў Брэсце распачаўся XVII Міжнародны фестываль "Белая Вежа — 2012", які ў гэтым сезоне праходзіць пад дэвізам "Класіка Plus". Для ўдзелу ў фестывалі ў Брэст завітала 26 творчых калектываў з 11 дзяржаў, якія прапануюць гледачам спектаклі на сямі мовах з перакладам на рускую. На адкрыцці камедыю "Гора ад розуму" паказаў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага. Закрыецца ж фестываль "Маскарадам" Маскоўскага драматычнага тэатра на Пяроўскай.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Стварыць сапраўдны беларускі музей

На гэтым тыдні пад старшынствам Мікалая Чаргінца адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яго ўдзельнікі азнаёміліся з напрацоўкамі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны па стварэнні новай тэматычнай экспазіцыі.

Ірына ТУЛУПАВА

Паводле дырэктара Сяргея Азаронка, канцэпцыя дапрацавана з вядучымі музеямі Беларусі і блізкіх нам краін. У прыватнасці, з Дзяржаўным гістарычным музеем Масквы, Цэнтральным музеем узброеных сіл Расіі і інш. Падчас абмеркавання было выказана каля 10 заўваг, усе яны ўлічаныя.

Што ж убачыць наведвальнік пасля таго, як праект будзе рэалізаваны?

Шмат якія залы дэталёва адлюструюць самыя значныя падзеі не дужа далёкіх (па гістарычных мерках) часоў. Прэзентацыя будучых экспазіцый праходзіла ў форме слайд-прагляду і выклікала жывую дыскусію літаратараў. Знаёмства з праектам не столькі было азнаямляльным, колькі мела на мэце завязванне дзелавых і творчых кантактаў. Гэта стала зразумелым з першых хвілін сустрэчы. Супрацоўнікі музея, распавядаючы пра напаўненне залаў, акцэнтавалі ўвагу на той дапамозе, якую могуць аказаць пісьменнікі. Да прыкладу, шырокі спектр пытанняў узнік ужо ў размове пра першую залу — "Мір і вайна". Яна будзе ўключаць тры раздзелы: "Зямля пад белымі крыламі", "Са скарбніцы беларускай мудрасці", "Абарона Айчыны на мяжы стагоддзяў". Ужо з назваў вынікае, што тут неабходны непасрэдны ўдзел майстроў слова. Хто ж лепш распавядзе пра сваю зямлю і родны кут? І ў скарбонку мудрасці шмат што могуць дадаць сучасныя аматары прыгожага пісьменства. Таму музейныя супрацоўнікі звярнуліся да людзей дасведчаных — каб дапамаглі знайсці тое, што ўжо створана, альбо напісаць штосьці новае.

Прэзентуючы другую залу — "Свет напярэдадні і ў першыя гады Другой сусветнай вайны", — супрацоўніца музея звярнула ўвагу на аздабленне Мемарыяльнай залы Дома літаратара: "Я ўбачыла на фотаздымках тых, хто прадстаўлены ў экспазіцыях нашага музея. Гэта Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Янка Брыль..." Асобна будзе прадстаўлены франтавы друк. Старонкі аповедаў падрыхтаваныя пра Івана Шамякіна (баі ў Запаляр'і), Васіля Быкава (вызваленне Украіны), Івана Мележа (праца тылу). Між іншым, агаворвалася магчымасць арганізацыі асобнай экспазіцыі па жыцці і творчасці пісьменнікаў-франтавікоў, выданні кніг пра вайну. Нават пры стварэнні такой маленькай часткі выстаўкі, як "Вайна ў малюнках", дапамога пісьменнікаў можа спатрэбіцца: неабходны дэталёвыя мастацкія апісанні пэўных эпізодаў, якія пасля будуць увасоблены ў фарбах.

Яшчэ залы: "Дарога вайны", "Абарончыя баі ў Беларусі", "Карэнны пералом у ходзе вайны. Савецкі тыл", "Нямецка-фашысцкі акупацыйны рэжым", "Вызваленне Беларусі", "Беларусь пасля вызвалення", "Нашчадкі Вялікай Перамогі". Называем іх для чытачоў "ЛіМа": магчыма, у кагосьці ёсць унікальны і дагэтуль не задзейнічаны матэрыял.

Акрамя іншага, у музеі плануецца стварыць так званыя музейна-педагагічныя станцыі, дзе настаўнікі маглі б праводзіць урокі. І не толькі па гісторыі, а і па літаратуры таксама. Каб дзеці, пачуўшы прозвішча аўтара, маглі ўзяць у рукі яго твор і пачытаць.

Былі разгледжаны таксама іншыя пытанні, сярод якіх — падрыхтоўка да святкавання юбілею Максіма Танка.

## Прафсаюзныя прэміі — 2013

# Падсумоўваем зробленае

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі прыняла рашэнне па ўмовах прысуджэння прэмій наступнага года.

Алеся БАЦЮСЬ

Нагадаем, што прэміі прысуджаюцца раз на два гады і ўганараванне лаўрэатаў традыцыйна праходзіць на Свята працы. У наступным годзе будуць вылучаны пяць пераможцаў у галіне літаратуры і мастацтва, па адной прэміі прысуджаецца за актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных, за выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці, а таксама ў галіне журналістыкі.

Лаўрэатамі ўзнагароды могуць быць як асобныя творцы, так і калектывы аўтараў да чатырох чалавек. Адна з умоў (канечне, калі не казаць пра дасягненні прэтэндэнтаў, высокія мастацкія якасці іх твораў, значныя здабыткі і ўнёсак у культуру ў цэлым) — абавязковае членства ў прафсаюзе і ўдзел у жыцці прафсаюзнай арганізацыі.

На саісканне прэміі могуць быць прадстаўлены работы, якія былі апублікаваныя ці публічна паказаныя за апошнія чатыры гады, але не пазней як за 6 месяцаў да пачатку вылучэння на саісканне. Не могуць удзельнічаць у конкурсе работы, якія адначасова вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі, міжнародных ці прэмій іншых дзяржаў альбо ўжо атрымлівалі іх раней. Дакументы і адпаведныя матэрыялы прымаюцца да 10 снежня бягучага года Камісіяй па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў.

Пачынаючы з 1989 года, калі была заснавана прэмія Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, яе лаўрэатамі сталі 3 прафесійныя і 20 аматарскіх калектываў мастацкай творчасці, а таксама 153 дзеячы культуры, мастацтва і журналісты.



## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі

**ПРАКАПОВІЧ**
**Вера Паўлаўна**
***Празаік, паэтэса***



Нарадзілася 12 сакавіка 1943 г. у в. Мурыны Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Мінскі кааператыўны тэхнікум. Працавала на розных пасадах у гандлі.

Друкавалася ў часопісах "Гаспадыня", "Алеся", "Гоман", "Маладосць", газетах "Вместе", "Навіны Камянеччыны" і інш. Першы зборнік вершаў "Незримой нитью" выйшаў у 2006 годзе, зборнік прозы "Дорога домой" — у 2009 годзе і зборнік паэзіі "Боль от любви" — у 2011 годзе.

Удзельніца многіх літаратурных конкурсаў, узнагароджана шэрагам дыпломаў і грамат.

**ГАЛДЗЯНКОЎ**
**Міхаіл Анатольевіч**
***Празаік, публіцыст***



Нарадзіўся 8 кастрычніка 1962 года ў Багадухаве (Украіна). Скончыў Мінскі інстытут замежных моў. Працаваў перакладчыкам, супрацоўнічаў з рэспубліканскімі выданнямі. Яго кніга "Осторожно HOT DOG" з 1997 па 2001 год перавыдавалася восем разоў. Аўтар раманаў "Палёт дубовага ліста" (2006), "Шчыт Рурыка" (2006), "Аляксандр Македонскі і яго вялікі паход" (2010).

# Заўтра — Дзень бібліятэк

Да яго падрыхтаваліся ўсе скарбніцы Беларусі. Галоўны дыямент — Нацыянальная бібліятэка Беларусі — запрашае сёння на імпрэзу "У гасцях у Каралевы Кнігі". Сустрэча больш разлічана на хлопчыкаў і дзяўчынак — будучых актыўных чытачоў. А сёння ім прапануюць захапляльнае падарожжа па залах бібліятэкі, наведванне музея кнігі і аглядный пляцоўкі, сустрэчы з супрацоўнікамі. Дзецям пакажуць розныя па памеры кнігі, прачытаюць любімыя старонкі. Мастацкае ўспрыманне пачутага яны змогуць увасобіць тут жа — у малюнках. Усе яны будуць на тэму "Кніжкін дом — бібліятэка".

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сёння — прэс-канферэнцыя "Новыя магчымасці інфармацыйна-бібліятэчнага абслугоўвання: выкарыстанне інфармацыйна-камунікатыўных тэхналогій і інтэрнэт". Традыцыйна ў гонар святкавання Дня бібліятэк арганізуецца бясплатны запіс у скарбніцу. Акрамя таго, цягам гэтага тыдня чытачы ўдзельнічаюць у акцыі "Мяняем кнігу на кнігу" і ў тэматычным апытанні. На выхадзе з бібліятэкі наведвальнікі адказвалі на пытанне "Як вас сёння абслугоўвалі?"

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

Літабсягі

# Падзея для выдавецтва і краіны

Гран-пры і яшчэ шэсць узнагарод IX Міжнароднага конкурсу дзяржаў-удзельніц СНД "Мастацтва кнігі" атрымалі беларускія выдаўцы. Цырымонія шанавання лаўрэатаў прайшла на XXV Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Вышэйшай узнагародай уганаравана кніга "Дмитрий Струков. Альбом рисунков. 1864 — 1867", якая ўбачыла свет у Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі. Гэта ж выдавецтва адзначана дыпломам I ступені ў намінацыі "Садружнасць" за альбом "Живая вера. Ветка".

— Другі год запар мы атрымліваем Гран-пры, — зазначыла намеснік дырэктара Беларускай энцыклапедыі імя Петруся Броўкі Кацярына Аксёнава. — Летась такой жа высокай узнагародай было адзначана выданне "Радзивиллы. Альбом портретов XVIII — XIX вв.". Сёлетняя ўзнагарода — стымул для далейшай плённай працы. Не хацелася б знізіць узятую планку. Прыемна, што выдавецкая дзейнасць нашай установы адзначана не толькі на рэспубліканскім узроўні, але і на міжнародным.



*"Дмитрий Струков. Альбом рисунков. 1864 — 1867".*

Дарэчы, на гэтым жа конкурсе тры беларускія кнігі ўганараваны дыпломамі II ступені. У намінацыі "Арт-кніга" — альбом "Валентин Губарев. Важно всё" выдавецтва "Мастацкая літаратура". Такую ж узнагароду ў намінацыі "Аддрукавана ў Садружнасці" атрымала кніга "Житие блаженной Евфросинии игуменьи монастыря Вседержателя Святого Спаса во граде Полоцк", выдадзеная Беларускім Экзархатам. Дыплома II ступені ў намінацыі "Мая краіна" ўдастоены фотаальбом "Минск — город и люди", які ўбачыў свет дзякуючы прадпрыемству "Артия-групп". Спецыяльнымі дыпломамі конкурсу адзначаны фотаальбом "20 лет СНГ", выдадзены Беларускім тэлеграфным агенцтвам, і кніга "Казахстан" (мінскі Міжнародны цэнтр культуры кнігі).

Дарэчы, упершыню міжнародны конкурс "Мастацтва кнігі" прайшоў у 2004 годзе пад эгідай Міждзяржаўнага савета па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі дзяржаў-удзельніц СНД. Пры ацэнцы выданняў міжнароднае журы ўлічвае змест кнігі, яе ілюстрацыі, дызайн, узровень падрыхтоўкі, змешчаную ў ёй навукова-даведачную інфармацыю, якасць паліграфіі. Гран-пры прысуджаецца толькі ўнікальнаму і фундаментальнаму выданню, якое стала найважнейшай падзеяй конкурснага года ў кніжнай супольнасці СНД.

Арт-лінія

# Час для "Легенды"

Усё, пра што са шчырым хваляваннем гаварылася напярэдадні ўрачыстага адкрыцця новага сезона ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, стала ўжо фактам гісторыі. Зрэшты, правільней будзе сказаць — не фактам, а гістарычнай падзеяй. Прэм'ера оперы "Сівая легенда", якая адбылася ў той святочны нядзельны вечар, — сапраўды падзея. Знакавая. Вартая нашага няпростага часу, калі суверэнная Беларусь, фарміруючы вобраз агульнай нацыянальнай ідэі, звяртаецца да каранёў, углядаецца ў глыбіні далёкай мінуўшчыны, вызначае сваё месца ў сённяшнім свеце, каб трывала заняць доўгачаканы "пачэсны пасад між народамі".



*Сцэна са спектакля "Сівая легенда".*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

Опера — мастацтва высокіх традыцый, яркіх сюжэтаў, узрушальных вобразаў, моцных пачуццяў: класічны "фармат", якому адпавядае "Сівая легенда". А непаўторнасць беларускай прэм'еры — у самабытным гукапісе, па-майстэрску спакроўленым з акадэмічнымі асновамі жанру. Яна паяднала таленавітых суаўтараў: пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, кампазітара Дзмітрыя Смольскага. Яна злучыла ў творчай працы вялікі калектыў пастаноўшчыкаў, выканаўцаў, удзельнікаў спектакля: Віктара Пласкіну, Міхаіла Панджавідзэ, Ніну Ламановіч, Аляксандра Касцючэнку, выдатных оперных салістаў.

Больш як 30 гадоў мінула з часу першай пастаноўкі гэтага твора. Сцёрліся з памяці многія дэталі колішняга спектакля. Гледачы старэйшага пакалення гатовыя былі салідарызавацца з маладой часткай публікі і ўспрымаць новую рэдакцыю "Сівой легенды" з чыстага ліста. Аднак на прэм'еры з уступнымі акордамі памяць ажыла, і аказалася, што і лейтматывы оперы, і яе ключавыя аркестравыя эпізоды, харавыя сцэны і разгорнутыя вакальныя нумары Кізгайлы, Ірыны, Рамана, Любкі, Найміта — на слыху: вось што значыць класіка! А новая рэдакцыя? Яна зрабіла "драму, напісаную музыкай" больш кампактнай і дынамічнай; падкрэсліла кульмінацыйныя вузлы ў стасунках персанажаў; кантрасты і заблытаныя канфлікты, што прапіналі саму атмасферу далёкай эпохі, выразным сцэнічным сімвалам якой стаў купал храма з нахіленым крыжам. Змрочныя феадальныя норавы, высакародны патрыятычны дух нобіляў, трагізм і ўзнёсласць кахання герояў легенды — усё гэта ёсць у музычнай драматургіі, якую падтрымлівае эфектная, часам эпатажная "карцінка" відовішча.

Пра "Сівую легенду" будуць яшчэ немала гаварыць і пісаць. Але што б ні казалі скептыкі ды крытыкі, Вялікі тэатр стварыў, нарэшце, сваю візітку. А ў такім разе варта, каб для прагляду спектакля знайшоў час кожны наш суайчыннік, нават калі ён прынцыпова не наведвае оперу. Гэта — справа гонару.

Повязі

# Неба майго дзяцінства

Бліжэй пазнаёміцца з Прэзідэнтам Казахстана Нурсултанам Назарбаевым, даведацца пра яго дзяцінства, цяжкасці, якія сустракаліся на жыццёвым шляху, можна дзякуючы фільму "Неба майго дзяцінства", прагляд якога адбыўся ў Доме дружбы.

**Дар'я ШОЦІК**

На ўрачыстасці старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова заўважыла: "Летапіс беларуска-казахстанскага сяброўства — гэта духоўнае і братэрскае ўзаемадзеянне. Пасольства Казахстана з'яўляецца ініцыятарам розных мерапрыемстваў, якія даюць уяўленне пра гэту краіну. Таварыства "Беларусь — Казахстан" садзейнічае такому супрацоўніцтву".

З вітальным словам выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Ергалі Булегенаў:

— Дзякуючы кіраўнікам дзвюх дзяржаў — Прэзідэнту Казахстана і Прэзідэнту Беларусі — насычанасць двухбаковых адносін узрастае. Спадзяюся, што дакументальны фільм "Неба майго дзяцінства" дасць магчымасць пазнаёміць беларускі народ з вялікай асобай — Нурсултанам Назарбаевым.

Творчыя праекты, якія рэалізуюцца ў Казахстане і Беларусі, спрыяюць умацаванню сяброўства, узбагачэнню міжкультурных сувязей. Дарэчы, у Доме дружбы прайшлі Дні казахстанскага кіно, прысвечаныя 20-годдзю дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Казахстан.

Кінастужка заснавана на рэальных падзеях, якія апісаны ў кнігах Прэзідэнта Казахстана "Без правых і левых", "Эпіцэнтр міру", "У сэрцы Еўразіі". Рэжысёрам фільма з'яўляецца Рустэм Абдрашаў. Пасол Казахстана расказаў, што ў фільме дакладна адлюстравана станаўленне асобы Прэзідэнта, яго характар, расчараванні і перамогі, мары (ён марыць стаць лётчыкам, але ўсё



*Кадр з фільма.*

складваецца інакш). У карціне паказаны сямейныя традыцыі, закладзеныя бабуляй будучага Кіраўніка дзяржавы. Любоў, пяшчота, дабрыня і ласка, якія прысутнічалі ў сям'і, дапамаглі Нурсултану стаць мэтанакіраваным чалавекам з добрым сэрцам.

Дарэчы, як паведаміў саветнік-паcланнік пасольства Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Айдар Шалбаеў, гэты фільм будзе мець працяг — плануецца зняць яшчэ дзве часткі.

Дні казахстанскага кіно пройдуць і ў Брэсце.

З-пад пяра

Паэт і празаік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіслаў Кавалёў узнагароджаны дыпломам лаўрэата літаратурнага конкурсу, які праводзіўся ў межах чацвёртага фестывалю літаратуры і культуры "Славянскія традыцыі-2012". Магілёўчанін стаў фіналістам у намінацыях "Малая проза" і "Гумарыстычная паэзія". Фестываль праводзяць Еўрапейскі кангрэс літаратараў, пісьменніцкія саюзы шэрагу славянскіх краін, Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага, вядомыя перыядычныя выданні.

**Уладзімір ДУКТАЎ**

Група віцебскай моладзі прыняла ўдзел у міжнародным беларуска-польскім адукацыйным праекце па еўрапеістыцы, які ладзіўся ў Польшчы. Праект уключаў знаёмства з помнікамі гісторыі і культуры, заняткі па еўрапеістыцы і польскай мове, а таксама тэатральную праграму. Так, юнакі і дзяўчаты падрыхтавалі кампазіцыю "Я буду маліцца і сэрцам, і думамі", аснову якой склалі біяграфічныя факты з жыцця Янкі Купалы, яго вершы і ўрывак з "Паўлінкі". Кіраўніцтва польскай грамадскай арганізацыі "Адукацыя без межаў", якая другі год запар прымае віцебскую моладзь, прапанавала на будучы год падрыхтаваць спецыяльны тэатральны праект. Яго ўдзельнікаў чакаюць акцёрскія трэнінгі і работа над сцэнічнымі мініяцюрамі .

**Юрый ІВАНОЎСКІ**

З нагоды 20-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Казахстан адбудзецца творчы вечар народнага паэта Казахстана Алжаса Сулейменава. Аматараў паэтычнага слова чакаюць 18 верасня ў вялікай зале Дома літаратара а 17-й гадзіне.

**Алеся БАЦЮСЬ**

Традыцыйны ўрачысты ўрок на тэму "Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь", што праводзіцца на пачатку новага навучальнага года, асабліва запомніцца старшакласнікам мінскай гімназіі № 56: тым, каму споўнілася шаснаццаць, атрымалі ў падарунак кнігу "Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь" выдавецтва "Пачатковая школа". Што значыць быць грамадзянінам? Безумоўна, гэта аддана працаваць на карысць роднай краіны, ведаць яе гісторыю і культуру. У гонар Года кнігі, 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы, 100-годдзя Максіма Танка гучалі творы песняроў беларускага народа ў выкананні школьнікаў. Госця імпрэзы паэтэса Вольга Норына чытала вершы, прысвечаныя юбілеям класікаў.

**Вікторыя ВАЙТУСЁНАК**

З 6 верасня па 7 кастрычніка ў Музеі гісторыі горада Гомеля праходзіць фотавыстаўка Леаніда Пінскага, прымеркаваная да 870-годдзя з'яўлення першых летапісных звестак пра Гомель. Леанід Пінскі не толькі прадставіў свае работы, але і падарыў гораду каля 100 прадметаў фотатэхнікі: у хуткім часе ў музеі адкрыецца філіял — Музей фатаграфіі. А пакуль што гамяльчане змогуць пабачыць фотаздымкі з гарадскіх свят, партрэты гараджан розных часоў, пейзажы. Гэтымі ж днямі будуць падведзены вынікі акцыі "Падарунак Гомелю!", фотаконкурсу і конкурсу эсэ.

**Паліна ПІТКЕВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокае спачуванне пісьменніцы Паповай Алене Георгіеўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю МАЦІ.

# Муры: на абсягах кантынента

"Круглы стол" з нагоды правядзення Еўрапейскіх дзён спадчыны супольна ладкавалі тры ведамствы: Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Інстытут культуры Беларусі і Музей гісторыі горада Мінска.



*Сустрэча за "круглым сталом". Мадэратар — начальнік аддзела Інстытута культуры Беларусі Ала Сташкевіч.*

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Кастуся Дробава**

### З ДАЛІКАТНЫМ ПАДЫХОДАМ

Менавіта супольныя праекты і былі ў цэнтры ўвагі ўсіх удзельнікаў — прадстаўнікоў дзяржаўных і недзяржаўных структур, якія маюць непасрэднае дачыненне да спадчыны. Багатай і непаўторнай, якую, нягледзячы на гэта, а нават хутчэй з-за ўнікальнасці, неабходна клапатліва зберагаць для нашчадкаў.

Зрэшты, тэма пасяджэння ў пакоях Музея гісторыі горада Мінска трошкі дэталізавалася: "Гісторыка-культурныя каштоўнасці як аб'екты культурнага турызму".

Наша краіна ўсё часцей пазіцыяніруе сябе як прываблівая для падарожнікаў. Прычым, менавіта тых, хто пашырае свае веды ў знаёмстве з культурай, літаратурай, традыцыямі розных дзяржаў.

Невялічкая частка статыстыкі, якая агучвалася падчас пасяджэння: з моманту адкрыцця Нясвіжскага замка — рэзідэнцыі Радзівілаў, ці, паводле афіцыйнага найменя, Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж", яго наведалі больш як 190 тысяч турыстаў. А ў наступным годзе чакаецца больш як трыста тысяч. На наступны год запланавана выдаткаваць 590 мільярдаў рублёў на правядзенне ўсіх рэстаўрацыйных і аднаўленчых работ у краіне. Пра гэта паведаміў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Віктар Кураш. Паводле яго слоў, цяпер у спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей знаходзіцца 5 555 аб'ектаў. Спіс папаўняецца! Часам — за кошт аб'ектаў, якія ўваходзілі ў рэестр, складзены за савецкім часам. З уласных падарожжаў па Беларусі засведчу: такія пабудовы і цяпер патрабуюць да сябе ўвагі. Ды і самі шыльды на іх сталі ўжо гісторыяй. Да прыкладу, на царкве Свята-Пакроўскага жаночага манастыра, што ў Віцебскай вобласці, напісана: "Міністэрства культуры БССР. Помнік архітэктуры. Ахоўваецца дзяржавай".

На сённяшні дзень каля 10 законаў краіны так ці інакш звязаны з аховай гісторыка-культурнай спадчыны. Але галоўны з іх — "Аб ахове гісторыка-культурных каштоўнасцей". Летась у яго былі ўнесены дапаўненні. Заключана пагадненне і з пракуратурай Рэспублікі Беларусь — каб да парушальнікаў законаў можна было прымяняць пэўныя санкцыі. Пра іх раз-пораз паведамляецца ў прэсе. Але гэтым разам удзельнікі "круглага стала" мелі на мэце іншыя задачы. Да прыкладу, акцэнтаваць увагу на неабходнасці стварэння інфраструктуры каля гістарычных аб'ектаў. Трэба прывесці ў парадак дарогі, стаянкі, кавярні. Каб чалавек, які вырашыць наведаць помнік даўніны, годна пачуваў сябе на гэтай зямлі, быў заклапочаны менавіта спасціжэннем культурных здабыткаў народа, а не патанаў у працэсе бытавых праблем, якія даводзіцца рашаць самому.

Апошнім часам у краіне ўсё часцей гавораць пра турызм як фактар устойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця таго альбо іншага рэгіёна. Вось з гэтага і зыходзілі прамоўцы. Як жа так далікатна ўключыць культурную спадчыну ў сучасны кантэкст жыцця, каб пазбегнуць пры гэтым як мінімум дзвюх памылак: пры выкарыстанні вырабаў майстроў народнай творчасці альбо фальклору не адаптаваць іх да рэалій XXI стагоддзя і патрэб звычайнага "рынкавага" спажыўца (а ён не надта дбае пра аўтэнтычнасць, галоўнае — каб было прыгожа); і — "забыцця" тых альбо іншых рамёстваў з прычыны знікнення іх прадстаўнікоў. Гэта таксама праблема: майстры, якія прынялі ў спадчыну ад сваіх дзядоў спаконвечныя, унікальныя тэхналогіі вырабаў, таксама сталі дзядамі. І не заўсёды ў іх ёсць вучні, якія могуць працягваць справу з тым жа ўзроўнем выканання.

### ТОП-5

Гэта, між іншым, сусветная тэндэнцыя, на якую звярнула ўвагу прадстаўнік Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Наталля Шчасновіч. У 2001 годзе была прынятая праграма "Сусветная спадчына і ўстойлівы турызм", дзе адзначана: аб'екты, асабліва са спісу ЮНЕСКА, прыцягваюць да сябе ўвагу. Адпаведна, вакол іх шмат турыстаў і ўсё больш абвастраецца праблема захавання аўтэнтычнасці. Што да Беларусі, то сярод аб'ектаў, якія ўваходзяць у спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА — чатыры знакавыя помнікі. Гэта Белавежская пушча (уключана ў спіс у 1992 годзе), замкавы комплекс "Мір" (2000), архітэктурна-культурны комплекс Рэзідэнцыя Радзівілаў у Нясвіжы (2005) і Геадэзічная Дуга Струвэ (2005). Яны шырокавядомыя па-за межамі краіны.

Бясспрэчна, любы турыст не прамінае і музеі, якія сустракаюцца на яго шляху. Дзеля іх часам і прыязджаюць у той ці іншы рэгіён. З улікам сусветнай вядомасці, а таксама прыярытэтаў айчынных турыстаў вызначыліся лідары — як сховішчы калектыўнай памяці стагоддзяў. Пяцёрка найбольш наведваемых музеяў Беларусі выглядае так: Мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой"



*Да Еўрапейскіх дзён спадчыны прымеркаваная фотавыстаўка "Спадчына і турызм". Яна працуе ў Музеі гісторыі Мінска да 21 верасня.*

(больш як 338 тысяч наведванняў за 2011 год), Гомельскі палацава-паркавы ансамбль (больш як 304 тысячы), Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (219 тысяч), Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж" (210 тысяч) і Замкавы комплекс "Мір" (больш як 192 тысячы наведванняў).

### ТУРЫСТ ЯК ФЕНОМЕН ГРАМАДСТВА

Аблічча турыста — падарожніка ў джынсах і кедах з цяжкім заплечнікам — цягам гадоў трансфармавалася. І цяпер часцяком гэта рэспектабельны чалавек на ўласным аўтамабілі з сям'ёй альбо сябрамі. Але, як і раней, высокаадукаваны інтэлігентны чалавек імкнецца жыць не набытым, а ўбачаным. І абагачае сябе сузіраннем і асэнсаваннем культурнай матэрыяльнай і нематэрыяльнай спадчыны. На "круглым стале" акцэнтавалася яшчэ адна сусветная тэндэнцыя: 90 працэнтаў турыстаў — гэта самастойныя падарожнікі. Спецыялісты трошкі зазірнулі ў будучае. Паводле падлікаў Сусветнай турыстычнай арганізацыі, у 2020 годзе ў міжнародных падарожжах будзе ўдзельнічаць каля 1,5 млрд. чалавек.

Вось чаму акцэнтуюць сацыяльна-эканамічныя перавагі рэгіёнаў, якія маюць што паказаць. Турызм нясе вялікі імпульс і шмат выгод для развіцця краін. Але акрамя іншага ён стварае мноства праблем і мае шэраг наступстваў для прыроды і людзей, якія ўцягваюцца ў турыстычны бізнес. Культурныя каштоўнасці могуць быць падвергнуты націску і некарэктным адносінам з боку наведвальнікаў. Як жа ўраўнаважыць шалі, на якіх, з аднаго боку, турызм з усё большым яго размахам, а з іншага — культура дзяржавы, якая патрабуе далейшага развіцця?

### ...+ ГЛОБУС БЕЛАРУСІ

Глабальныя праблемы абазначаюць маленькія рэальныя крокі на шляху іх вырашэння. Да прыкладу, каб турыст не блукаў па дарогах, не лішне было б мець пад рукамі турыстычныя карты. Удзельнікамі называліся прыклады дзяржаў, дзе такія карты распаўсюджваюцца бясплатна. І добра б, каб адразу на вакзале. Існуе таксама турыстычны каляндар, куды ўносяцца найбольш значныя культурныя падзеі ды фестывалі, якія маюць адбыцца ў краіне. Ды вось бяда: даты імпрэз часцяком пераносяцца, а білеты на іх закупленыя загадзя. Нарэшце, ствараюцца рэкламныя ролікі, якія прапагандуюць лепшае з таго, што захавана, у тым ліку і на турыстычных выстаўках-кірмашах. Паводле прадстаўніка Міністэрства замежных спраў Беларусі Андрэя Сухарэнкі, турыстычныя аб'екты — гэта тое, па чым нас пазнаюць на міжнародных пляцоўках менавіта як дзяржаву з вялікімі культурнымі традыцыямі.

Толькі аб'екты — важкая, але ўсё ж частка турыстычнага бізнесу. Па дарозе да помнікаў не лішне даведацца пра краіну. Таму часцей гавораць не пра асобныя кропкі на карце, а пра цэльныя турыстычныя маршруты. Іх у нас, паводле дырэктара Дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Вадзіма Кармазіна, больш як тысяча. Для міжнароднай супольнасці прэзентуецца менш як дзясятак: каб меці дакладныя вынікі.

Але калі існуе маршрут і ёсць экскурсія, павінны быць высокакваліфікаваныя гіды. Пра іх атэстацыю, неабходнасць супрацоўніцтва з недзяржаўным сектарам таксама вялася дэталёвая гаворка. У прыватнасці, супрацоўнік Інстытута культуры Беларусі, ганаровы старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс згадаў, што сёлета спаўняецца 40 год, як быў створаны праект "Залатое кальцо Беларусі". Пазней з'явілася некалькі прапаноў па ўключэнні ў кальцо помнікаў гісторыі, але праект дагэтуль не рэалізаваны. Вось дзе шырокае поле для супрацоўніцтва розных ведамстваў! Таму што акрамя паказу пэўных аб'ектаў і краявідаў можна згадваць выбітных асоб, якія тут дзейнічалі, і іх здабыткі — такім чынам дасягаецца цэльнае ўспрыманне дзяржавы.

### «ТОЛЬКІ АЛТАР НЕ ПЕРАВЯРНІЦЕ!»

Асаблівасць Дзён еўрапейскай спадчыны — у тым, што пытанне дэталёва разглядаецца з усіх бакоў. Сёлета яны праходзяць, як вынікае з гэтых нататак, пад дэвізам "Спадчына і турызм". Летась праходзіў "круглы стол" — "Спадчына і рэлігія". Зрэшты, прысутнасць на перамовах духоўных асоб — прыкмета нашага часу. Шмат якія аб'екты гісторыка-культурнай спадчыны з'яўляюцца святынямі. Гэта храмы, абразы, музеі.

У Мінскім касцёле св. Сымона і Алены (так званы Чырвоны касцёл), да прыкладу, знаходзіцца поўная копія Турынскай Плашчаніцы — адна з сямі, што існуюць у свеце. Гэта рэдкая хрысціянская святыня, і паглядзець яе імкнуцца тысячы людзей. Да таго ж, з цікаўнасцю падарожнікі наведваюць касцёл у Нясвіжы, іншыя дзеючыя храмы. Узнікае пытанне: ці дапушчальна гэта падчас набажэнстваў? Прысутны на "круглым стале" ксёндз-пробашч касцёла св. Сымона і Алены ў Мінску Уладзіслаў Завальнюк выказаў думку, што трэба спрыяць распаўсюджванню ведаў, і прысутнічаць турыстам у храме можна, толькі "каб алтар не перавярнулі" — дадаў ён на ўсмешку. Гаварылася і пра тое, што арганная музыка, якая гучыць у храмах, магла б зацікавіць турыстаў і ўпрыгожыць вандроўку.

І прага пазнання, і імкненне да падарожжаў, і жаданне даведацца пра мінулае як мага больш згуртоўвае людзей на падмурку іх агульнай культуры. А значыць, будуе масток у будучыню.

# Сяргей Новік-Пяюн:

# «Маю напісанага шмат матэрыялу...»

Біяграфія заходнебеларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906 — 1994) сёння, у прынцыпе, добра вядомая. Артыкулы пра аўтара некалі папулярнай песні "Зорачкі" (пасля Вялікай Айчыннай вайны Рыгор Шырма апублікаваў яе як народную) змешчаны ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", "Беларускай Энцыклапедыі", энцыклапедычным біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі".



Сяргей Новік-Пяюн. 1974 г.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Аўтары гэтых артыкулаў — Генадзь Каханоўскі, Любоў Гарэлік, Янка Саламевіч. Зразумела, на кожным з тэкстаў — пячатка свайго часу. Шмат значыў ужо сам факт уключэння біяграфіі "беларускага савецкага паэта" ў "ЭЛІМБел" у 1987 годзе (а здалі ў набор чацвёрты том 28 лістапада 1985 года). Тады персаналія ўмясцілася ў чатырнаццаць радкоў. І ні слова — пра шматгадовыя лагерныя, астрожныя пакуты Сяргея Міхайлавіча. У іншых тэкстах — ужо праўдзівы жыццяпіс…

Асабіста я "адкрыў" паэта Сяргея Новіка-Пеюна па кнізе "Заўсёды з песняй" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 1984). Пра яе і напісаў невялікую рэцэнзію і надрукаваў у шматтыражцы Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча "Политработник" — 27 кастрычніка 1984 года. Матэрыял прайшоў у друк без усялякіх праблем. Пісаў жа пра кнігу вязня Калдычэўскага фашысцкага канцлагера, пра вершы, якія беларускі паэт стварыў у гітлераўскім палоне. А тое, што Сяргей Міхайлавіч быў яшчэ вязнем і ГУЛАГа, у Львове і ведаць ніхто не ведаў. Як не ведаў, дарэчы, і я сам…

Праз некаторы час, знайшоўшы адрас аўтара кнігі, адправіў паэту ліст і газету з публікацыяй.

19 мая 1985 года Сяргей Міхайлавіч напісаў мне ў адказ: *"Добры дзень, глыбокапаважаны Аляксандр Мікалаевіч! Ад усяго сэрца дзякую Вам за ліст ад 16.04.1985 года і газету «Политработник» № 28 (1117) за 27.X.1984 года з Вашай рэцэнзіяй на маю кнігу «Заўсёды з песняй» П. Н. «Беспрецедентная лирика».*

*Мне цікава ведаць: ці Вы «заўважылі» маю кнігу ў львоўскай кнігарні? Бо ў кнігарнях Мінска яе не было, далі толькі ў раённыя і абласныя кнігарні БССР..."*

Не, кнігу я набыў у Беларусі. Верагодней за ўсё — у кнігарні ў Мар'інай Горцы. Набыў тады і новы зборнік вершаў Рыгора Барадуліна на рускай мове — "Каждый четвёртый". Памятаючы са школьнага чытання іншыя яго кнігі — "Рум", "Баладу Брэсцкай крэпасці", "Суровую вымову", па-руску адкрываў Барадуліна наноў. Тым больш што пераклады былі зробленыя любімым мною Ігарам Шклярэўскім (і яго "Неназванную силу" я доўга вазіў за сабою ў курсанцкім чамадане). Пра зборнік Рыгора Іванавіча таксама напісаў у нашу шматтыражку.

…Чытаю ліст Сяргея Міхайлавіча — і як быццам вяртаюся ў Львоў, згадваю тую "львоўскую" зацікаўленасць родным беларускім словам. *"Пішу я ад 1921 года, друкуюся з 1926 года. Аб маім жыццяпісе вы часткова ведаеце з прадмовы да кнігі Алега Лойкі — майго «падшэфнага» юнага паэта, які быў вучнем 3-га класа, калі ягоная маці прывяла ўпершыню да мяне. Алег называе мяне сваім «першым настаўнікам на літаратурнай сцежцы». Пра ўсё Алег не напісаў, бо на гэта спатрэбілася б шмат часу і… паперы.*

*Вас цікавіць, як пісалася ўсё сабранае ў кніжку. Мушу Вас папярэдзіць, што кніга мая была задумана паэтамі Уладзімірам Паўлавым і Алегам Лойкам не гэткай брашуркай, а зусім іншай. Для кнігі я даў 111 вершаў, 21 песню — тэксты і ноты (мае), 21 фотакопію маіх карцін (чорна-белыя і каляровыя), п'есу «Ёлка Дзеда Мароза», 2 апавяданні — «Андрэйка» і «Цішка». (Прыкладаю да гэтага лісту выпіску з тэматычнага плана выдавецтва «Мастацкая літаратура» 1984 года, з чаго Вы даведаецеся, што кніга мелася быць на 6 аркушах, а не на 1,5, і ў цвёрдай вокладцы. Найбольш*

> *Максім Танк, атрымаўшы ад аўтара "Зорачак" апошнюю яго кнігу — "Песні з-за кратаў", пісаў Сяргею Міхайлавічу 12 верасня 1993 года: "…Вершы напісаны шчыра і проста, без ніякіх модных выкрутасаў. І ў гэтым — іх грамадская і мастацкая вартасць".*

*цікавыя мае вершы не былі ўключаны ў кнігу. Бачыце, якую брашурку зрабілі…"*

Забягаючы наперад, нагадаю, што ў Сяргея Міхайлавіча была выдадзена яшчэ адна кніга "дарослай" паэзіі — "Песні з-за кратаў". У 1993 годзе ў "Мастацкай літаратуры". У гэты зборнік увайшло 78 твораў — вершы, песні, паэма "Цярністы шлях".

"…*Вас цікавіць пытанне: «Як, як пісалася ўсё сабранае ў кнігу?»* — піша далей Сяргей Міхайлавіч. — *Мушу Вам паведаміць, што стваралася і «запісвалася» ў памяці, бо ў астрозе, у адзіночцы, у лагеры смерці Калдычэва я не меў ні паперы, ні алавіка. Усё ствараў «у галаве» і «запісваў» у памяці. І толькі пасля вызвалення мяне падчас*




*расстрэлу савецкімі партызанамі я ўсё створанае ў няволі запісваў на паперы. Усе свае вершы і песні, пачынаючы ад 1921 года, я ведаю на памяць. Маю рукапісную кнігу сваіх песень — тэксты і музыку. Чакаючы выканання прысуду гітлераўцаў — расстрэлу, у адзіночцы з 14 па 25 мая 1944 года (з серады на чацвер), я стварыў і «запісаў» у памяці 4 (чатыры) песні: 1) «Мама, матуля мая» — 44 (сорак чатыры куплеты), 2) Раманс «Белы снег» — 5 (пяць) куплетаў, 3) «Краскі» — 3 куплеты, 4) «Я так цябе люблю» — 3 куплеты. Гэта за адну ноч. Шчыра прызнаюся: я і сам не ведаю, як гэта ўсё «трымаецца» ў маёй памяці. Можа таму, што я ніколі не падаю духам. Нават у лагеры смерці да мяне звярталіся сябры нядолі на розных мовах: «Што рабіць?» — Я адказваў: «Што рабіць не ведаю, але ведаю, чаго не рабіць! Не быць баранамі! Павядуць на расстрэл, бегчы, ану ж куля-дура міне!» І ўсе, хто мяне паслухаў, пабеглі і ўратаваліся, толькі я сам быў паранены. Дзякуючы партызанам быў уратаваны.*

*Чытаючы ў Вашай рэцэнзіі радкі: «…в 1944 году из-под пера выходит "Острожная песня"…» Зараз Вы ведаеце, што ніякага «пера» я не меў. Маю напісанага шмат матэрыялу, мабыць, кніг на 20 (дваццаць), але дачакацца іх надрукавання вельмі цяжка. У выдавецтве «Юнацтва» рыхтуецца мая кніга «Зорачкі ясныя», якая запланавана на 1986 год. Здаў у тое ж выдавецтва трэцюю кнігу. 27 жніўня 1986 года мне споўніцца 80 гадоў з дня нараджэння. Я пенсіянер, маю 72 рублі пенсіі. Толькі 4 снежня 1984 года мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў БССР. 22 красавіка 1985 года мне ўручылі членскі білет Саюза пісьменнікаў СССР.*

*Я быў бы вельмі рады сустрэцца з Вамі і асабіста мог бы Вам расказаць аб сабе. Маё жыццё вельмі складанае, нават Жуль Верн не прыдумаў бы нешта падобнае. Паўтараю: А. Лойка ў прадмове да маёй кнігі шмат чаго не дагаварыў аб маім жыцці…"*

Тады, зразумела, — і калі пісаў пра кнігу, і калі чытаў ліст, — я нічога не ведаў пра біяграфію Сяргея Новіка-Пеюна "па-за межамі" Вялікай Айчыннай. Ці ведаў надзвычай мала ў звязку з 1920-мі гадамі. Ды і Сяргей Міхайлавіч не спяшаўся расказваць. Ужо пазней, з наступных лістоў, а пасля і пры першай сустрэчы ў ліпені 1985 года сёе-тое стала мне зразумелым. Хаця і ўявіць гэта таксама спярша было не так проста. І пра высылку ў 1926 — 1931, наступны арышт па вяртанні і высылку ў Слонім. А быў жа арышт і ў 1939-м, перад самым вызваленнем Заходняй Беларусі. І тым больш — пра арышт у снежні 1944 года, калі, здавалася, увесь цяжар выпрабаванняў павінен застацца ззаду. Ды не, так толькі здавалася. А ў Новіка-Пеюна за арыштам — яшчэ 14 лагерных гадоў на Калыме. Рэабілітацыя прыйшла толькі ў 1958-м…

> *…Вас цікавіць пытанне: «Як, як пісалася ўсё сабранае ў кнігу "Песні з-за кратаў"»? Мушу Вам паведаміць, што стваралася і «запісвалася» ў памяці, бо ў астрозе, у адзіночцы, у лагеры смерці Калдычэва я не меў ні паперы, ні алавіка.*

З ліста паэта: *"Я Вам шчыра ўдзячны, дарагі Алесь Мікалаевіч, за Вашу рэцэнзію, тым больш, што ні «Полымя», ні «Маладосць», ні «Літаратура і мастацтва» не адгукнуліся…*

*Пасылаю да Вас часопіс «Беларусь» № 4 за красавік 1985 года, у якім змешчаны мой нарыс аб гісторыі песні «Што за хлопец, што за дзяўчынка?».*

*Яшчэ хачу Вам сказаць, што жыву я адзін, бо мая сям'я знішчана гітлераўцамі ў лагеры смерці Калдычэва.*

*А ў парадку «смяшынак» напішу: піянеры-цімураўцы 60-е школы горада Мінска на маіх дзвярах намалявалі чырвоную зорку і больш я іх не бачыў… Адным словам — «узялі шэфства нада мной».*

*…Даруйце, калі ласка, за «друкарскую памылку». Зычу Вам добрага здароўя і ўсяго найлепшага.*

*З сардэчным прывітаннем, глыбокай пашанай і ўдзячнасцю*

*Сяргей Новік-Пяюн".*

"Заўсёды з песняй" — не проста зборнік. Пры ўсіх момантах, якія і акрэсліў у сваім лісце Сяргей Міхайлавіч, кніга і для яго была падзеяй. А як жа іначай?! Уявіце сабе, што папярэдняя яго кніга выйшла ў 1939 годзе — п'еса "Прадка пад крыжам" (Вільня). Яшчэ тры п'есы выйшлі асобнымі выданнямі ў 1927 годзе. Таму і важныя былі для Новіка-Пеюна водгукі чытачоў, крытыкі. Максім Танк, атрымаўшы ад аўтара "Зорачак" апошнюю яго кнігу — "Песні з-за кратаў", пісаў Сяргею Міхайлавічу 12 верасня 1993 года: "…Вершы напісаны шчыра і проста, без ніякіх модных выкрутасаў. І ў гэтым — іх грамадская і мастацкая вартасць. Яны не выветрываюцца, як пух, з памяці, і да іх мы часта вяртаемся ў трывожныя хвіліны жыцця, можа, таму, каб сказаць сабе: «Бачыш, праз якое пекла прайшлі наш народ і яго паэт і — не здаліся…»" Шмат хто ўсё ж адгукнуўся і на кнігу "Заўсёды з песняй": лістамі, паштоўкамі, тэлефоннымі званкамі, самымі добрымі словамі…

Мажліва, прыйдзе час, і каторае з выдавецтваў, звярнуўшыся да архіваў, выпусціць у свет грунтоўны том спадчыны Маладога Дзядка (нагадаем адзін з псеўданімаў заходнебеларускага паэта). Відаць, і эпісталярый зойме ў ім адпаведнае месца.

# Паэт-наватар

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)

У другой палове 50-х гг. XX ст., пасля лёсавызначальнага XX з'езда КПСС, які, апрача ўсяго, значна пашырыў свабоду мастацкага самавыяўлення, Максім Танк апублікаваў сваё паэтычнае прызнанне:

*Перш непакоіўся,*
*Як сваю думку ўпрыгожыць.*
*І, як дзікун той,*
*Стараўся абвешаць яе*
*Цацкамі,*
*Рознакалёрнымі стужкамі,*
*Пацеркамі —*
*Старым і аджыўшым*
*Свой час рэквізітам.*
*Быццам зары ці траве*
*Патрэбны хімічныя фарбы,*
*Грому — літаўры і трубы.*
*Толькі шкада змарнаванага часу.*
*Сёння стараюся забыць*
*Вобразы каменнага веку,*
*У якім я радзіўся;*
*Словы бронзавага веку,*
*У якім я хрысціўся;*
*Забыць багоў жалезнага веку,*
*З якімі не раз я спрачаўся, —*
*Каб у наш час*
*Міжпланетных палётаў*
*І вершу даць строгую*
*Форму ракеты*
*І вывесці беспамылкова на трасу —*
*Да сэрца.*

Перад намі — паэтычная гіпербала. Бо хоць юны паэт з гонарам сцвярджаў: "У мяне кожны радок — гэта метафара", — усё ж ён і ў даверасьнёўскі час, у г. зв. "каменны век", не быў тым "дзікуном", які дбаў толькі пра тое, каб "сваю думку ўпрыгожыць", абвешаць "цацкамі, рознакалёрнымі стужкамі, пацеркамі…", а не пра сутнасць самой думкі. Вось, да прыкладу, як па-імажыністку густавобразна маляваў ён у вершы "Вільня" горад сваёй маладосці: "*Анучай хмара сцёрла сонца, // Вясенні першы дождж заплакаў. // Па стрэхах і па шэрай гонце // Разліўся вечар сінім лакам*". Калі б паэт быў "класічным" імажыністам, падобныя фарбы на паэтычнае палатно клаліся б і далей. Аднак ужо ў другой страфе гэтага верша выблісквае рэалістычная сацыяльная дэталь, тая "думка", дзеля якой, уласна, і з'явіліся напачатку "цацкі" такіх незвычайных метафар: "*І ноч прыйшла з прадмесця вуліц, // Палезла на званіцаў вышкі. // Сабакам чорным вецер скуліць // Пад шэрым мурам, пад лукішскім*".

З часам у паэтыцы Максіма Танка змены, безумоўна, адбываліся. Гэта пазначылася на вобразнасці, стылістыцы, эўфаніі, рытміцы… Ён і для сябе, і для іншых вершатворцаў канчаткова сцвердзіў: "Сапраўдная паэзія пачынаецца не ад слоўнай і рытмічнай эквілібрыстыкі, але — ад думкі". Метафара, няхай сабе і непаўторна-індывідуальная, нечаканая, стала вызіраць далёка не з кожнага яго радка. Метафарычны стыль яго ранняй паэзіі ўсё часцей стаў нагадваць аўталагічны, дзе на першым месцы — паэзія "слоў простых". Затое кожны ашчаджаны вобраз-троп (параўнанне, метафара, эпітэт і г.д.), як своеасаблівая "страла ў сутнасць" (М. Рыльскі), стаў з'яўляцца там і тады, дзе ён сапраўды вельмі патрэбны, дзе без яго не абысціся. Прычым канкрэтна-пачуццёвая вобразнасць у значнай ступені саступіла месца ўмоўнаасацыятыўнай, разлічанай на веды, жыццёвую дасведчанасць чытача, магчымасці яго лагічна-вобразнага мыслення. Максім Танк пачаў часта і вольна звяртацца да алюзій, рэмінісцэнцый. У той жа час значна радзей сталі гучаць "званочкі рыфмаў", пашырыў свае ўладанні белы верш. Што да рытмікі і метрыкі, то абумоўленая творчай сталасцю паэта шырыня і філасафічная заглыбленасць яго мастацкага свету запатрабавала і тут пэўных карэктываў. "*Калісьці хапала мне // Ямбаў, харэяў, // Адмераных, // Строгіх радкоў. // А зараз пішу // У рытме свайго // Арытмічнага сэрца, // Зямлі і падзей*", — так выказаўся ён у вершы "Калісьці хапала мне…".

Праўда, калі быць абсалютна дакладным, то і да памятнага верасня 1939 года паэтычнае сэрца Максіма Танка нярэдка "давала збоі" ў выглядзе парушэння рытмічнага суладдзя сілаба-тонікі. Так, ямчэ ў першым яго зборніку "На этапах" (1936) свабодныя формы верша, паводле маіх падлікаў, складалі 4 працэнты. Не менш іх было ў кнігах "Журавінавы цвет" (1937) і "Пад мачтай" (1938). Аднак у савецкі перыяд творчасці ажно да сярэдзіны 50-х гг. XX ст. да верлібра Максім Танк не звяртаўся. Не мог звяртацца. Верлібр яшчэ ў канцы 20-х — 30-я гады таго ж стагоддзя з усёй савецкай паэзіі быў бязлітасна выкаранены (нярэдка разам са сваімі стваральнікамі) — як заходняя "мода", "мёртванароджанае дзіця", што з'явілася з "індывідуалістычных тэндэнцый дробнай буржуазіі Амерыкі і Заходняй Еўропы" (І. Маца).

Такія экстралітаратурныя ўмовы, аднак, не спалохалі беларускага паэта. Вершаваны аналагі рытму "зямлі і падзей", як і свайго "арытмічнага сэрца", ён пачаў шукаць у рытміцы народна-паэтычнай тонікі, у рытмічнай разняволенасці традыцыйнага сілаба-танічнага верша. Ніводны з беларускіх паэтаў першай паловы XX ст. (як, зрэшты, і другой паловы) не можа параўнацца з Максімам Танкам па важкасці метра-рытмічнага рэпертуару. Апрача дзясяткаў памераў "чыстай" сілаба-тонікі, усіх відаў танічнага верша, імітацый антычных гекзаметраў і пентаметраў, тут мы знойдзем трохскладовікі і двухскладовікі з пераменнай анакрузай, густа пірыхіізаваныя вершы, радкі з цэзурамі, з цэзураванымі нарашчэннямі і ўсячэннямі, з пропускамі складоў на метрычна слабых і нават метрычна моцных месцах у вершаваных радках… Усё гэта па-свойму расхіствала ўсталяваныя межы сілаба-тонікі, рыхтавала глебу для арганічнага з'яўлення ў творчасці паэта свабоднага верша. І калі пасля XX з'езда КПСС наступіла т.зв. "хрушчоўская адліга", Максім Танк адным з першых ва ўсёй тагачаснай паэзіі звярнуўся да верлібра. Так, калі ў зборніку "След бліскавіцы" (1957) свабодных вершаў не было зусім, то ў кнізе "Мой хлеб надзённы" (1962) іх налічвалася ўжо 6 працэнтаў, у "Глытку вады" (1964) — 16, а ў "Перапісцы з зямлёй" (1967) — ажно 32. Паколькі ж Максім Танк заслужана ўваходзіў у лік самых вялікіх тагачасных савецкіх паэтаў (і не толькі па колькасці дзяржаўных прэмій, узнагарод, высокіх пасад), паколькі яго аўтарытэт у літаратуры быў надзвычай высокі і яго кнігі тут жа перакладаліся на рускую мову і станавіліся вядомымі ва ўсіх кутках агромністай краіны, беларускі паэт адчувальна паўплываў на нараджэнне (або адраджэнне) верлібра не толькі ў роднай беларускай, але і ва ўсёй савецкай паэзіі. Менавіта ягоная творчасць адкрыла рытмічныя шлюзы верлібра, якія да таго часу былі наглуха зачыненыя. Побач з ім ці неўзабаве пасля яго да верлібра звярнуліся П. Панчанка, С. Дзяргай, А. Лойка, А. Разанаў і іншыя ў беларускай паэзіі, М. Рыленкаў, У. Салаухін, Я. Вінакураў, В. Бокаў — у рускай, І. Драч, М. Вінграноўскі, Л. Кастэнка, У. Лучук — ва ўкраінскай, Я. Крос, Д. Ваарандзі і іншыя — у эстонскай, Э. Межалайціс, Ю. Марцінкявічус — у літоўскай…

Разам з тым Максім Танк, у адрозненне ад некаторых сваіх аднагодкаў і маладзейшых калег, не спакусіўся адноснай лёгкасцю напісання верлібраў (як жа, не трэба адшукваць рыфмы, захоўваць вершаваны памер!). Не стаў ён і патураць модзе некаторых заходніх краін (той жа блізкай яму Польшчы), паэты якіх амаль цалкам перайшлі на верлібр. Ва ўсіх яго кнігах 1970-х—пачатку 1990-х гг. свабодны верш мае ганаровае, але не дамінуючае месца, займаючы прыблізна адну трэць папяровай плошчы. Паэт, пры ўсім наватарстве, цвёрда трымаўся ў сваёй творчасці нацыянальных беларускіх традыцый — як у змесце, так і ў форме. Мераючы "ўсе вартасці, ісціны… мужыцкім аршынам — працай", успрыняўшы як "хлеб надзённы" неспакой і клопаты за родную зямлю, яе "ўраджай, спакойны сон, за дрэва кожнае ў гаях, за весніх песень перазвон", Максім Танк паважна ставіўся і да народна-песеннай тонікі, і да купалаўска-коласаўскіх традыцый літаратурнага сілаба-танічнага верша. Ён выдатна разумеў: рытмаінтанацыйныя, а таксама эўфанічныя і страфічныя магчымасці, якія можа даць нашым паэтам родная беларуская мова і народна-песенная творчасць, беларускай паэзіяй за нейкія паўтары сотні гадоў яе сілаба-танічнага развіцця яшчэ далёка не вычарпаныя.

У гэтым сэнсе паказальны яго апошні прыжыццёвы зборнік вершаў "Errata" (1996) — складзены самім паэтам і яшчэ пры яго жыцці (13.3.1995) здадзены ў набор, хоць і выдадзены тады, калі паэта ўжо не стала. (*Errata* — кнігавыдавецкі тэрмін, уклейка ў канцы кнігі, на якой пазначаюцца заўважаныя апіскі і памылкі друку і падаецца правільнае напісанне.) Па сутнасці, перад намі своеасаблівы апошні творчы —"самы правільны" — запавет Максіма Танка. У тым ліку — і ў галіне вершаванай тэхнікі, мастацтва вершаванага слова. Што ж нам кажа гэты запавет?

Як і трэба было чакаць, абсалютная большасць арыгінальных вершаў, што склалі зборнік, напісана традыцыйнай для беларускай паэзіі XX ст. сілаба-тонікай. Але якая разнастайная гэта сілабатоніка! Паэт, як і калісьці ў маладосці, звяртаецца да "адмераных, строгіх радкоў" — ямбаў і харэяў. Шэраг твораў не мае дакладных памераў, хоць таксама адносіцца да сілаба-тонікі. Гэта — трохскладовікі і двухскладовікі з пераменнай анакрузай, у якіх выразна праглядваюцца тыя ці іншыя стопы. А якая разнастайнасць страфічнай арганізацыі верша! Тут творы страфічныя і астрафічныя, шматстрофныя (пераважная колькасць) і аднастрофныя, напісаныя аднолькавымі строфамі і рознымі, або нават страфоідамі. У аднастрофных вершах часам вылучаюцца страфічныя комплексы (часцей двухрадковыя або чатырохрадковыя), часам — не… Амаль заўсёды ў сілабатоніцы паэта радкі спалучаныя рыфмамі. Але сярод такіх вершаў прысутнічае і сем белых. Колькасць бязрыфменных вершаў значна павялічваюць верлібры Максіма Танка. Як і раней, яны ўзнікаюць там, дзе з'яўляецца развага, роздум, дзе трэба выявіць "прозу жыцця". Дзве трэці і адна трэць — відавочна, гэта найбольш аптымальныя для паэта суадносіны паміж вершам класічным (сілаба-танічным, танічным) і свабодным, або верлібрам.

Дык што сцвярджае Максім Танк, майстар вершаванага слова? Несумненна, тую ісціну, якую ён выказаў яшчэ ў пачатку 1960-х гадоў: "Вельмі цяжка на падставе тэмы акрэсліць, у якую форму яна павінна пераліцца. Адны вершы без рыфмы, без пявучасці, характэрнай для беларускай паэзіі, не могуць існаваць. Ёсць вершы — гэта датычыць і маёй паэзіі, — якія рыфмаваць не мела б сэнсу. Паэт павінен быць у пастаянных пошуках".

Увогуле, не толькі падсумаваннем усіх ранейшых уласных творчых пошукаў, але і своеасаблівым запаветам сённяшнім маладым паэтам гучаць словы мудрага, сталага Максіма Танка:

*Калі вы будзеце, сябры,*
*Зноў разважаць*
*Аб зачацці бязгрэшным*
*Паэзіі,*
*Аб непарушнасці*
*Канонаў жанравых*
*І граматычных форм,*
*Аб тым, якімі мусяць быць*
*Элегіі, рамансы, оды,*
*Ці аб тым,*
*Якім памерам*
*Трэба пісаць вершы, —*
*Паклічце і мяне.*
*Бо як некалі*
*Маэстра Дунікоўскі гаварыў:*
*"Я ўжо чалавек стары*
*І хацеў бы*
*Памерці ад смеху".*

# «Добры ты наш чалавек...»

**У гісторыю Максім Танк увайшоў як выдатны паэт, класік айчыннай літаратуры, мудры і дальнабачны арганізатар літаратурна-мастацкага працэсу, аўтарытэтны грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Ён з'яўляўся народным паэтам БССР, лаўрэатам Ленінскай прэміі, дзяржаўных і літаратурных прэмій СССР і БССР, Героем Сацыялістычнай Працы, акадэмікам Акадэміі навук Беларусі, ганаровым грамадзянінам Мінска.**

**Мікола МІКУЛІЧ,**
**фота з асабістага архіва Аляксандра Тушынскага**

У пэўнай ступені гэта быў чалавек-легенда. На працягу 18 гадоў М. Танк працаваў галоўным рэдактарам часопіса "Полымя", на працягу 24 гадоў узначальваў Саюз пісьменнікаў БССР. Ён выбіраўся дэпутатам і старшынёй Вярхоўнага Савета БССР, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, з'яўляўся старшынёй Беларускага аддзялення савецка-польскай дружбы.

Пры гэтым Максім Танк быў выдатным сем'янінам, чулым, уважлівым, клапатлівым сынам, мужам, бацькам, дзядулем.

Падкрэслена цёплыя, даверлівыя, сяброўскія адносіны ён падтрымліваў з мужам дачкі Веры — Аляксандрам Тушынскім. Паводле водгукаў сваякоў народнага паэта, іх збліжалі выдатныя душэўна-чалавечыя якасці, схільнасць да інтэлектуальна-творчай дзейнасці, працавітасць, уменне гуртаваць вакол сябе людзей, клопат пра блізкіх, увага да грамадска-палітычных падзей і працэсаў у былым Савецкім Саюзе і свеце. Яны абодва былі эмацыянальна-пачуццёвымі натурамі, энергічнымі асобамі, лідарамі, ініцыятарамі розных ідэй і пачынанняў, шчырымі і надзейнымі ва ўзаемаадносінах з калегамі, сябрамі і знаёмымі.

М. Танк усяляк падтрымліваў свайго зяця падчас яго вучобы ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце, інстытуце Міністэрства радыёпрамысловасці СССР (Масква), падчас працы на высокіх і адказных пасадах. А. Тушынскі з глыбокай павагай і любоўю ставіцца да асобы Максіма Танка, цікавіўся яго жыццём і творчасцю, шмат чаму вучыўся ў цесця, перад тым, як прыняць важнае рашэнне, заўсёды раіўся з ім. У лісце да мяне ад 14 сакавіка 2012 года Аляксандр Іосіфавіч адзначае:

"Прайшло ўжо шмат часу, як не стала Яўгенія Іванавіча, але ў маёй душы, у маім сэрцы ён жыве і па сённяшні дзень. Я яго помню шчырым, уважлівым, жыццярадасным, энергічным, з вельмі простымі, цёплымі адносінамі да людзей. Мяне ў ім захаплялі вострыя розум, унікальная памяць, талент ладзіць з людзьмі, жыццёвая мудрасць і, безумоўна, любоў да самога жыцця, да ўсяго таго, чым напоўнена чалавечае існаванне на зямлі.

Мне пашанцавала ў тым, што я блізка ведаў Яўгенія Іванавіча і мог многаму вучыцца ў яго. Я вельмі паважаў і цаніў яго, у складаных жыццёвых сітуацыях заўсёды звяртаўся па параду. Мяне ўражвала яго працавітасць: я не помню такога выпадку, каб Яўгеній Іванавіч па сваёй волі паехаў куды-небудзь адпачываць. Дома ён ці працаваў за рабочым сталом, ці дапамагаў Любові Андрэеўне па гаспадарцы.

Быў надзвычай даступны — для ўсіх, хто да яго звяртаўся з праблемамі і бедамі. А такіх, як вы ведаеце, хапала. Тут ён усё прапускаў праз сваю душу і сэрца.

Умеў падтрымаць кампанію, любіў дасціпна і бяскрыўдна жартаваць. У перыяд маёй працяглай стажыроўкі ў Францыі Яўгеній Іванавіч пісаў мне цёплыя лісты, тым самым падтрымліваў мяне маральна і псіхалагічна. Прыляцеўшы з Францыі ў Маскву, я быў вельмі здзіўлены і ўзрадаваны, што ён сустракаў мяне ў аэрапорце "Шарамецьева". Як я магу забыць гэта!?"

І далей: "Надзвычай складаным, цяжкім перыядам у жыцці Яўгенія Іванавіча былі 1991 — 1995 гады. У гэты час я дапамагаў яму, чым мог: купляў лекі, прадукты, вазіў у паліклініку (тады Яўгенію Іванавічу патрэбна было двойчы на тыдзень наведваць паліклініку).

Некалькі разоў мы з ім вазілі кнігі ў Сваткаўскую школу Мядзельскага раёна. Прыкладна каля двух тысяч кніг. На зваротным шляху абавязкова заязджалі на яго радзіму, у вёску Пількаўшчына, на хутар, дзе тады жыў яго брат Фёдар Іванавіч з жонкай Марыяй. У родных мясцінах ён пераўвасабляўся — станавіўся ўзрушаным, вельмі актыўным, звычайна браў касу ці вілы і ішоў працаваць. Затым накрываўся стол з традыцыйнымі ў вёсцы скваркай і саленнямі. Спецыяльна для Яўгенія Іванавіча ставілася яго любімая, дужа зацёртая і памятая, алюмініевая міска, у якую крышыўся хлеб і налівалася кіслае малако. Ён браў сваю даўнюю драўляную лыжку і еў з вялікім апетытам. Гэта была яго любімая страва. Пасля, седзячы на лавачцы каля лазні, шмат расказваў пра сваё дзяцінства, працу ў падполлі, ваенныя гады.

Ужо ў самым канцы свайго жыцця Яўгеній Іванавіч пытаўся ў мяне, дзе лепш каб яго пахавалі — у Мінску ці на радзіме. Я адказаў, што не ведаю, не трэба думаць пра гэта. Трэба лячыцца і папраўляцца. Але, на жаль, усё закончылася тым, што яго забралі ў бальніцу..."

У апошнія гады Аляксандр Тушынскі актыўна і паспяхова займаецца бізнесам, з'яўляецца намеснікам Генеральнага дырэктара сумеснага прадпрыемства закрытага акцыянернага таварыства "Міжнародны дзелавы альянс" — аўтарытэтнай кампаніі, якая спецыялізуецца ў галіне інфармацыйных тэхналогій.



*Пількаўшчына. Максім Танк (у цэнтры) з зяцем Аляксандрам і ўнукам Дзянісам (справа). Злева — брат пісьменніка Хведар Іванавіч з сынам Іванам.*

Аляксандр Іосіфавіч — кандыдат тэхнічных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі.

У архіве Аляксандра Тушынскага захоўваецца шэраг лістоў М. Танка, адрасаваных яму асабіста, а таксама яму і яго сям'і. Яны пісаліся народным паэтам у розныя гады, пасылаліся з розных месцаў. І сёння, натуральна, уяўляюць вялікую цікавасць і каштоўнасць.

Са згоды ўладальніка прапануем увазе чытачоў "ЛіМа" тры лісты М. Танка. Два першыя з іх датуюцца жніўнем 1974 года, адпраўлены з Нарачы і адрасуюцца ўсёй сям'і Тушынскіх, якая ў гэты перыяд адпачывала на Чорным моры. Трэці складаецца з двух частак, напісаных жонкай М. Танка Любоўю Андрэеўнай (першая, па-руску) і самім паэтам (другая, па-беларуску) падчас іх знаходжання ў Маскве. Ліст датуецца 4 кастрычніка 1977 года і адрасуецца персанальна А. Тушынскаму ў Францыю, дзе ён праходзіў стажыроўку.

Лісты не ўвайшлі ў Збор твораў М. Танка ў 13 тамах, яны не вядомы шырокай грамадскасці і спецыялістам.

*Дарагія Верунчык, Саша і Дзяніска!*
*Пісьмо Ваша мы атрымалі і парадаваліся, што Вы добра заехалі і ўлад-*
*каваліся. Цяпер толькі глядзіце, каб здаровымі і загарэлымі прыехалі дамоў.*
*Калі будуць якія цяжкасці з білетам, звярніцеся да дырэктара Дома твор-*
*часці. І самі не прапусціце тэрміну набыцця білета. Пішыце пра свае спра-*
*вы, як адпачываецца, як Дзяніска купаецца і бавіцца. Ці падабаецца яму*
*там, ці збірае каменьчыкі, ці кідае іх у мора. Ён не верыў, калі яму казала*
*бабуся, што ў моры вада салёная. Як яго здароўе?*
*У нядзелю прыехаў і Максімка да нас. Аказваецца, яны не ў Прыбалтыку*
*ездзілі, а ў Адэсу, дзе прабылі 4 — 5 дзён. Казалі ў Крыму — каранцін. Якая*
*там яшчэ трасца? Ездзілі мы і ў Пількаўшчыну. Ваня падрос, але яшчэ не*
*ходзіць. Назбіралі мы там шмат грыбоў. Калі будзе добрае надвор'е, можа*
*ў наступную суботу пад'едзем туды з начоўкай, каб пазбіраць грыбоў, бо*
*іх там столькі, што адна ўцеха іх збіраць. Вось і ўсе нашы навіны. Пагода*
*ў нас крыху папраўілася, пацяплела, хоць дажджы амаль кожны дзень да-*
*юць аб сабе знаць. Вось і ўчора на Нарачы пабрысаў, хоць у Пількаўшчыне*
*было суха і цёпла.*
*Прывітанні Вам ад усіх нарачанцаў.*
*Моцна цалуем. Чакаем пісьма пра Вашы далейшыя прыгоды і справы.*
*Купляйце сабе і карміце Дзяніску фруктамі, якіх, здаецца, там у Крыму*
*ёсць шмат.*
*Мама (неразб.), Іра, Максімка, Сярожка.*
*P.S. Станіслава кінула работу і паехала дамоў. Трэба будзе падшукаць*
*некага, бо, хоць яна і слаба памагала, але і маме ўжо цяжка спраўляцца*
*з навалай розных спраў.*

*Жэня*
*Нарач, 12/VIII, 74 г.*

*19/VIII, 74*
*Дарагая Верачка, Саша і Дзяніска!*
*Атрымалі Вашу паштоўку і ўсё не маглі сабрацца адпісаць Вам. Уяў-*
*ляю, як Дзяніска там бавіцца, купаецца, загарае і як ён там спяваў "Спи,*
*младенец мой прекрасный..." Добра, што Вы там чуецеся свабодна і ве-*
*села, што купляеце паўдзённыя розныя фрукты, якіх сёлета ў Беларусі*
*амаль няма, калі не лічыць тых, што на рынку. І ў гэту нядзелю мы ездзі-*
*лі ў Пількаўшчыну па грыбы. Начавалі там. Грыбоў там шмат, асаблі-*
*ва — лісічак. Насалілі некалькі каструль. Спалі на сене, спаць было пры-*
*емна, толькі камары дакучалі, якіх у нас на Нарачы даўно няма. Федзеў*
*Ваня падрос, хоць яшчэ не ходзіць. Вельмі дрэнна есць. А так хлопчык*
*харошы, вясёлы, ціхі, спіць добра. Любіць бавіцца на двары. Паветра ў*
*іх, хіба, лепшае як у Крыме. Усё пазарастала лесам і высокай травой. Гэ-*
*тыя дні ў нас цёплыя і парныя. Дажджы, хоць і не такія вялікія, як раней,*
*але амаль кожны дзень наведваюць. Відаць, першага верасня прыедзем у*
*Мінск. Прагноз пагоды на верасень — добры, толькі няма як тут заста-*
*вацца, бо і мой адпачынак канчаецца, і трэба ехаць у Маскву (1 — 4 /IX)*
*на Пленум, прысвечаны 40-годдзю арганізацыі Саюза пісьменнікаў СССР,*
*ды і Максімку трэба ісці ў школу. Шкада, што няма як тут яшчэ пабыць*
*Сярожку, які загарэў, відаць, так, як і Дзяніска. Была ў нас урач, якая не-*
*калі кансультавала і Дзяніску. Параіла карміць яго седзячы. Цяпер ён ся-*
*дзіць у Дзяніскавым крэсле і круціць галоўкай, калі кормяць яго. Падрос.*
*Такі смешны і хітры. Кідае цацкі. І кожны раз наравіць так кінуць, каб я*
*не злавіў яе. Вось і ўсе нашы навіны. Добра, што ўдалося Вам набыць бі-*
*лет на самалёт, бо перад вераснем, напэўна, столькі людзей будзе ехаць*
*і ляцець, што часамі, тыднямі сядзяць людзі і не могуць выехаць. Пры-*
*вітанні Вам ад усіх нас. Моцна Вас цалуем. Да хуткай сустрэчы.*

*Мама, Іра, Максімка і Я.*

*P.S.*
*А Дзяніску прасілі перадаць прывет яго старыя сябры, з якімі ён так*
*падружыў, — цёця Соня і дзядзя Міша.*

*М.Т.*

*Москва. 4 октября 77 г.*
*Здравствуй, дорогой Саша!*
*Получили Твое хорошее письмо. Большое спасибо. Очень нам понра-*
*вилось, как Ты пишешь о своей работе и учёбе. Пока Ты ещё такой*
*молодой, видимо, такой стиль жизни, такая занятость необходима*
*всем молодым, и Тебе хватит сил все это преодолеть, Ты ведь умница.*
*Растёт у Тебя хорошая смена и большой друг — Твой жизнерадостный,*
*способный, любимый Дениска. Верочка и Дениска скучают без Тебя,*
*ожидают, крепко любят Тебя. Приедешь — будет настоящий большой*
*праздник.*
*Сашенька, пишу Тебе из Москвы, приехала с Евг. Ив. на сессию. Серёж-*
*ку определили в детский садик, так я уже смогла вырваться на свободу,*
*а через месяц, если доживём, поедем в санаторий вместе, чтобы подле-*
*читься. Евгений Иванович очень устал и плохо себя чувствует.*
*Помаленьку обживаемся в новой квартире, привыкаем к новому району.*
*Сашенька, Ты смотри за своим здоровьем, нормально питайся и не про-*
*стужайся. А в чем Ты приедешь, ведь у нас будет в то время настоящая*
*зима, мороз, а Ты выехал по-летнему одет, — подумай. Забочусь о Тебе,*
*как о родном сыне, хороший Ты наш человек. Обнимаю, крепко целую.*

*мама — Любовь Андреевна.*

*Дарагі Саша! У Маскве сустрэўся з Аляксандрам Іванавічам. Успа-*
*міналі цябе. Зараз я на Сесіі Вярхоўнага Савета, на якой будзе прыня-*
*та новая Канстытуцыя. У гэтым месяцы, відаць, прыйдзецца некалькі*
*раз быць у Маскве, а на Кастрычніцкае Свята, калі нішто не пера-*
*шкодзіць, паедзем з Любоўю Андрэеўнай у Карлавы Вары, бо ў яе вельмі*
*баляць ногі, ды і я здароўем чуюся слаба. Перад паездкай у Маскву ездзіў*
*на Нарач, дзе сабраў апошнія яблыкі, а ў Вілейцы афармляў розныя да-*
*кументы на нашу дачу. Сёлета лета і восень у нас дажджлівыя, што*
*адбілася і на зборы ўраджаю. Быў у нас Дзяніска. Верачка кажа, што ён*
*вельмі любіць танцаваць і іграць у шахматы. Цяпер і Табе не так лёгка*
*будзе яго абыграць. Відаць, перад Новым Годам збярэмся ўсе дома. Тады*
*сустрэнемся на нашай кватэры, дзе Максім памагае нам наводзіць сякі-*
*такі лад. Глядзі за сваім здароўем. Вучыся. Моцна цябе абдымаю. Да*
*хуткай сустрэчы.*

*Максім Танк*

# Права на бяссмерце

Кожны залацісты верасень на працягу многіх дзесяцігоддзяў аматары паэзіі з хваляваннем раскрывалі свежы часопіс “Полымя”. Па даўняй традыцыі менавіта ў гэтым нумары Максім Танк друкаваў падборку сваіх вершаў. Вялікая нізка твораў народнага паэта ўпрыгожыла старонкі і вераснёўскага “палымянскага” нумара за 1995 год. На жаль, гэтая публікацыя сталася апошняй, у поўным сэнсе развітальнай з чытачамі, бо акурат за месяц перад тым, 7 жніўня, Максім Танк пайшоў з жыцця. І таму так балюча прыхільнікамі неўміручага таленту быў успрыняты яго верш “Бяссмерце”, надрукаваны акурат у згаданай падборцы. Па мастацкім узроўні, культуры эстэтычнага мыслення ён стаіць, бадай, побач з такімі танкаўскімі шэдэўрамі, як “Ave Maria”, “Родная мова” і сотнямі іншых. У дні святкавання 100-гадовага юбілею свайго песняра ўсенароднай любоўю і пашанай Беларусь толькі пацвердзіла Максіму Танку яго выпакутаванае гістарычнае права на бяссмерце.

**Максім ТАНК**

## Ave Maria

*Звон кафедральны кліча на Ave.
З цесных завулкаў злева і справа
Гуртам манашкі ў чорным адзенні
Цягнуцца, быццам сумныя цені.
Тут і старыя, і маладыя, —
Ave Maria...*

*Я не звярнуў бы і ўвагі, можа,
Каб не пабачыў між іх прыгожай
Адной манашкі, якая мае
Не больш, хіба, як семнаццаць маяў;
Чорныя вочы, бровы густыя, —
Ave Maria!*

*Нат пад жалобнай вопраткай чорнай
Ты адгадаеш: стан непакорны,
Ножкі, якімі б на карнавалах
І захапляла, і чаравала,
Смуглыя рукі, грудзі тугія, —
Ave Maria!*

*Глядзіць набожна на крыж Пятровы,
А я малюся на яе бровы:
Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што хараство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі б ножкі такія, —
Ave Maria!*

*Цябе атрутаю апаілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі.
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калосе...
О, як бы жалі рукі такія, —
Ave Maria!*

*А потым хутка прыйшло б каханне,
Страчала б з мілым свой золак ранні.
А потым стала б ты гаспадыняй
І калыхала б сваю дзяціну!
О, як кармілі б грудзі такія, —
Ave Maria!*

*Не знаю, можа, мая малітва
Мне памагла б выйграць гэтую бітву,
Але пазвалі яе; манашка
Пайшла за ўсімі, ўздыхнуўшы цяжка,
Пад зводы змрочныя і глухія,—
Ave Maria!..*

## Родная мова

*З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых
праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц.
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, —
Ты выткана, дзіўная родная мова.
Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла.
Няма такіх нетраў, глыбокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла
Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння
Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй
Над спаленай хатай,
над родным загонам,
Над будучыняй і песняй маёй —
Над тым, што было
і што век будзе вольным.
Народ праняс цябе, родная мова,
Святлом незгасальным
у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівы ваксрошыя закаласяцца, —
Ізноў прашуміш ты
вясновым дажджом,
Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,
Цымбалам дасі іх сярэбраны гром
І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.*



## Бяссмерце

*Я даўно здагадваўся,
Што душа чалавека
Не памірае,
А толькі перасяляецца
У другія — іншыя істоты.*

*Бо скуль бы нам ганчак
Разблытаць мог
Пры станішчаў звярыных
Петлі-сцежкі?
Бо скуль бы, каб не бабка,
Наш галагуцкі певень
Угадваў,
Калі пара ўставаць?
Бо скуль бы,
Каб не бацька,
Помніў наш гняды,
Дзе прыпыніцца
І перавесці дух?
І скуль бы, каб не маці,
Жаўрук знаў
Столькі песень,
А кот — запечных баек?..*

*Цікава,
Кім яшчэ і мне
Наканавана быць?*

---

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

## Памяці Максіма Танка

*На радзіму, сюды,
дзе маленства сцяжыны,
Праз аснежанасць зім,
спёку страчаных лет,
Як у вечнасць сваю — у чаўне дамавіны
Жніўным шляхам жыцця
адплывае Паэт.*

*І дарога наўсцяж —
закалыхана жытам,
І нябёсы ў аблоках — сівыя багі.
І зіхоціцца Нарач таемным блакітам:
Едзе зноўку дадому песняр дарагі.*

*Ён на бераг-сыпчак выйшаў
некалі ранкам,
Вёрсты мераў не раз праз бары і палі.
І над хваляй сівой
ахрысціў сябе Танкам,
Каб бясстрашна крышыць
вершам зло на зямлі.*

*Іскрамётным радком,
як агністай паходняй,
Быў асветлены шлях між жыццёвых
нягод.
Чуўся голас усёй Беларусі Заходняй,
Гнеўна пілячы краты,
імкнуўся на ўсход.*

*Ў дзень народзін яго —
найслаўнейшага сына —
Лёс адкрыўся жыццю на чатыры бакі:
Непадзельна святой стала
наша Айчына,
Каб ступіць на абсяг і прайсці праз вякі.*

*Ўслед сыходным усім
бліскавіцам-маланкам
Пазіраў ён цяпер у захмараны свет.
На шырэчах яго слыў
узрушліва Танкам —
Беларускай зямлі міралюбца-паэт.*

*І схіляўся не раз
над святынямі ў скрусе
На чужых кантынентах
расчулены ён.
І натхнёна тварыў,
каб маёй Беларусі
Мужны голас паўсюд быў у свеце чуцён.*

*Як стамлёны хадок,
што папросіцца начаваць,
Тут прылёг ля азёр і знаёмых хацін,
Каб у родным кутку,
дзе хвалюецца Нарач,
Заірдзела душа ў спелі гронак рабін.*

***1995 г.***

**Казімір КАМЕЙША**

## У Пількаўшчыне

*Два дубы схілілі тут чубы,
Пчолка кветку пры гумне гайдае.
Кветкі — не ратунак ад журбы
І па іх свой лёс не разгадаеш.
Сам схілю я моўчкі галаву,
Нібы дзень пабачу той, адсутны.
...Два чаўны па Нарачы плывуць,
Два крыжы выходзяць
ім насустрач.
Нібы цені два,
яны ідуць,
Дзень і ноч,
і нават век мінаюць.
І куды сцяжыны іх вядуць,
Я не знаю,
І ніхто не знае.
Можа, толькі цішыня адна,
Што навісла хмараю над летам,
Таямніцу ведае спаўна,
Вечнасці, што суджана паэту.*

*Дзе яна, адзіная вярста,
Што знаходзіць у жыцці не кожны,
Толькі ў Бога можна запытаць
І яшчэ ў паэта часам — можна.*

**Віктар ШНІП**

## Балада Максіма Танка

**(17.09.1912 — 7.08.1995)**

*У Максіма была, як няволя, Радзіма,
Але тая няволя любіла Максіма,
А Максім нарачанскія сосны любіў,
Быццам гліну, з якой гэты свет сатварыў
Наш Пан Бог, для якога сягоння ўсе мы,
Як праталіны ў снезе сусветнай зімы…*

*Ад Максіма для нас засталася Радзіма,
Без якой аніхто тут
не ўспомніць Максіма…*

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

## Кругі

*Гадамі з ім
Я проста немаўля.
А талентам хто параўнацца
здатны?
Ён на астрожных нарах размаўляў,
Як роўны з роўным,
З Цэзарам і з Дантэ.*

*Дармо, што лёс
Няшчадна катаваў, —
З упартасцю і сілай рызыканта
З усіх бакоў не раз акантаваў
Ён нават філасофскі камень
Канта.
Вялікія
Збяруцца ў цесны круг,
І за спіной у іх сем муз, як сцэні.
А ён ім — пра загоны ды пра плуг,
Якім вясна барозны
Густа сцеле.*

*З кагортаю
Сяброў-таварышоў,
Што бралі шырай і ўзляталі вышай,
Ён пекла ўсе кругі амаль прайшоў
І за арбіту іх ледзь-ледзь
Не выйшаў.*

*З нябёсаў мог
Вясёлак сто дастаць,
Тым оды пець, хто лез угору дурам.
Ды нізавошта не хацеў ён стаць
Партыйным слугачом
І трубадурам.*

*Усмешліва
Глядзеў ён на ману,
Што з дня у дзень карміла дармаедаў.
Чытаў з газет газету, як меню
Крамлёўскіх то прыёмаў,
То абедаў.*

*Пашана густа
Ардэнамі йшла
Пад гром апладысментаў з галасамі.
Іх золатам мог выбрукаваць шлях
Ад Мядзеля да Пількаўшчыны
Самай.*

*І сёння дзесь
Праз рэдзіва смугі,
Над вечнасці таемнай берагамі,
Гадоў і пільных спраў яго кругі
Гараць і ззяюць зорнымі
Кругамі.*

# Арыенцір для паслядоўнікаў

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Завершана выданне Збору твораў Максіма Танка ў 13 тамах. Над яго падрыхтоўкай з 1996 года шчыравалі супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. Усе тамы Збору твораў выходзілі ў выдавецтве "Беларуская навука". Апроч вядомых твораў паэта тут ёсць і першапублікацыі: уведзены шматлікія архіўныя дакументы з фонду М. Танка ў БДАМЛіМ і іншых архіваў Польшчы, Літвы, Расіі. Збор твораў знаёміць чытача з лістамі класіка, яго дзённікамі, перакладамі, выступленнямі, артыкуламі, якія раней друкаваліся ў перыёдыцы.

Якое месца займае Збор твораў М. Танка ў працы Інстытута мовы і літаратуры Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі? Чым будзе карыснае гэтае выданне? З такімі пытаннямі мы звярнуліся да намесніка дырэктара па навуцы гэтай установы Сяргея Гаранiна:

— За час існавання нашага Інстытута былі выдадзены зборы твораў практычна ўсіх пачынальнікаў беларускай літаратуры. Неаднаразова выдаваўся Збор твораў Янкі Купалы, завяршаецца выданне Збору твораў Якуба Коласа. Паколькі Максім Танк займае значнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры, то ў свой час Інстытут узяўся за падрыхтоўку яго Збору твораў.

Гэтая работа мае вельмі вялікае значэнне ва ўсіх адносінах. Выданні і перавыданні твораў М. Танка, што будуць ажыццяўляцца ў далейшым, змогуць арыентавацца на акадэмічнае выданне як на дакладнае, тое, што мае навуковы каментарый. У сучаснай паэзіі М. Танк застаецца адным з самых прэзентатыўных паэтаў. Гэта звязана з тым, што для яго творчасці былі характэрны эксперыменты і пошукі ў галіне мастацкай формы, зварот да заходнееўрапейскай паэтычнай традыцыі. Гэтыя напрамкі і сёння застаюцца актуальнымі. Збор твораў будзе шырока выкарыстоўвацца і ў навучальнай, навукова-даследчай дзейнасці студэнтамі і выкладчыкамі ВНУ, даследчыкамі, гісторыкамі.

Пра тое, як ішла праца над зборам твораў і чым адметнае выданне, чытайце на старонцы 15.



*Максім Танк з бацькамі Домнай Іванаўнай і Іванам Фёдаравічам.*

Прэзентацыя

# Міцкевіч, Славацкі, Танк

У беларуска-польскіх літаратурных адносінах XX ст. творчасці М. Танка належыць асабліва важная роля. Гэта абумоўлена моцнымі сувязямі паэта з польскай культурай, яго перакладчыцкай працай, а таксама шматлікімі спробамі перакладаў яго твораў на польскую мову.

**Чэслава ПАЛУЯН**

Некаторыя аспекты сувязі твораў М. Танка з літаратурай нашых суседзяў адзначаліся ў працах Уладзіміра Калесніка, Алега Лойкі, Дзмітрыя Бугаёва, Вячаслава Рагойшы, Міколы Арочкі. А ў 1984 годзе пабачыла свет манаграфія Анатоля Вераб'я "Максім Танк і польская літаратура" (выдавецтва "Навука і тэхніка"). Не так даўно гэтая кніга была перавыдадзена "Беларускай навукай". Думаецца, і цяпер, амаль праз тры дзесяцігоддзі пасля першага з'яўлення, даследаванне не страціла сваёй актуальнасці. Прынамсі, яно застаецца "на хвалі", бо кампаратывістычнае вывучэнне літаратур, выяўленне тыпалагічных і генетычных сувязей паміж імі — адзін з самых папулярных кірункаў у сучасным літаратуразнаўстве.

Як адзначае ва ўводзінах Анатоль Верабей, раней "даследчыкі разглядалі ў асноўным сувязі творчасці паэта з суседнімі літаратурамі ў заходнебеларускі час. Яны выказалі цікавыя меркаванні пра літаратурную вучобу М. Танка, пра ўзаемадзеянне яго творчасці з рускай і польскай рэвалюцыйнай паэзіяй, пра адносіны паэта да еўрапейскіх авангардысцкіх кірункаў 1920 — 1930-х гадоў". У сваёй жа манаграфіі даследчык разглядае розныя аспекты ўзаемадзеяння творчасці М. Танка з польскай літаратурай. Гэта перш за ўсё рэцэпцыя традыцый польскага рамантызму XIX ст. у вершах М. Танка, сувязі з польскай паэзіяй у 1920 — 1930-я гады. Аналізуе Анатоль Леанідавіч і адметнасці перакладчыцкай дзейнасці класіка, у прыватнасці, яго зварот да пераствярэння паэмы Юльюша Славацкага "У Швейцарыі", асобных твораў А. Міцкевіча, вершаў іншых польскіх паэтаў, якія актыўна працавалі ў XX ст.

Зразумела, што гэта надзвычай каштоўная інфармацыя для спецыялістаў-філолагаў. Але мне падаецца больш цікавым (нават для шырокай аўдыторыі) разгляд адметнасцей успрымання твораў М. Танка ў Польшчы, чыя літаратурная




традыцыя па сутнасці больш сталая і багатая, чым беларуская. І гэты аспект не застаецца па-за ўвагай аўтара манаграфіі. Рэцэпцыі творчасці М. Танка ў Польшчы прысвечана асобная глава даследавання.

Як піша Анатоль Верабей, "паэзія М. Танка была рана заўважана і высока ацэнена польскімі перакладчыкамі і крытыкамі. Самабытны мастацкі талент паэта, а таксама тое, што ён жыў на тэрыторыі Заходняй Беларусі і быў асабіста знаёмы з віленскімі польскімі паэтамі, садзейнічала папулярнасці маладога беларускага паэта ў Польшчы". Нават нягледзячы на тое, што ён звяртаўся да палякаў, як адзначаў перакладчык Е. Путрамант у сваіх успамінах, "на мове, на якой палякі Віленшчыны звычайна звяртаюцца да прыслугі", усе адчувалі, што ў яго творах гучала сапраўдная паэзія. Напэўна, таму М. Танка актыўна перакладалі на польскую мову. Варта адзначыць, што перакладчыкі звярталі ўвагу не толькі на яго паэтычныя творы. У 1977 годзе на польскай мове з'явілася выданне "Лісткоў календара", фрагментаў дзённіка М. Танка 1935 — 1939 гадоў. Дзякуючы гэтаму перакладу польскія чытачы пазнаёміліся з М. Танкам і як з таленавітым публіцыстам.

*У падтрымку чытання*



**Таіса ТРАФІМАВА, паэтэса:**

# «Мы выраслалі з песняю і кніжкай»

На якіх кніжках можа вырасці дзіця, бацькі якога — настаўнікі? Мы рана навучыліся разумець і шанаваць роднае слова, хараство якога даносілі да нас дарослыя. Першыя кніжкі — прыказак, прымавак, мудраслоўяў, загадак. Казкі мама больш расказвала, чым чытала, а бабуля распавядала жыццёвыя быліны — як казкі. Шмат розных баек, жартаў ведаў дзядзька Пятрок.

Першае, што ўспамінаецца, — "Конёк-горбунок" П. Яршова. Кніжак на зробленых рукамі таты палічках было шмат. Захопленая тым, як артыстычна тата чытаў верш Якуба Коласа "Цешча", і я вывучыла яго на памяць. Дзякуючы ўрыўку з паэмы Коласа "Рыбакова хата" стала лаўрэатам конкурсу чытальнікаў.

З удзячнасцю прыгадваю сваё асяроддзе: збіраючыся разам, мы спявалі старадаўнія народныя песні, жартавалі, гралі на розных музычных інструментах (сям'я была багатая на таленты). Таму ведаю фальклор. А азбуку (кірыліцу), па якой вучылася грамаце мая бабуля Арына Адамаўна, нашу з сабою як абярэг.

Памятаю, як плакала над раманам У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", перапісвала цэлыя старонкі пра каханне Майкі Раўбіч і Алеся Загорскага сабе ў сшытак.

З апошняга прачытанага параіла б усім кнігу Анатоля Статкевіча-Чабаганава "Я — сын Ваш: Стацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша», Карафа-Корбуты герба «Корчак»". Менавіта вывучэнне сваіх каранёў, гонар продкамі дае натхненне для творчасці.

Teenbook

# Эмоции в твоём позвоночнике

Подростковый возраст очень волнительный. Это, конечно, девчачья прерогатива — пореветь в кино, пошмыгать носом над рассказом подруги и закапать слезами любимую книгу. Мальчик не заплачет. Но и мальчики способны испытывать очень сильные эмоции. И поскольку не выливают их наружу, переживать могут гораздо дольше девочек.
Сегодня я расскажу о книгах, от которых лично у меня была очень сильная эмоциональная отдача. Это всегда непредсказуемо и не зависит ни от сюжета, ни от жанра книги. Вдруг ты попадаешь в резонанс с чувствами автора. Вдруг герои, с которыми у тебя нет ничего общего, становятся родными. И ты проживаешь их жизнь, как жизнь очень близких тебе людей, и их чувства отзываются в твоём позвоночнике. Почему? Не знаю. А вы почитайте эти книги, может быть, и вам они понравятся.

**Евгения ПАСТЕРНАК**



***Кэтрин Патерсон. Иакова я возлюбил. — Москва: Центр “Нарния”, 2007.***

Остров Расс. 1941 год. Маленькая и очень религиозная община. Семья Брэдшо. Двое дочерей-близняшек. Одна из них — Каролина. Чуть не умерла сразу после рождения, слабая, болезненная и наделённая чудесным музыкальным талантом. И вторая — Луиза... Она тяжело работает, помогая родителям, мучительно страдает от стыдной ненависти к сестре и недостатка любви. Она мечется, ей не хватает воздуха на маленьком острове, но она взвалила на себя столько обязательств, что не выбраться...

Когда Луиза в отчаянии говорит, что хочет уехать, мама совершенно спокойно ей отвечает:

— Едь, конечно.

И выясняется, что никто её не держит, она может уехать в любой момент. Уезжает, выучивается на медсестру, выходит замуж и остаётся жить в долине, где быт, наверное, ещё тяжелее, чем на родном острове. Она не боится трудностей, она с ними выросла. Бог готовил её для этого места. Она там счастлива.

Это очень сухой пересказ книги. Очень. Что понравилось. Описание быта общины. Бог, который живёт не в церкви, а среди людей. Заповеди не на бумаге, а в сердце. И, наверное, в таких условиях можно выжить только вот с такой поддержкой. Беспрекословный авторитет родителей. Луизе, девочке-бунтарю, подростку, только когда она доведена до крайней степени, приходит в голову нагрубить бабушке. И то, она осознаёт, что совершает ужасный поступок. И вопрос, права ли бабушка, даже не обсуждается. Хотя по всем человеческим нормам бабушка не права.

И это всё не выглядит как диктатура, это... принятие родителей и вообще старшего поколения, как и всей жизни. Пришёл ураган, оставил людей без крова, а бабушка в маразме — и это жизнь. Нет смысла плакать, что пришёл ураган, его нужно пережить и жить дальше, и бабушка такая, какая есть. Я не могу сказать, что эта модель жизни мне безусловно нравится, но в книге она очень и очень гармонична.

Но один вопрос меня гложет: не потому ли Луиза выбрала для взрослой жизни долину, окружённую горами, где условия так же тяжелы, как и на её родном острове, что она привыкла к такому и “нормально” жить просто не может? “Нормально” специально беру в кавычки. Но ведь училась же она в городе и не захотела там остаться. Да и родители, которые пользуются таким беспрекословным авторитетом, отпустив обеих дочерей, остаются на острове одни... А могли бы и не отпустить. Я, честно говоря, не понимаю, как им удалось совместить с одной стороны неприкосновенность своего мнения, а с другой — свободу выбора. И где в этом всём умещаются простые человеческие чувства. Как они умудряются втиснуться в редкие слова, сказанные друг другу...

Да, всё это сумбурно, но раз уж этот сумбур поднялся из глубины души, значит, книга зацепила. Хотя я отдаю себе отчёт, что читала её как мама. И мне было о чём подумать.

***Энн Файн. Мучные младенцы. Список прегрешений. — Москва: Самокат, 2011. — (Книга-перевёртыш).***



## СПИСОК ПРЕГРЕШЕНИЙ

По настроению эта повесть мне очень напомнила книгу Патерсон. Там небольшая община, здесь — уединённый хутор. И там, и тут много тяжёлой работы. Даже двойняшки присутствуют в обоих книгах. Только здесь, в “Списке прегрешений”, — брат и сестра Том и Касс. Эта книга замечательно описывает взросление. В начале Том капризный мальчик, в конце — мужчина.

Как это произошло?

“Дорос наконец! — кричит ему мама. — С Касс невозможно жить уже несколько месяцев!”

Да, его сестра повзрослела чуть раньше, а он и не заметил. Не заметил даже тогда, когда его выселили в другую комнату, не понял, почему она его избегает, не приходит писать их тайный список прегрешений. В эту тетрадку они заносят всё то плохое, что говорят о них родители. Неуклюжий, растяпа, лентяй, неумеха… Все эти “комплименты” старательно запоминаются и вечером заносятся в список, подростки словно соревнуются, кто из них хуже.

На Тома накатывают волны раздражительности, он следит за сестрой, мучается от просыпающегося желания при виде их общей подруги Лизы.

— Да что с тобой такое? — спрашивают у него.

Он не знает. Не понимает.

А потом начинается ливень и приходится браться за лопату, чтобы отводить воду с полей. И он работает наравне с отцом. Детство заканчивается, исчезает капризный мальчик, а на его место приходит мужчина, которому не до истерик, потому что он за многое отвечает. И отец начинает с ним считаться, и мать подкладывает лучшие куски за обедом. Находятся силы отпустить сестру и не мучать её подозрениями, сжечь список, который отнимал столько душевных сил. Ведь взрослые не копят обиды.

Все персонажи книги очень колоритны: и рабочий Джемисон, и его дочь Лиза, к которой так неравнодушен Том, и художник Халлоран. Они очень странные. Но живые. Настоящие. И немедленно возникает куча вопросов. Хорошо ли, что Том становится похож на отца? Почему он влюбился в Лизу? От безысходности? Как сложится судьба картин Халлорана?

Хорошо, когда книга не отпускает, правда?

## МУЧНЫЕ МЛАДЕНЦЫ

Представьте себе класс средней школы, собравший учеников, чью безнадёжность постоянно обсуждают в учительской. И представьте себе, что такому классу нужно выбрать тему для годовой проектной работы. Выбирают долго и останавливаются на “Мучных младенцах”, просто потому, что Саймон подслушивает разговор в учительской и обещает всем в конце проекта “большой взрыв”. 100 фунтов муки, взорвавшиеся в классе! Ради такого они готовы на многое!

Итак, кто такие “мучные младенцы”? Это куклы, набитые мукой. Их нельзя оставлять без присмотра. Две недели надо делать всё, чтобы куклы были сухими и чистыми. Представляете? Две недели мальчишки вынуждены таскать их с собой. Везде. Всегда. На улицу, на тренировку. Кроме того, каждый день нужно описывать свои ощущения и делать выводы.

Что может случиться с обычным подростком, если его ненадолго, буквально на две недели сделать мнимым отцом? Да всё что угодно! Кто-то уже через неделю выкидывает своего младенца в пруд, кто-то начинает зарабатывать, устраивая детский сад и гарантируя сохранность чужим куклам. А Саймон задумывается. Его собственный отец бросил его в возрасте шести недель. Саймон таскает за собой куклу и думает, думает… Почему ушёл отец?

Через две недели весь класс ненавидит своих младенцев, и мысль о том, что они сами могут стать отцами, приводит их в ужас. А Саймон понимает, что на самом деле привязался к этому нелепому кульку. До такой степени, что не может с ним расстаться, ему невыносима мысль о том, что его могут выкинуть в мусор. Он зависим от куклы, и эта зависимость его гложет и не даёт нормально жить.

А потом приходит озарение! Его кукла — всего лишь кукла! Это не живой ребёнок!

Распотрошённый младенец летал по школьным коридорам, мука сыпалась на Саймона, а он мечтал, как подарит маме цветы. Она у него святая, она выдержала. Одна. Вырастила его. Он не был куклой, он плакал, капризничал и хотел есть. И она не сбежала, как отец, она кормила, утешала и терпела все его выходки. Он никогда не допустит такой же ошибки, как его отец, не свяжет себя по рукам и ногам раньше времени, чтобы потом удрать втихаря, не выдержав испытания!

Когда я читаю подростковые книги, я стараюсь читать их как подросток. Иногда у меня получается “выключить” взрослого. Для чистоты эксперимента подсовываю книжку дочке, и в 90 процентах случаев наши оценки совпадают. Когда я читала “Мой дедушка был вишней”, взрослый не выключался.

***Анджела Нанетти. Мой дедушка был вишней. — Москва: Самокат, 2010.***



Сейчас перечитала, что у меня получилось. Это не рецензия, это даже не отзыв, это какой-то эмоциональный всхлип. Я взяла эту книгу почитать перед сном и в два часа ночи засыпала, облившись слезами. Меня как будто по голове шмякнули… Как много я вижу вокруг себя в последнее время вот таких задёрганных, постоянно раздражённых женщин…

Выросла в большом доме на свежем воздухе. Живёт в городе, далеко от родителей. Замужем. Рядом живут свёкры, которые раздражают одним фактом своего существования. С мужем отношения напряжённые. Вроде и не ругаются, но постоянно на ножах. Работа задолбала. Ребёнок болеет. Помощи ни от кого никакой. За родителей душа болит, практически каждые выходные мотается к ним. И понимает, что им одним тяжело, но в город они переезжать не хотят, а самой в деревню никак, потому что у мужа работа, а у ребёнка сад. А вокруг всё раздражает. ВСЁ РАЗДРАЖАЕТ!!!

Похоронила маму, развелась с мужем, папа угодил в сумасшедший дом, не выдержав угрозы уничтожения своего сада. И только когда папа умирает там, в больнице, разлучённый со всем, что он любил, она забирает ребёнка и уезжает жить в деревню. В дом. В свой дом. Жизнь преображается, выясняется, что в деревне даже лучше, муж возвращается, появляется в семье ещё один ребёнок. И дом оживает, и старая вишня спасена… Но сколько же времени потеряно… И отец умер в пустой и стерильной больнице.

Я не очень понимаю, почему меня эта книга так зацепила, но ревела я над ней долго и качественно. На самом деле она, конечно, не про маму. А про нежные и трогательные отношения дедушка-внук. Про семейные ценности и традиции. И про то, что человека нельзя отрывать от того, что ему дорого, — он зачахнет. И конец у книги очень даже оптимистичный.

Но меня до сих пор не отпускает досада — почему мы всегда делаем то, что нужно, когда уже поздно… Почему часто живём “как надо”, а не “как хочется”. А ведь жизнь — она одна. И то, что мы откладываем “на потом”, может и не случиться…

*P. S. Вот безумно, до боли в груди жалко дедушку. Как представлю себе эту больницу, так на глазах слёзы…*

**1500 самых удивительных животных. Животные всего мира от больших до маленьких** / [перевод с японского М. Я. Беньковской, А. А. Мосалова]. — Москва: Астрель, 2012. — 191 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-39911-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1121-8 (Харвест) (в пер.).

**1500 самых удивительных животных. Животные всего мира от больших до маленьких** / [перевод с японского М. Я. Беньковской, А. А. Мосалова]. — Москва: Астрель, 2012. — 191 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-19032-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1120-1 (Харвест) (в пер.).

**Хомич, Е. О.** Большая энциклопедия для супердевочек / [Хомич Елена Олеговна]. — Минск: Харвест, 2011. — 239 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-16-7573-5 (в пер.).

**Цеханский, С. П.** Что? Зачем? Почему? Для мальчиков: [для младшего и среднего школьного возраста / Цеханский Сергей Петрович]. — Минск: Харвест, 2012. — 239 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-16-9380-7 (в пер.).

**Чайка, Е. С.** Почему и отчего?: [для школьного возраста / Чайка Елена Степановна]. — Минск: Харвест, 2012. — 239 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-16-8251-1 (в пер.).

**Шалаева, Г. П.** Как себя вести?: [для дошкольного возраста] / Г. П. Шалаева, О. М. Журавлева, О. Г. Сазонова; [художники: Н. Новичихина, А. Пирогов]. — Москва: АСТ: Слово, 2012. — 47 с. — Издано при участии ООО «М-Пресс» (Саратов) и ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-06-1905-4 (АСТ). — ISBN 978-5-8123-0599-4 (Слово). — ISBN 978-985-16-8272-6 (Харвест) (в пер.).

**Ягоўдзік, У. І.** Беларуская зіма: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Уладзімір Ягоўдзік; [фотаздымкі І. Бышнёва, М. Гулінскага, С. Чарапіцы; малюнак В. Сугойдзя]. — Мінск: М. Ягоўдзік, 2012. — 10 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6691-34-1.

**Ягоўдзік, У. І.** Рыжая акрабатка: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Уладзімір Ягоўдзік; [фотаздымкі І. Бышнёва і інш.; малюнкі А. Лось]. — Мінск: М. Ягоўдзік, 2012. — 10 с.— 3000 экз. — ISBN 978-985-6691-35-8.

## ФІЛАСОФІЯ. ПСІХАЛОГІЯ

### Філасофія

**Мэрфи, Д.** Целительная сила молитвы / Джозеф Мэрфи; [перевод с английского Т. И. Василинчик]. — Минск: Попурри, 2012. — 239 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-15-1553-6.

### Псіхалогія

**Дыгун, М. А.** Заодно с судьбой, или Как жить в гармонии с собой и миром: 12 ориентиров для выбора позитивной жизни / [Дыгун Михаил Александрович]. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 129 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-520-542-6.

**Кехо, Д.** Подсознание может все!: [перевод с английского] / Джон Кехо. — Минск: Попурри, 2012. — 158 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1662-5 (в пер.).

**Мэрфи, Д.** Магическая сила разума / Джозеф Мэрфи; [перевела с английского Л. А. Бабук]. — Минск: Попурри, 2012. — 221 с. — Издано при участиии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-985-15-1499-7.

**Слепкова В. И.** Психология семьи: учебно-методическое пособие для студентов учреждений высшего образования, обучающихся по специальности 1-23 01 04 Психология со специализациями 1-23 01 04 02 Социальная психология, 1-23 01 04 04 Педагогическая психология, 1-23 01 04 06 Психология семейных отношений, 1-23 01 04 10 Психология предпринимательской деятельности: в 2 ч. / В. И. Слепкова, И. И. Кранц; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка. — Минск: БГПУ, 2009–2012. — ISBN 978-985-501-780-7.

Ч. 2. — 2012. — 179 с. — 320 экз. — ISBN 978-985-541-054-7.

### Этыка. Вучэнне аб маралі. Практычная філасофія

**Настоящая любовь. Влюбленность – начало любви** / [составитель Дмитрий Семеник]. — Минск: Издательство Белорусского Экзархата Русской Православной Церкви, 2012. — 226 с. — Издано при участии Международного благотворительного фонда «Семья – единение – Отечество» (д. Семково, Минский р-н) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-460-5.

**Настоящая любовь. Строительство семьи** / [составитель Дмитрий Семеник]. — Минск: Издательство Белорусского Экзархата Русской Православной Церкви, 2012. — 226 с. — Издано при участии Международного благотворительного фонда «Семья – единение – Отечество» (д. Семково, Минский р-н) и ООО «Спутник Христианина (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-461-2.

## РЭЛІГІЯ. БАГАСЛОЎЕ

**Акинчиц, И. И.** Полесские верования: генезис, эволюция, перспективы / И. И. Акинчиц, Т. И. Предко. — Брест: БрГТУ, 2012. — 183 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-493-219-4.

### Хрысціянства. хрысціянскія цэрквы і дэнамінацыі

**Арцемій (Кішчанка А. А.).** Пропаведзі / епіскап Арцемій (Кішчанка); [пераклад на беларускую мову – іерэй Ігар Данільчык]. — 2-е выд., са змяненнямі і дапаўненнямі. — Жыровічы: Мінская Духоўная Семінарыя, 2012. — 380 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7028-04-7.

**Был мертв и ожил**: о больших Божьих чудесах в маленьких человеческих жизнях / [составитель Д. Е. Дудов]. — Минск: Ковчег спасения, 2012. — 142 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6832-07-2.

**Ганчарук, І. Г.** Рымска-каталіцкі касцёл у Беларусі (1772–1830 гг.): манаграфія / І. Г. Ганчарук, А. І. Ганчар; Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт. — Гродна: ГрДАУ, 2012. — 381 с. — Частка тэксту на беларускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-537-004-9.

**Крины сельные, или Цветы прекрасные, собранные вкратце от Божественного Писания**: о заповедях Божиих и о святых добродетелях / собрал архимандрит Паисий (Величковский). — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 126 с. — Издано при участии Международного благотворительного фонда «Семья – единение – Отечество» (д. Семково, Минский р-н) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-472-8.

**Ларец мудрости духовной**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 463 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-6886-61-7 (в пер.).

**Молитвослов**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 447 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-6886-49-5 (ошибоч.).

**Патапаў, А. Ф.** Вытокі. Станаўленне праваслаўя і іншых рэлігійных абшчын на Рагачоўшчыне-3 / Аляксандр Патапаў. — Мінск: Печанко А. Г., 2012. — 187 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-87-2.

**50 главных молитв тем, кто всегда поможет!** / составитель: Виктория Карпухина. — Москва: Астрель, 2011. — 189 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-39536-9 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1092-1 (Харвест) (в пер.).

**Самые сильные целительные молитвы**: наставления болящим, держащим пост и соблюдающим диеты / [составители: Наталия Берестова, Надежда Светова]. — Москва: Астрель, 2012. — 192 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-40524-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1024-2 (Харвест) (в пер.).

**Филарет (Вахромеев К. В.; митрополит минский и слуцкий; 1935– ).** Пасхальное послание Митрополита Минского и Слуцкого Филарета, Патриаршего Экзарха всея Беларуси = Пасхальнае пасланне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. — Минск, 2012. — 6 с. — Текст параллельно на русском и белорусском языках. — 2000 экз.

## ГРАМАДСКІЯ НАВУКІ. ЭКАНОМІКА. ГАНДАЛЬ. ПРАВА. ВАЕННАЯ СПРАВА. САЦЫЯЛЬНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ. АДУКАЦЫЯ. ФАЛЬКЛОР

**Климович, А. В.** Обществоведение: курс лекций слушателям подготовительного курса для иностранных граждан / А. В. Климович, Л. В. Перевалова; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2012. — 72 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-473-845-1.

**Обществоведение**: пособие для подготовки к централизованному тестированию / [М. И. Вишневский и др.]; под редакцией М. И. Вишневского. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 383 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0118-6.

### Сацыялогія

**Джонсон, С.** Где мой сыр?: [самый популярный в мире метод менеджмента] / Спенсер Джонсон; [перевел с английского С. И. Ананин]. — 2-е изд. — Минск: Попурри, 2012. — 127 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1589-5.

**Кийосаки, Р. Т.** Богатый папа, бедный папа / Роберт Кийосаки; [перевод с английского выполнил О. Г. Белошеев]. — Минск: Попурри, 2012. — 223 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1659-5.

**Кийосаки, Р. Т.** Как стать богатым, не отказываясь от кредитов = Guide to becoming rich without cutting up your credit cards / Роберт Кийосаки; [перевод с английского выполнил О. Г. Белошеев]. — Минск: Попурри, 2012. — 142 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1686-1 (в пер.).

**Кийосаки, Р. Т.** Квадрант денежного потока = The cashflow quadrant / Роберт Кийосаки; [перевод с английского выполнил О. Г. Белошеев]. — Минск: Попурри, 2012. — 366 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1684-7.

**Малхотра, Д.** Я убрал твой сыр / Дипак Малхотра; [перевел с английского О. Г. Белошеев]. — Минск: Попурри, 2012. — 94 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1593-2.

**Социологический альманах** / Национальная академия наук Беларуси, Институт социологии; [редколлегия: И. В. Котляров (главный редактор) и др.]. — Минск: Беларуская навука, 2010– — ISSN 2077-9674.

Вып. 3. — 2012. — 433 с. — Часть текста на белорусском языке. — Резюме на английском языке. — 120 экз.

**Спадаро, П.** Искусство уважать себя / Патриция Спадаро; [перевела с английского Ж. А. Шлантайте]. — Минск: Попурри, 2012. — 239 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1582-6.

**Трамп, Д.** Дар Мидаса = Midas touch / Дональд Трамп, Роберт Кийосаки; [перевел с английского С. Э. Борич]. — Минск: Попурри, 2012. — 332 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1687-8 (в пер.).

### Палітыка

**Белорусская политология: многообразие в единстве. Политическое знание в современном социальном и образовательном пространстве**: тезисы докладов V Международной научно-практической конференции (Гродно, 17–18 мая 2012 г.): в 2 ч. / [редколлегия: В. Н. Ватыль (гл. редактор) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2012. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 95 экз. — ISBN 978-985-515-538-7.

Ч. 1. — 327 с. — ISBN 978-985-515-539-4.

Ч. 2. — 279 с. — ISBN 978-985-515-543-1.

### Унутраная палітыка

**Регионалистика**: сборник научных трудов / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: В. Н. Ватыль (гл. редактор) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2012. — 257 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-515-527-1.

### Міжнародныя адносіны

**Основы национальной и экономической безопасности**: учебно-методическое пособие: для студентов учреждений высшего образования Республики Беларусь, обучающихся по специальности 1-96 01 01 «Таможенное дело» / [Князев С. Н. и др.; под редакцией Князева С. Н.]; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет. — Минск: БНТУ, 2012. — 144 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-525-900-9.

### Эканамічныя навукі

**«Устойчивое развитие экономики: состояние, проблемы, перспективы», международная научно-практическая конференция (6; 2012; Пинск).** Сборник трудов VI Международной научно-практической конференции «Устойчивое развитие экономики: состояние, проблемы, перспективы»: г. Пинск, 26–27 апреля 2012 г. / [редколлегия: Шебеко К. К. (гл. редактор) и др.]. — Пинск: ПолесГУ, 2012–

Ч. 1. — 2012. — 240 с. — Часть текста на английском и украинском языках. — 140 экз. — ISBN 978-985-516-187-6.

Ч. 2. — 2012. — 263 с. — Часть текста на английском, белорусском, немецком и украинском языках. — 150 экз. — ISBN 978-985-516-188-3.

### Эканоміка ў цэлым

**Зубко, Н. М.** Экономическая теория: ответы на экзаменационные вопросы: [для студентов вузов] / Н. М. Зубко, А. Н. Каллаур. — 6-е изд. — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 143 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-536-312-6.

### Праца. Работадаўцы. Працоўныя

**Журба, А. Ф.** Працоўнае навучанне: падручнік для 3-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: для работы ў класе / А. Ф. Журба, Н. А. Юрчанка; [пераклад з рускай мовы Т. К. Слауты]. — 2-е выд., перагледжанае і дапоўненае. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 87 с. — 10400 экз. — ISBN 978-985-471-480-6 (у пер.).

**Журба, А. Ф.** Трудовое обучение: учебник для 3-го класса учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: для работы в классе / А. Ф. Журба, Н. А. Юрченко. — 2-е изд., пересмотренное и дополненное. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 87 с. — 47700 экз. — ISBN 978-985-471-479-0 (в пер.).

**Материалы об итогах работы организаций Белхимпрофсоюза за 2011 год** / Белорусский профсоюз работников химической, горной и нефтяной отраслей промышленности; [под общей редакцией Клочок Светланы Валентиновны]. — Минск: Проф-Пресс, 2012. — 28 с. — 150 экз.

**Обучение и проверка знаний по охране труда в вопросах и ответах**: практическое пособие / [составитель В. К. Янковский]. — 4-е изд., дополненное и переработанное. — Минск: Центр охраны труда и промышленной безопасности, 2012. — 210 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6915-47-8.

### Формы арганізацый супрацоўніцтва ў эканоміцы

**Гавриленко, А. А.** Эффект холдинга / Александр Гавриленко; [под научной редакцией Медведева Виталия Федосовича]. — Минск: Типография Макарова и К, 2012. — 317 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-6818-65-6 (в пер.).

**Предпринимательство в Беларуси: опыт становления и перспективы развития**: материалы IX Международной научно-практической конференции, г. Минск, 10 апреля 2012 г. / [под общей редакцией В. Л. Цыбовского]. — Минск: БГПУ, 2012. — 319 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-541-064-6.

**Предприятия-экспортеры Гомельской области Республики Беларусь** = Enterprises-exporters of the Gomel region of the Republic of Belarus: бизнес-каталог / Белорусская торгово-промышленная палата, Гомельское отделение; [составители: Ковалева М. О., Кожевникова И. А.; перевод на английский язык: Зданович Е. В.]. — Гомель: Гомельское отделение БелТПП, 2012. — 126 с. — Часть текста на английском языке. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 1000 экз.

### Фінансы. Банкаўская справа. Грошы

**Короткевич, А. И.** Деньги, кредит, банки: ответы на экзаменационные вопросы: [для студентов вузов] / А. И. Короткевич, И. И. Очкольда. — 4-е изд. — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 159 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-536-311-9.

### Эканамічнае становішча. Вытворчасць. Паслугі. Цэны

**Яковук, Т. И.** Организация деятельности туристических предприятий: учебно-методический комплекс для студентов дневной формы обучения географического факультета специальности 1-89 01 01 Туризм и гостеприимство / Т. И. Яковук; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2012. — 204 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-473-844-4.

### Эканамічнае становішча Рэспублікі Беларусь

**Актуальные проблемы и направления социально-экономического развития Республики Беларусь**: материалы II Международной научной конференции молодых ученых (Минск, 25 мая 2012 г.) / [редколлегия: Червяков А. В. и др.]. — Минск: НИЭИ Министерства экономики Республики Беларусь, 2012. — 267 с. — Часть текста на английском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-6762-62-1.

**Дипломат** = Diplomat: международный альманах: международные новости, деловое сотрудничество, видные люди, инвестиционные предложения, наши соседи, туризм и отдых, экология / [Частное рекламно-издательское унитарное предприятие «Интеллект-Медиа»; главный редактор: Анатолий Резанович]. — Минск: Белстан, 2011–

Вып. 2. — 2012. — 62 с. — 50 экз.

**Мясникович, М. В.** Макроэкономическая политика Республики Беларусь: теория и практика: курс лекций / М. В. Мясникович; Академия управления при Президенте Республики Беларусь. — Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь, 2012. — 175 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-527-069-1.

**Национальная платформа бизнеса Беларуси-2012. К модернизации – вместе** / Координационный совет по развитию и продвижению «Национальной платформы бизнеса Беларуси»; [составитель Карягин В. Н.]. — Минск: Печенко А. Г., 2012. — 91 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-7008-90-2.

**Промышленность Беларуси**: каталог-справочник / [составители: Н. А. Каширина, Т. Н. Курлович, С. Ю. Статкевич]. — Минск: Медиафакт, 2012. — 373 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6875-18-5.

### Агульныя пытанні гандлю. Рынак

**Виноградова, С. Н.** Коммерческая деятельность: учебник для учащихся специальности «Коммерческая деятельность (товароведение)» учреждений среднего специального образования / С. Н. Виноградова. — 2-е изд., исправленное. — Минск: Вышэйшая школа, 2012. — 287 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-06-2059-0 (в пер.).

**Исмагулов, Д.** Жесткие переговоры в продажах / Дмитрий Исмагулов. — Минск, 2012. — 63 с. — 650 экз.

### Міжнародныя эканамічныя адносіны. Сусветная гаспадарка

**Государственно-правовое регулирование интеграционных процессов на постсоветском пространстве**: материалы международной научно-практической конференции, Витебск, 20–21 апреля 2012 г. / [редколлегия: А. А. Бочков (ответственный редактор) и др.]. — Витебск: ВГУ, 2012. — 310 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-517-344-2.




# Кнігарня № 1, г. Гомель

## Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Уладзімір Караткевіч. Чорны замак Альшанскі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011.

*Раман “Чорны замак Альшанскі” (1979) — адзін з найпапулярнейшых твораў Уладзіміра Караткевіча, выдадзены ў серыі “Школьная бібліятэка”. Выдавецтва “Мастацкая літаратура” не памылілася — напісаны ў жанры гістарычнага дэтэктыва, які ў апошнія дзесяцігоддзі стаў лідарам сусветнай літаратуры, раман карыстаецца ўстойлівым чытацкім попытам. Займальны і пазнавальны твор, дзе цесна перапляліся гісторыя і сучаснасць, раскажа вам шмат цікавага пра гісторыю Беларусі і не дазволіць заснуць да самага ранку.*

2. Михаил Булгаков. Мастер и Маргарита. — Минск: Мастацкая літаратура, 2010.

3. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.

4. Предыстория белорусов с древнейших времён до XIII века. — Минск: Харвест, 2011.

5. Вадим Деружинский. Забытая Беларусь. — Минск: Харвест, 2012.

6. Витовт Чаропко. Великие князья Великого Княжества Литовского. — Минск: Беларусь, 2012.

7. Роберт Кийосаки. Богатый папа, бедный папа. — Минск: Попурри, 2012.

8. Хосе Сильва, Роберт Стоун. Метод Сильвы. Получение помощи от другой стороны. — Минск: Попурри, 2009.

9. Большая книга малыша. Энциклопедия развития для дошкольного возраста. — Минск: Харвест, 2012.

10. Александр Алексеев, Олег Лукашевич. Наследие Беларуси. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010.

## Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Виктория Токарева. Ничего не меняется. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.

2. Пауло Коэльо. Одиннадцать минут. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.

3. Стефани Майер. Новолуние. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.

4. Дина Рубина. Белая голубка Кордовы. — Москва: Эксмо, 2012.

5. Полина Дашкова. Пакт. — Москва: Астрель, 2012.

6. Виктор Суворов. Истина дороже. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.

7. Джон Грэй. Мужчины с Марса, женщины с Венеры. — Москва: София, 2011.

8. Валерий Синельников. Учебник хозяина жизни. — Москва: Центрполиграф, 2011.

9. Джон Р. Р. Толкиен. Полная история Средиземья. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.

10. Александр Пушкин. Сказки. — Москва: Оникс, 2011.

# Новае прачытанне вядомых твораў

## З ГІСТОРЫІ ПАДРЫХТОЎКІ ЗБОРУ ТВОРАЎ МАКСІМА ТАНКА Ў 13 ТАМАХ



*Максім Танк, 1930-я гады.*

Юбілейныя даты пісьменнікаў — гэта своеасаблівыя рубяжы, на якіх хочацца прыпыніцца і азірнуцца, з якімі набыткамі мы, даследчыкі, прыйшлі да гэтай даты, што новага і невядомага адкрылі ў вывучэнні жыцця і творчасці пісьменніка, што яшчэ застаецца таемным і недасягальным, як вяршыня, якую бачыш, а дайсці пакуль не можаш.
Збор твораў Максіма Танка ў 13 тамах, які завершаны ў гэтым годзе, адкрыў для чытача шмат новага з творчай біяграфіі паэта і актуалізаваў не менш пытанняў.

**Святлана КАЛЯДКА,**
**старшы навуковы супрацоўнік аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі**

Праца па падрыхтоўцы Збору твораў да выдання была распачата ў 1996 годзе ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта ад 10 кастрычніка 1995 г. Так, у тагачасным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі была створана асобная тэксталагічная група пад кіраўніцтвам У. Мархеля, у якую ўваходзілі Т. Мархель, В. Карачун, А. Данільчык, С. Калядка, Т. Барысюк, М. Барташэвіч, А. Шакун, асобныя тамы рыхтавалі ці ўдзельнічалі ў іх падрыхтоўцы на пэўных этапах М. Арочка, У. Казбярук, А. Ліс, А. Бразгуноў, У. Трафімец.

Першапачаткова планавалася выдаць 18 тамоў (у адпаведнасці з наяўным матэрыялам), затым агаворвалася лічба 15, у выніку было зацверджана 13 тамоў выдання. Амаль 7 гадоў група чакала з'яўлення першага тома — у 2006 годзе былі апублікаваны першы і другі тамы.

На жаль, па стане здароўя ў 2008 г. кіраўніцтва групай вымушаны быў пакінуць Уладзімір Мархель, якім была распрацавана канцэпцыя выдання, які зрабіў значны ўнёсак у стварэнне кніг "Лісты" і "Лісткі календара" Максіма Танка, які на працягу ўсіх гадоў працы займаўся каардынацыяй дзейнасці групы, з асаблівым клопатам ставіўся да кожнага тома.

Што да працэсу падрыхтоўкі выдання, трэба сказаць, што былі цяжкасці. Напрыклад, у архівах захоўваецца шмат фотадзымкаў без даты і аўтарскіх памет, і цяжка ўстанавіць перыяд іх з'яўлення. Такія фотаздымкі мы не ўключалі ў выданне, хаця сярод іх ёсць унікальныя кадры. Яшчэ больш складанасцей выклікала расчытванне почырку паэта, асабліва ў аўтографах, датаваных 1980 — 1990-мі гадамі: Максім Танк пісаў вельмі неразборліва, скарачаючы словы, прапускаючы літары і не дапісваючы канчаткі, што выклікала розначытанні.У некаторых выпадках з-за немагчымасці расчытаць ці з-за некалькіх варыянтаў прачытання слова падавалася з паметай <нрбр> або замест слова фігуравала дадзеная памета.

Першапачатковая задача, якая ставілася перад нашай тэксталагічнай групай, — выдаць тамы, якія былі падрыхтаваны да друку ў 1996 — 1999 гг. Пытанне пра дападрыхтоўку нібыта завершаных тамоў узнікла пасля таго, калі ў канцы 2009 і на працягу 2010 гг. тэкстолагі атрымалі дазвол ад дырэктара БДАМЛіМ Ганны Запартыкі працаваць з матэрыяламі, якія яшчэ не былі зафіксаваны музейнымі супрацоўнікамі і не набылі статусу дакументаў, адкрытых для агульнага карыстання. Дзякуючы гэтаму намі былі своечасова апрацаваны шматлікія артыкулы, выступленні, лісты, дзённікавыя запісы і іншыя матэрыялы, якія мы паспелі ўключыць ва ўжо падрыхтаваныя да публікацыі 9 — 13 тамы. Пры апрацоўцы матэрыялаў выявіліся аўтографы вершаў, якія на той час ужо былі апублікаваны ў 1 — 6 тамах Збору твораў. У выніку вершы прадстаўлены без аўтарскіх аўтографаў, што, па-першае, збядніла ўяўленне пра асаблівасці напісання твораў і спецыфіку танкаўскага стылю, па-другое, не дазволіла прадставіць чытачу каментарый да вершаў у цэласнай тэксталагічнай апрацоўцы з фіксаваннем усіх шляхоў працы аўтара над тэкстам, пачынаючы з аўтографа і заканчваючы яго публікацыяй у пэўным зборніку ці зборы твораў. Таму каментарый да некаторых вершаў нельга назваць поўным.

Вялікая праца зроблена па ўвядзенні новых матэрыялаў у завершаныя тамы. Восьмы том быў замацаваны за Таццянай Барысюк. Складанасць падрыхтоўкі яго была абумоўлена тым, што многія творы раней не друкаваліся ні ў зборніках, ні ў Зборах твораў Максіма Танка. З архіўных матэрыялаў уключаны дзве рэцэнзіі з крыптонімам М. Т-к у якасці подпісу з рубрыкі "Паштовая скрынка". Прычым устаноўлена, што гэты крыптонім раней не быў адзначаны ні ў навуковых працах, ні ў "Слоўніку беларускіх псеўданімаў (XVI — XX ст.)" Я. Саламевіча як крыптонім Максіма Танка. Я. Саламевіч пагадзіўся, што ён нікому з беларускіх пісьменнікаў, акрамя Танка, належаць не мог. Таксама ў 8-ы том уведзена рэкамендацыя, якая друкавалася па яго рукапісе.

> *У вялікай працы не бываюць толькі чыставікі, даводзіцца перапісваць з чарнавікоў.*

Адзначым, што ў нашых бібліятэках і архівах цяжка знайсці ўсе нумары газет і часопісаў даваеннага перыяду. У асабістым архіве Максіма Танка захоўвалася шмат газет і часопісаў з яго вершамі, перакладамі, артыкуламі, выступленнямі — часта з аўтарскімі праўкамі. Мы іх уключалі ў каментарый у якасці варыянтаў. Том дапоўнены архіўнымі матэрыяламі, выяўленымі ў фондах Максіма Танка: артыкул "На новы шлях", апублікаваны ў газеце "Наша воля" ў 1936 г.; літаратурны артыкул "Літаратурны маладняк і крытыка" з праўкамі аўтара з час. "Беларускі летапіс" за 1938 г.; рэцэнзіі "Міхась Васілёк" з праўкамі аўтара з час. "Беларускі летапіс" за 1937 г., "Стрэхі за гасьцінцам (М. Машара "З пад стрэх саламяных")" з праўкамі аўтара з час. "Беларускі летапіс" за 1937 г.; нарыс "Як зелянее зямля" з час. "Беларускі летапіс" за 1937 г.; тэкст выступлення "Дарагія таварышы, землякі, сябры!" — машынапіс з аўтарскімі праўкамі за 1994 г.

Дзявяты том Збору твораў — "Лісткі календара" і дзённікі (1941 — 1959 гг.) — рыхтавалі Арсень Ліс і Уладзімір Казбярук, якія валодаюць глыбокімі ведамі па літаратурным жыцці Заходняй Беларусі, што адлюстравалася ў вычарпальных тлумачэннях шматлікіх падзей у віленскім жыцці Максіма Танка. Пры падрыхтоўцы "Лісткоў календара" і дзённікаў сутыкнуліся с праблемай устанаўлення некаторых асоб у запісах Танка, якія падаваліся толькі ініцыяламі ці асобнай літарай, многія з якіх расшыфраваны А. Лісам. Аднак найбольш важная праблема — гэта прапаўшыя дзённікі Максіма Танка. У. Казбярук падрыхтаваў тэкст на аснове машынапісу і рукапісу, улічыў памылкі друку пры публікацыі ў "Полымі", і на сённяшні дзень гэта адзіная і найбольш поўная версія дзённікаў.

З архіўных фондаў Максіма Танка быў апрацаваны машынапіс "Лісткоў календара" за 1938 г., улічаны запісы з рукапісных "Лісткоў…", што захоўваюцца ў архіве Вільні. У іх аўтар шыфраваў інфармацыю, а таму шматлікія месцы расчытаць было немагчыма ці расчытанае выглядала бессэнсоўным наборам слоў. Максім Танк неаднойчы прызнаваўся, што некаторыя месцы, імёны так і не змог расшыфраваць. У прадмове да "Лісткоў календара" (1970, 1981) ён зазначыў: "…Многія старонкі, — размова ідзе пра аўтэнтычны тэкст дзённіка, — я яшчэ не змог поўнасцю расшыфраваць: прайшло ўжо трыццаць год з таго часу, калі яны былі напісаны. Асабліва цяжка зараз па ініцыялах і клічках устанавіць імёны таварышаў, знаёмых, сяброў, з якімі нам даводзілася працаваць, сустракацца ў тыя гады". Таму ў тых выпадках, дзе персаналія расшыфроўцы не паддаецца, даводзілася абмяжоўвацца аўтарскай канстатацыяй фактаў, нейкай рэаліі бездакосна да канкрэтнага імя.

Пры падрыхтоўцы дзённікаў (9 — 10 тамы) уведзены новы матэрыял — апрацаваны сшыткі з рукапісамі вершаў. У іх паэт суправаджаў вершы рознымі каментарыямі і часта змяшчаў паміж тэкстамі дзённікавыя запісы, якія ім не ўводзіліся потым у самі тэксты дзённікаў. У гэтых запісах Максім Танк не толькі канстатуе факты свайго жыцця, але і разважае пра беларускую літаратуру, эмацыянальна выказваецца пра прачытаныя творы, выступае з крытыкай у адрас уласных твораў і г.д. Гэтыя запісы ўключаны ў 10-ы том.

> *Сярод 844 лістоў 90 працэнтаў друкуецца ўпершыню.*

Па прычыне таго, што доступ да танкаўскіх матэрыялаў атрыманы амаль на апошнім этапе выдання, давялося змяняць канцэпцыю ў падачы дзённікаў, лістоў, артыкулаў і выступленняў. Папярэдне храналогія тамоў выглядала наступным чынам: 1 — 6-ы тамы — вершы, 7-ы — паэмы, 8-ы — празаічныя творы, артыкулы, выступленні і інш., 9-ы — "Лісткі календара", 10 — 11-ы тамы — дзённікі, 12-ы — пераклады і 13-ы том — лісты. Аднак менавіта ў 2010 г. на пасяджэнні вучонага савета было прынята рашэнне змяніць паслядоўнасць выдання апошніх тамоў з мэтай уключэння ў іх новых дакументаў. Таму вырашана аб'яднаць "Лісткі календара" з часткай дзённікаў у 9-м томе і асобна падаць большую частку дзённікаў, пры гэтым павялічыўшы аб'ём кніг амаль да тысячы старонак. Таксама зрушылася нумарацыя наступных тамоў — 11-ы том — пераклады, 12-ы том — лісты і 13-ы — артыкулы і выступленні. Найбольш скрупулёзныя чытачы і крытыкі заўважаць, што і ў 8-м, і ў 13-м тамах падаецца артыкулы і выступленні. Абумоўлена гэта ўсё той жа праблемай нястачы колькасці неабходных тамоў для размяшчэння ўсёй творчай спадчыны Максіма Танка і знойдзенымі новымі артыкуламі і выступленнямі, якія праігнараваць было немагчыма. У 8-м томе па-за кантэкстам заставаліся шматлікія тэксты, звязаныя з удзелам Максіма Танка ў розных з'ездах, сесіях, пленумах, пасяджэннях, творчых сустрэчах і г.д., з водгукамі на гарачыя падзеі ў краіне і за мяжой. Былі таксама выўлены чарнавыя і белавыя аўтографы і машынапісы выступленняў, якія ніколі не публікаваліся. Зыходзячы з названых акалічнасцей, вырашана за кошт з'яўлення "Лісткоў календара" і дзённікаў 13-ы том падаць з артыкуламі і выступленнямі, не ўведзенымі ў 8-ы том Збору твораў.

"Пераклады" Максіма Танка (11-ы том) папоўнены таксама рукапіснымі і друкаванымі тэкстамі, знойдзенымі ў архіўных фондах. Т. Барысюк як адказная за выданне 11-га тома ўвяла ў каментары рукапісныя тэксты перакладаў у якасці варыянтаў.

Шматлікія пераклады Танка раней не ўключаліся ім ні ў зборнікі, ні ў зборы твораў. Намі знойдзены пераклады з часопіса "Калоссе" з аўтарскімі праўкамі, пераклад Максіма Танка свайго артыкула "Садрыдзін Айні" з рускай на беларускую мову, рукапісныя пераклады твораў Ежы Загурскага, Уладзіміра Слабодніка, Андрэаны Радэвы, Ніны Касьян, Яна Сьпевака, Арнольда Слуцкага, Леона Пастэрнака, Юзэфа Міхальскага і інш.

12-ы том — "Лісты Максіма Танка". Гэта перададзеныя адрасантамі з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і Літвы і г.д., а таксама з перапіскі Максіма Танка з жонкай (150 лістоў, сярод якіх каля дзесяці было надрукавана раней, астатнія прадстаўлены ўпершыню). Таксама знойдзена некалькі рукапісных і машынапісных лістоў, адны з якіх пісаліся пад капірку, іншыя, на нашу думку, не былі адпраўлены адрасату. Унікальнай можна лічыць знаходку ліста Максіма Танка да У. Калесніка (у чатырох варыянтах: рукапісныя і машынапісныя з аўтарскімі праўкамі) і адказ У. Калесніка. Таксама знойдзена некалькі лістоў з рознымі просьбамі, адрасаваных Танку, і адказы паэта (А. Каўрусу, А. Каўку, у музей Сваткаўскай школы, настаўніцы Ільянскай школы). Сярод 844 лістоў 90 працэнтаў друкуецца ўпершыню. Тэксталагічная група ў свой час звярталася да тых, хто вёў перапіску з Максімам Танкам, аднак адгукнуліся нямногія. Таму нас не здзівяць публікацыі з новымі лістамі, якія чакалі свайго часу пасля выхаду 12-га тома.

Безумоўна, у юбілейны год не хочацца распавядаць пра пераадоленні і перашкоды ў падрыхтоўцы выдання, хочацца гаварыць больш пра дасягненні, адкрыцці, новае прачытанне вядомых твораў Максіма Танка і расчытванне невядомых і г.д. Аднак у вялікай працы не бываюць толькі чыставікі, даводзіцца перапісваць з чарнавікоў. А таму стварэнне Збору твораў у 13 тамах — гэта невялікія крокі ў вывучэнні асобы Максіма Танка — Чалавека, Паэта, Грамадзяніна. А даследчыкаў чакаюць новыя матэрыялы, прадстаўленыя ў нашым выданні.

Унікальны праект

# Ад Кобрына да Студзёнкі

**Мінскае выдавецтва "Тэхналогія" працягвае выпуск філакартычных альбомаў "У пошуках страчанага".**

**Кастусь ХАДЫКА**



Новая кніга — "1812: Помнікі Айчыннай вайне на старых паштоўках". Аўтары — вядомыя беларускі і расійскі калекцыянеры Уладзімір Ліхадзедаў і Кірыл Сокал, на іх багатых зборах паштовак канца XIX — пачатку XX стагоддзя выданне і заснавана.

У альбоме прадстаўлена каля 300 старых паштовак з выявамі помнікаў падзеям і героям вайны 1812 года. Шмат якія з гэтых манументаў не захаваліся да нашага часу. Выявы помнікаў суправаджаюцца гістарычнымі апісаннямі.

Гартаючы старонкі альбома, можна смела ўявіць многія падзеі з далёкага мінулага. Назавём некаторыя з раздзелаў выдання: "Ад Кобрына да Смаленска", "Смаленск", "Барадзіно", "Ад Барадзіно да Полацка", "Полацк", "Малаяраславец", "Бярэзіна", "Ад Вільна да Таурагена", "Іншыя помнікі", "Помнікі героям", "Помнікі Аляксандру I", "Храмы. Аркі. Юбілейныя ўрачыстасці…" Услед за аўтарамі чытач і глядач не толькі мае магчымасць уважліва разгледзець тыя ці іншыя помнікі, а пранікае ў асэнсаванне далёкіх падзей. Калекцыянеры хаця і лаканічна, але досыць выразна і абазначаюць тэму, у звязку з якой усталёўваліся тыя ці іншыя помнікі, і расказваюць пра акалічнасці іх узвядзення, прасочваюць далейшы лёс. Як, напрыклад, і ў выпадку з кобрынскімі падзеямі.

Першая перамога над войскамі Напалеона, якія ўварваліся ў Расію, была атрымана ўдалечыні ад галоўнага тэатра ваенных дзеянняў. 15 ліпеня 1812 года паблізу Кобрына адбыўся бой паміж 3-й рэзервовай арміяй Тормасава і саксонскімі часцямі генерала Клейнгеля. Руская армія атрымала перамогу, захапіўшы шмат палонных і трафеяў. У 1912 годзе да стагадовага юбілею вайны быў закладзены помнік ля кобрынскага сабора на Бабруйскай вуліцы. А 15 ліпеня наступнага года ў Кобрыне ўрачыста адкрылі помнік у знак перамогі над французамі. Галоўнымі фундатарамі былі калектывы 38-й пяхотнай дывізіі і 38-й артылерыйскай брыгады. Дапамагалі і жыхары Гродзенскай губерні, куды ў той час уваходзіў Кобрын. Спрычыніліся да фінансавання і палкі, якія ўдзельнічалі ў Кобрынскім баі ў 1812 годзе. Памяць працягвала хваляваць. Аўтар праекта помніка — інжынер Д. Маркаў. Фігуру арла і дошкі выканаў скульптар С. Ота. Помнік уяўляў сабой гранітную аснову з бронзавай фігурай двухгаловага арла, які рве лаўровы вянок з вензелем Напалеона. На дошцы — надпіс: "Рускім воінам, якія атрымалі першую перамогу над войскамі Напалеона ў межах Расіі 15 ліпеня 1812 года". На правым баку помніка знаходзілася дошка з надпісам, дзе быў прыведзены спіс трафеяў: "4 сцягі, 8 гармат, 2 генералы, 76 афіцэраў і 2382 ніжніх чыноў". З левага боку пад вензелем Мікалая II — надпіс: "Усталяваны нашчадкамі герояў Кобрынскай перамогі 15 ліпеня 1912 года". Пералічваліся палкі, якія бралі ўдзел ва ўсталяванні. Перад помнікам занялі пачэснае месца чатыры гарматы. Мемарыяльнае месца акружылі ланцугом. А ў 1920-я гады, калі Кобрын знаходзіўся ў складзе Польшчы, манумент перарабілі ў гонар Тадэвуша Касцюшкі. Дошкі збілі. На месца арла паставілі бюст кіраўніка паўстання 1794 года. У альбоме ёсць паштоўка, якая расказвае і пра гэты бок гісторыі. У першапачатковым выглядзе помнік у Кобрыне ўзнавілі ў 1951 годзе — па праекце скульптара М. Керзіна.

Ці не самыя цікавыя паштоўкі расказваюць пра лістападаўскія падзеі 1812 года на Бярэзіне. Усім вядома, што пасля Бярэзіны Вялікая армія Напалеона практычна перастала існаваць. Дзякуючы "бярэзінскім" паштоўкам з калекцый У. Ліхадзедава і К. Сокала можна ажыццявіць сапраўдную экскурсію да месца легендарных падзей. Альбом паштовак пра помнікі Айчыннай вайны 1812 года — своеасаблівы гід па кропках гістарычнай памяці. Вось адрасы, куды клічуць нас старыя паштоўкі: Аўгустоў, Варшава (Польшча), Луцк, Ковель, Нікалаеў, Севастопаль, Харкаў (Украіна), Вязьма, Грозны, Ноўгарад, Санкт-Пецярбург, Масква, Смаленск (Расія)… А ў Беларусі з альбомам у руках варта наведаць Вілейку, Барысаў, Кобрын, Верхнядзвінск, Кляціцы, Рэчыцу, Салтанаўку і шмат якія іншыя мясціны…

У 2007 годзе разам з калектывам аўтараў праекта "У пошуках страчанага" газеты "СБ. Беларусь Сегодня" У. Ліхадзедаў быў адзначаны прэміяй "За духоўнае адраджэнне". Расіяне ўзнагародзілі беларускага збіральніка памятак даўніны медалём "За вялікі ўклад у калекцыйную справу Расіі". За мінулыя гады Уладзімірам Аляксеевічам створана цэлая бібліятэка з кніг паштовак у серыі "У пошуках страчанага". У музеях краіны праведзены цэлы шэраг выставак на тэмы, якія раскрыты дзякуючы паштоўкам з яго калекцыі. Многія выдавецтвы, перыядычныя выданні актыўна выкарыстоўваюць у якасці ілюстрацый да кніг, часопісных і газетных публікацый матэрыялы са зборнікаў таленавітага шукальніка. Такая шырокая краязнаўчая, музейная дзейнасць Уладзіміра Ліхадзедава вартая і шырокай грамадскай адзнакі.



*Помнік у Кобрыне.*

Выстаўкі

# Мегамільянер Волкаў

**Вольга НОРЫНА**

Сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння і 50-годдзе творчай дзейнасці — такія значныя падзеі ў жыцці мастака Сяргея Волкава прыйшліся на Год кнігі. І гэта сімвалічна, бо знаёмства з творчасцю славутага мастака для многіх з нас адбывалася яшчэ ў дзяцінстве, калі мы пачынаем падарожжа ў Краіну чытання з яркіх каляровых кніжак казак, ім аздобленых.

У Палацы мастацтва адрылася выстаўка твораў (малюнак, акварэль, станковая графіка, ілюстрацыя) заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэата прэмій Васіля Віткі і Кандрата Крапівы. Значная частка работ — ілюстрацыі да дзіцячай літаратуры. "Чароўны куфэрак" і "Мароз Іванавіч", "Самы разумны" і "Как муравьишка домой спешил", "Казка пра Ярша Яршовіча" і "Дзюймовачка" — пералік выданняў, што ўпрыгожаны малюнкамі Сяргея Анатольевіча, можа заняць не адну старонку. На адкрыцці выстаўкі першы намеснік старшыні грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў" Рыгор Сітніца пажартаваў: "Каб сёння сюды прыйшлі ўсе дзеці, якія трымалі ў руках кнігі з ілюстрацыямі Сяргея Волкава, а гэта дзясяткі мільёнаў, кантралявацъ гэты натоўп не змагла б і конная міліцыя. Так што з поўным правам можна лічыць мастака мегамільянерам, — і адзначыў: — Ёсць мастацкія творы, зразумелыя толькі спецыяльна падрыхтаваным прафесіяналам, а мова таго, што робіць Волкаў, зразумела ўсім".

Наведвальнікі выстаўкі былі адзінадушны: сярод знаёмых з творчасцю Сяргея Волкава няма ніводнага, каму не падабаюцца яго героі. Галоўны мастак выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Алена Сітайла адкрыла сакрэт: "Усё вельмі проста — яго персанажы ніколі не сумуюць!"

Юбіляра віталі старшыня аб'яднання "Верасень" Ніна Марчанка, Уладзімір Ліпскі і Юлія Зарэцкая — галоўныя рэдактары часопісаў "Вясёлка" і "Вожык", на старонках якіх шмат гадоў друкаваліся ілюстрацыі Сяргея Анатольевіча. "З "Вожыкам" звязана ўсё маё творчае жыццё", — засведчыў мастак.

Выстаўка дае магчымасць ацаніць яго "незвычайны талент і незвычайную любоў да працы", адзначаныя ўсімі выступоўцамі: убачыць харастао беларускіх краявідаў, захапіцца адценнямі жаночага настрою ў нізцы "Эмоцыі", сённяшнімі вачыма зазірнуць у мінулае стагоддзе дзякуючы выдатнай станковай серыі "Старонкі гісторыі", за якую С. Волкаў уганараваны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Выступоўцы падкрэслівалі: Сяргей Волкаў, прадстаўнік славутай мастацкай дынастыі, годна працягнуў справу дзеда і бацькі. Кожны з іх адлюстраваў сваю эпоху.

Шмат добрых слоў прагучала ў адрас сям'і мастака, члены якой прысутнічалі на ўрачыстасці.



*Ілюстрацыя да зборніка казак "Самы разумны".*

# Славацкі «Paradise»

**Вольга ПАЛОМЦАВА**

Міжнародны пленэр "ARTINPARADISE" прайшоў у жніўні ў Славакіі. Пяць незабыўных дзён пад кіраўніцтвам члена Беларускага саюза мастакоў, настаўніка выяўленчага мастацтва СШ № 185 Аксаны Аракчэевай юныя мастакі — вучні школы № 185, гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка, мастацкай школы № 1 г. Мінска і школьнікі з Наваполацка — падарожнічалі і ўвасаблялі ў сваіх жывапісных і графічных работах прыгажосць прыроды запаведніка з сімвалічнай назвай "Славацкі вырай".

Творчай справаздачай мастачкі Аксаны Аракчэевай за мінулыя 15 гадоў стала выстаўка твораў жывапісу і графікі "Прывітанне з Мінска" ў славацкім горадзе Спішска Нова Весь. Беларускае мастацтва ў "Галерэі мастакоў Спіша" экспануецца ўпершыню.

Сярод работ — графічныя аркушы з нізкі "Казкі лета", "Поры года", "Год пацука", "Смачная бульбачка", "Сакавік у Мінску"; жывапісныя палотны з цыкла "Мінскія вокны"; краявіды Славакіі, зробленыя падчас леташняга пленэру; галерэя партрэтаў асоб, якія зрабілі значны ўнёсак у духоўнае жыццё Беларусі. На адкрыцці выстаўкі таксама адбылася прэзентацыя трох партрэтаў жыхароў гэтай мясцовасці, што стала прыемным сюрпрызам для тых, каго ўвасобіла мастачка.

Наведвальнікі мелі магчымасць ацаніць і ілюстрацыі для дзіцячых беларускіх кніг, зробленыя мастачкай з 1989 па 2012 год. Улічваючы пажаданні славацкіх аматараў мастацтва, кіраўніцтва галерэі вырашыла экспанаваць выстаўку да канца верасня.

У лісце да дырэктара галерэі Люцыі Беніцкай міністр культуры Беларусі Павел Латушка выказаў падзяку за прадастаўленую магчымасць прэзентацыі беларускага мастацтва ў Славакіі.

На літаратурным небасхіле зорка Уладзіміра Калесніка (1922 — 1994) гарыць ярка і непагасна. Добры дзясятак ягоных кніг узнаўляе гісторыю заходнебеларускай літаратуры, асобныя творы разглядаюць давераснёўскую паэзію Максіма Танка, Уладзіміра Жылкі, Валянціна Таўлая і іншых, тонкі і дасведчаны крытык — аўтар шэрагу вучэбных дапаможнікаў для педінстытутаў і ўніверсітэтаў, суаўтар вядомай кнігі "Я з вогненнай вёскі…"

Асаблівыя жыццёвыя і творчыя стасункі ў славутага вучонага, крытыка і літаратуразнаўцы склаліся з Максімам Танкам. Два волаты беларускай літаратуры не толькі сябравалі, але і свае юбілеі кожны раз адзначалі ў адзін дзень — 17 верасня. Творчасці знакамітага сябра Уладзімір Калеснік прысвяціў кнігі "Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура" (1959), "Максім Танк: Нарыс жыцця і творчасці" (1981), шматлікія артыкулы, а таксама мастацкі нарыс "Будзённы дзень з Максімам Танкам", заключны раздзел з якога друкуецца ніжэй. Менавіта па гэтым урыўку добра відаць, што трапныя характарыстыкі і азначэнні паэзіі вялікага творцы, дадзеныя Уладзімірам Калеснікам, нават і праз дзесяцігоддзі не састарэлі і не страцілі сваёй актуальнасці.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

**Уладзімір КАЛЕСНІК**

# Будзённы дзень з Максімам Танкам

## *Урывак з літаратуразнаўчага нарыса*



*"Той шчаслівы для мяне дзень надарыўся ў пачатку кастрычніка 1965 года. Максім Танк быў тады дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад Іванаўскай акругі. Едучы на сустрэчу з выбаршчыкамі, ён прапанаваў мне падтрымаць яму кампанію ў паездцы па Брэстчыне. Я ахвотна згадзіўся. Мы дамовіліся ехаць на маёй машыне, каб не быць звязанымі раскладамі грамадскага транспарту, — піша на пачатку нарыса Уладзімір Калеснік. — Уражанні ад таго дня я выкарыстаў у нататках пра Максіма Танка, якія былі змешчаны ў "Дружбе народаў" у тым жа годзе. Ад сваіх калег мне давялося чуць цёплае слова пра публікацыю, і цяпер, перачытаўшы яе, я вырашыў ёю адкрыць кніжку. Але апрацоўка тэксту прыспорыла нечаканага клопату: неўпрыцям на дарожныя нататкі пачалі напластоўвацца разважанні пра сучасную творчасць Максіма Танка, неяк натуральна падключыліся сюды і новыя знойдзеныя дакументы пра рэвалюцыйную дзейнасць паэта ў давераснёўскі час. Паўстала неабходнасць выдзеліць гэты новы матэрыял у асобны нарыс. Я пачаў нават рабіць такую аперацыю, але заўважыў, што гэта будзе кесарава сячэнне, і асмеліўся пакінуць напісанае такім, як яно выйшла з-пад рукі, хоць разумею, што лішне экспрэсіўная кампазіцыя будзе патрабаваць ад чытача дадатковага напружання ўвагі. Каб аблегчыць успрыманне, я парабіў заўвагі ў тых мясцінах, пра якія ёсць патрэба ведаць, калі яны былі напісаны".*

…Чытачу, які сачыў за паездкаю, апісанай у гэтых нататках, магло здацца, што я знарок дражню яго цікаўнасць, не гаворачы пра нейкі фінальны факт. Мушу расчараваць чытача. Больш такіх здарэнняў, якія б лажыліся ў кантэкст гэтых нататкаў, я не сустрэў. Паездка скончылася вельмі звычайна, без прыгод. Сёння, калі я прыпамінаю падзеі і думкі, выказаныя тады паэтам, і спрабую ставіць іх у кантэкст яго творчасці, яго разумення паэзіі і грамадскай місіі мастака, заўважаю ўсё новыя і новыя доказы глыбокай жыццёвасці, сапраўднай народнасці Танкавай паэзіі, дзіўлюся з цэльнасці натуры мастака, які ў кожнай жыццёвай сітуацыі, вялікай і дробнай, застаецца сабою — у жыцці і ў творах. Цэльнасць натуры — вось аснова абаяльнасці мастака. Зайздроснае багацце асобы лірычнага героя паэзіі Танка — адлюстраванне самабытнасці аўтара.

Што б мы ні гаварылі пра суадносіны лірычнага героя і асобы мастака, мусім прызнаць: каштоўнасць твора ў чалавечай каштоўнасці творцы. Гэтыя багацці душы раскрываюцца не заўсёды і не ўсім. Чытач, яго здольнасць разумець, яго патрэба ведаць, яго мэта жыць і тварыць, яго ідэал — вось другая сутнасная сіла ў творчым працэсе.

Асэнсоўваючы творчую працу, Максім Танк настойліва падкрэслівае яе сувязь з вытворчаю працай. Зразумела, аналогія і падабенства выступаюць не ў сутнасці працы і творчасці, а ў грамадскай функцыі. Мастацкая творчасць — гэта вытворчасць каштоўнасцей, патрэбных грамадству. На азначэннях сутнасці паэзіі і яе грамадскае ролі ў Максіма Танка прыкметны злабадзённыя павевы часу. Пад уплывам спрэчкі "фізікаў" з "лірыкамі" ён горача выступае супраць кожнага, хто супрацьпастаўляе працу хлебароба працы паэта. Паэзія — хлеб надзённы, глыток вады, кроў у жылах, паэзія — само жыццё. Стварэнне паэзіі — гэта будаўніцтва палацаў для душы сучаснікаў, жылля для нашых эстэтычных пачуццяў, адным словам — будаванне жыцця для індывідуальнай і нацыянальнай народнай душы. Паэтычная праца мае свае цяжкасці, свае пакуты і свае небяспекі. Цяжар таленту і працы паэта ў тым, што ён мусіць быць пры ўсялякіх абставінах праўдзівым, шчырым, адкрытым. Паэта не ахоўвае панцыр жыццёвай мудрасці, практычнасці, кампрамісаў, покуль ён паэт. Нават слава не заўжды ратуе яго ад помсты, зайздрасці тых, каго кранула яго праўдзівае слова. Максім Танк параўноўвае прафесію паэта з канатаходцам, які балансуе над проданню чалавечага сэрца. Сітуацыя двойчы небяспечная, бо ніхто не бачыць гэтай небяспекі. Паэту-канатаходцу апладзіруюць там, дзе трэба заміраць ад страху за яго жыццё.

Значэнне сваёй творчасці Максім Танк ацэньвае сціпла — гэта адзін глыток вады, якім можна прагнаць смагу ў гарачы дзень. Паэзія патрэбная рэч, але сёння яшчэ не ўсе ўсведамляюць жыццёвую важнасць яе. Паэт гатоў пагадзіцца з гэтым. Ён не хоча ўгаворваць, а тым больш прымушаць любіць чытаць паэзію. Сціпласць паэта гордая. Адно толькі гарантуе ён — даць чытачу глыток чыстай вады. Наконт чысціні ён не прыме папрокаў. Вышэй за ўсё даражыць мастак праўдзівасцю сваёй песні, жывою душою, укладзенаю ў напевы. Таму і абурае яго, і раздражняе, і смешыць тупая самаўпэўненасць літаратурных мяшчан, гатовых падказваць паэту рашэнні цяжкіх тэм, падказваць дарогі, выбрукаваныя глыжамі банальных, але бяспрэчных ісцін. Паэту вальней дыхаць сярод простых людзей, якія не маюць да яго асаблівых прэтэнзій, лічаць яго проста знаёмым чалавекам, а не якімсьці фокуснікам-паэтам.

Паэтычная праграма Максіма Танка — гэта не сістэма нейкіх правіл, суджэнняў, паняццяў, гэта сістэма шуканняў. А дзе шуканне, там і супярэчлівасці, там і спрэчкі з праціўнікамі, з аднадумцамі, з самім сабою. Параўнайце вершы "Вясновая ода" і "Паядынак". На першы погляд яны пярэчаць адзін другому, даюць розныя адказы на пытанне, служыць ці не служыць паэзіі практычным патрэбам жыцця:

*Напэўна, эстэты ды розныя снобы*
*Не згодзяцца з гэтаю одай маёй:*
*Глядзіце — паставіў Пегаса ў аглоблі,*
*Вазіць памагае калгаснікам гной.*

У "Паядынку" сатырычны персанаж, кан'юнктурны паэт Дон Пэдра стаіць як быццам на той жа пазіцыі, што аўтар у "Вясновай одзе", і за гэта атрымлівае выклік на дуэль. Хіба за некалькі гадоў, што аддзяляюць гэтыя вершы, паэт змяніў погляды на пастаўленую праблему? Не. Паэт ніколі не быў супраць служэння паэзіі чалавеку і грамадству. Розніца паміж ім і Донам Пэдрам у нюансах, таму і спрэчка вырашаецца па-рыцарску. Паэзія павінна служыць чалавеку і грамадству, служачы праўдзе і красе. Іншыя формы служэння ператвараюць паэзію проста ў бяздумную служанку. Там, дзе пачынаецца чышчэнне батфортаў, няма паэзіі. Яснасць уносіць паэт у вершы "Абвяржэнне", заяўляючы: "Мне чалавечае ўсё было блізка". Так, чалавечае, а не кан'юнктурнае, прыслужніцкае. Дон Пэдра не ўлоўлівае гэтых "нюансаў".

Спецыялісты кажуць, быццам паэзія Танка развіваецца ў кірунку класічнай завершанасці формаў. Сам паэт як быццам пацвярджае гэтае меркаванне, заяўляючы:

*Перш непакоіўся:*
*Як сваю думку ўпрыгожыць.*
*І, як дзікун той,*
*Стараўся абвешаць яе*
*Цацкамі...*

Не будзем упадаць у наіўнасць і грэх літаральнасці. Не ўсякую думку прыхарошваў паэт на пачатку творчага шляху. У ранніх вершах гіпербалізаваліся хутчэй пачуцці, чым думкі. Паэт стаяў тады на барыкадзе, душа яго перапаўнялася рамантычнымі парываннямі. Успрыманне свету героем было гарачым, напружаным, але не такім складаным, як сёння. Хоць паэт і заяўляе, што імкнецца "вершу даць строгую форму ракеты", але на справе ён ідзе да ўсё большай і большай мнагастайнасці форм. Зрэшты, гэта азначае максімальнае выяўленне жанравай прыроды лірыкі як славеснага жывапісу пачуццяў. Сказанае можна лёгка пацвердзіць, калі прабегчы вокам змест пасляваенных зборнікаў: чым бліжэй да сённяшняга дня, тым радзей паэт дае загалоўкі вершам, а гэта бяспрэчнае сведчанне росту лірычнай экспрэсіі ў мастацкім самавыяўленні. У найноўшай паэзіі Танка мы сустракаем творы, вельмі розныя па манеры, ступені закончанасці, тэматычнай важнасці. Побач з вершамі, якія нагадваюць народную песню з яе стылізаванымі вобразамі дзяўчыны і хлопца, з паўторамі дэкарацыйных кампанентаў у сюжэце, з рытмамеладычнай каларытнасцю, стаяць зусім іншыя творы — пазбаўленыя меладычнасці, не рыфмаваныя, шурпатыя, моўленыя радкі, у якіх агеньчык паэзіі схаваны пад цвёрдаю шкарлупінаю думкі. Вершы гэтыя нагадваюць сілагізмы або афарызмы, а закранаюць яны такія вострыя грані жыцця, такія трывожныя роздумы сучасніка, што ім не патрэбна строгая форма ракеты, іх змест робіць уражанне выбуху бомбы. Дынамічная рухомасць, узбуйненасць выслоўя, экспрэсія радка і ёсць тут дасканаласцю формы, якая ўтварылася цераз адштурхоўванне ад традыцыйна-паэтычнага выказвання:

*Званілі:*
*На караблі касмічным*
*Ёсць месца для мяне...*

*Ужо хацеў бы ехаць на ракетадром,*
*Але на хроніку газетную зірнуўшы —*
*...І ўбачыўшы шмат спраў,*
*Неўладкаваных на Зямлі,*
*Я з жалем зноў да гэтых спраў*
*Вярнуцца мусіў.*

*Бо хоць я не прысутнічаў*
*Пры нараджэнні свету,*
*Але я не хацеў бы сведкам быць*
*Яго апошніх дзён.*

Відавочна, было б з эстэтычнага пункту немэтазгодна спарадкоўваць менавіта гэтыя выслоўі ў рыфмаваныя радкі. Паэт спадзяецца на лёгкасць і дынамізм самой думкі. У "Трактаце аб паэзіі" Танк называе гэтае новаўвядзенне "нялёгкастраўнаю формай" і прадбачыць папрокі ў грахах "супраць традыцыі нацыянальнай". Тым не менш ён ідзе на канфлікт з традыцыяй. Не заўсёды, напэўна, наватворы паэта апраўданы, але пошукі новых сродкаў паэтычнага выяўлення — закон мастацкай творчасці. І тое, што паэт, уступаючы ў шаноўны ўзрост, абнаўляе вобразны арсенал больш смела, чым іншыя маладыя паэты, дзівіць і радуе як праява сілы таленту.

Апошнім часам наша літаратуразнаўства шмат зрабіла, вывучаючы паэтычнае майстэрства Максіма Танка. Паэта хваляць за асацыятыўнасць вобраза, за арыгінальныя прыёмы пабудовы тропа і верша ўвогуле. Стасуючы палажэнні сучаснай паэтыкі да твораў Танка, крытыкі выяўляюць высокі клас майстэрства. Чытаць гэтыя даследаванні цікава і карысна, бянтэжыць толькі часам адна акалічнасць: асобныя крытыкі дэманструюць такую тэарэтычную ўзброенасць успрымання, што пахвала аўтару міжвольна выклікае заклапочанасць. Парадокс у тым, што вялікая складанасць канвенцыі не прадугледжана паэтам. Паэт хоча выказвацца зразумела, ён жа гаворыць з народам, чыё ўспрыманне паэтычнай мовы абыходзіцца без коду асацыятыўнасці, як яго разумее сучасная паэтыка. Відавочна, мера як паказчык гармоніі патрэбна не толькі мастаку, але і нам, яго крытыкам.

Вяртаючыся да пачатку гэтых нататкаў, хачу яшчэ раз развеяць мажлівыя сумненні наконт таго, ці магло ўсё, напісанае тут, прыйсці ў галаву аўтару па дарозе з Брэста ў Моталь і назад. Вядома, не. Шмат што прыйшло раней і толькі выйшла на паверхню як вартае ўвагі ў часе асабістых кантактаў з паэтам. Паездка ў таварыстве паэта — толькі адзін з такіх кантактаў. Яна выкарыстана ў гэтых нататках як прыём для таго, каб наглядна паказаць, што Максім Танк не проста майстар складаць вершы, а выдатны мастак і чалавек. Маштабнасць таленту і характару выпраменьваецца і ў будзённых справах. Частка маіх ацэнак, меркаванняў аб яго творах з'явілася, калі я пісаў першы варыянт гэтага нарыса, па свежых успамінах падарожжа. Але найбольш літаратурна-крытычных разважанняў было зроблена пазней, яны леглі ў тэкст пры падрыхтоўцы рукапісу гэтай кнігі.

Мне здаецца, што ў працах такога тыпу не так істотна, калі напісана тая ці іншая старонка, важна тое, ці граматнае і цікавае прачытанне мастацкіх твораў паэта, якое я асмельваюся прапанаваць чытачу, ці з'яўляюцца выказаныя тут ацэнкі і меркаванні прафесійнымі і самастойнымі. Адказ на натуральнае ў нашай прафесіі пытанні можа даць толькі чытач. Пра сябе як аўтара я магу хіба што сказаць — стараўся.

*1965 — 1975 гг.*

# Музычны код верлібра

Паэт-песеннік? Гэта не пра Максіма Танка. Зрэшты, чаму — не? Яго своеадметныя рыфмы, пругкая рытміка верлібра, экспрэсія паэтычнага вобраза ў розныя часы натхнялі кампазітараў, якім удавалася падабраць да Танкавай творчасці трапны музычны код. Праўда, яго мудрыя радкі знаходзілі ўвасабленне ў музыцы не так часта, як спеўная лірыка іншых паэтаў. Затое які бываў вынік!

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

Згадайма нашых класікаў. Рамансы і песні на вершы Максіма Танка пісалі Мікалай Аладаў ("У сонечную даль"), Мікалай Чуркін ("Няма сцежкі карацейшай"), Дзмітрый Лукас ("Бурштын"), Рыгор Пукст ("Партызанскія акопы", "Не сячы сасны"), Аляксей Туранкоў (дуэт "Провады"), Уладзімір Алоўнікаў ("Майская застольная"), Юрый Семяняка ("Спакойна дрэмле Нарач"), Эдзі Тырманд. Яго паэзія жыла ў харавых і кантатна-аратарыяльных жанрах: "Свяці, зара!" Яўгена Глебава, "Ясныя дарогі" Юрыя Семяняко, "Плача хмара без жалю" Генрыха Вагнера... Прыкладаў сапраўды няшмат. Ды і дзе ўсё гэта сёння пачуеш, калі творчая спадчына беларускіх кампазітараў XX стагоддзя неўпрыкмет ператварылася ў terra incognita, якую наноў пачынае адкрываць хіба толькі Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі — дзякуючы энтузіязму яго маэстра Міхаіла Фінберга?

На даўжэйшае жыццё пашанцавала, можна сказаць, аднаму з рамансаў знакамітага віленскага беларуса Кастуся Галкоўскага (1875 — 1963). Гэты руплівец культурнага жыцця Заходняй Беларусі напісаў вялікую колькасць вакальных твораў на вершы сваіх сучаснікаў, чые імёны зрабіліся знакавымі для нашай літаратуры. Часта звяртаўся К. Галкоўскі да вершаў маладога М. Танка. Вынікам суаўтарства двух талентаў стаў цудоўны ўзор беларускай вакальнай лірыкі, блізкі па духу ўзнёсламу рахманінаўскаму рамантызму, — "Мы берагам мора ішлі". Яго яшчэ і ў нашы дні можна пачуць у музычных праграмах Беларускага радыё — у дасканалым, пранікнёным і тэмпераментным выкананні нашага незабыўнага "залатога барытона" — Аркадзя Саўчанкі.

Пакаленне кампазітараў, якое ўваходзіла ў айчынную музычную прастору з 1970-х гадоў, здаецца, больш актыўна за сваіх старэйшых калег пачало шукаць музычны код да паэзіі М. Танка. Прыкладам — хоры Якава Касалапава, рамансы Валянціны Сярых, кантатна-аратарыяльная творчасць Алеся Рашчынскага, Сяргея Бельцюкова, Марыны Марозавай, Уладзіміра Карызны. Заўважнай з'явай у нацыянальным мастацтве, што ў свой час адзначаў і "ЛіМ", сталася прэм'ера драматычнай араторыі Алега Залётнева "Лісткі календара" для чытальніка, салістаў, хору і аркестра (1983) на тэксты М. Танка і з выкарыстаннем фанаграмы ягонага голасу (па дамоўленасці аўтара музыкі з самім Яўгенам Іванавічам). А якімі залацінкамі заззялі паэтавы радкі ў разнажанравых вобразах песень Уладзіміра Мулявіна: "Готыка святой Ганны", "Завушніцы"!

Адмысловы музычны код (які — пакуль сакрэт) скарыстала кампазітар Ларыса Сімаковіч, раскрываючы надзённую філасофію і эстэтыку Танкавага слова ў сваім новым творы. Яе рондо-опера "Люцыян Таполя", прэм'еру якой рыхтуе Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя І. Жыновіча на чале з маэстра Міхасём Казінцом, прысвячаецца 100-годдзю Максіма Танка. Першае выкананне мае адбыцца ў сталічнай філармоніі 30 кастрычніка падчас XXXVIII Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Беларуская музычная восень", у межах Першага музычнага форуму "Беларусы свету".



Лаўрэат нацыянальнага і ўсесаюзнага конкурсаў артыстаў эстрады, майстар мастацкага слова Зінаіда Феакціства.

Вялікая зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі запрашае на яшчэ адну прэм'еру, прымеркаваную да юбілею М. Танка. 10 кастрычніка тут адбудзецца музычна-паэтычная імпрэза ў 2-х частках "Час і постаці". Гэта новая работа Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай.

А ў бліжэйшы панядзелак, у дзень нараджэння народнага паэта, філармонія збярэ прыхільнікаў беларускага слова і песні на прэм'еру літаратурна-музычнай імпрэзы "Прайсці праз вернасць". Адмысловы монаспектакль — супольны праект майстра мастацкага чытання Зінаіды Феакціставай і рэжысёра Вітаўтаса Грыгалюнаса. Такім чынам вядомая артыстка не толькі робіць заўважны ўнёсак у святкаванне юбілею Максіма Танка, але і працягвае працу над цыклам монапраграм, прысвечаных выдатным беларускім літаратурным постацям. Плён колішніх філарманічных сезонаў — "Ён быў паэт" (памяці Максіма Багдановіча), "Песня пра долю" (паводле твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа), "Ягадны хутар" (паэтычны вобраз Яўгеніі Янішчыц), "Ярына зялёная" (старонкі творчасці Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча). Нядаўнія работы — "Белы камень" (прысвячэнне Аляксею Пысіну), "Краіна мая — маці мая" (паэзія Пімена Панчанкі).

Вось што расказала Зінаіда Феакціства напярэдадні прэм'еры "Прайсці праз вернасць":

— Ідэя стварыць кампазіцыю паводле твораў Максіма Танка была ў мяне даўно, а сёлетні юбілей толькі падштурхнуў да яе ажыццяўлення. Шасцітомнік паэта стаў маёй настольнай кнігай. Чытала. Перачытвала. Адкрывала нешта зусім для сябе новае ў творчасці, дый у асобе паэта. Выбрала 46 вершаў, пераважна верлібраў, — настолькі тэматычна і настраёва розных, што, на першы погляд, іх немагчыма спалучыць у цэласнай праграме. Але я знайшла нейкі агульны эмацыянальна-вобразны "ключык" і з дапамогай рэжысёра паяднала ўсю гэтую разнастайнасць пад адзіную назвай. Яна ўзятая з афарыстычнага белага верша, дзе лірычны герой пытаецца ў чалавека, які прайшоў агонь, ваду і медныя трубы, пра самае цяжкае выпрабаванне на гэтым свеце, а ў адказ чуе: "Прайсці праз вернасць". Тэма вернасці ў самым шырокім яе сэнсе мне падаецца вечнай і надзённай — як тэма душэўнага і маральнага выбару. Яна звязана для мяне і з тэмай бацькаўшчыны, роднага дому. З незабыўным аблічам маці. Матчыны вочы, матчын голас, роднае слова, радзінны парог... Выбар і вернасць... У творах Максіма Танка ёсць вельмі блізкае мне, тое, што адгукаецца ва ўласных успамінах. Роздум пра жыццёвыя дарогі; лірычныя вясковыя абразкі; цяжкія вузлы памяці; матуліна пяшчота і родная песня; рэха вайны; невычэрпная беларуская дасціпнасць ды незласлівы жарт — з усяго гэтага тчэцца вобраз нашай кампазіцыі, у якой будуць гучаць і акапэльныя беларускія песні. Спадзяюся, што глядач не застанецца абыякавым.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота аўтара

Экспазіцыя з калекцыі лонданскага Музея Вікторыі і Альберта "Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600 — 1800", што разгорнута ў Мінску і ў Нясвіжы да пачатку лістапада, завітае потым... у кожны дом! Запланаваны цыкл пазнаваўчых фільмаў пра экспанаты выстаўкі, зняць які дапаможа галоўны інфармацыйны партнёр праекта — тэлеканал АНТ.

Пятнаццаты раз праходзіць у Магілёве і Магілёўскай вобласці Міжнародны фестываль анімацыйных фільмаў "Анімаёўка". Два дзясяткі краін-удзельніц прадстаўляюць больш як паўтары сотні стужак на конкурсе і ў пазаконкурсных паказах, прычым значнае месца ў рэпертуары фэсту займае анімацыйнае кіно для дарослага гледача. У праграме "Анімаёўкі-2012" таксама сустрэчы са стваральнікамі мультфільмаў, у тым ліку з акцёрамі, якія агучвалі папулярных персанажаў.

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі развівае сувязі з рознымі гарадамі краіны, дзе пачалі дзейнічаць яго своеасаблівыя творчыя філіялы. Тыдзень таму новы сезон сталічных артыстаў адкрыўся ў Гомелі. Там на сцэне Палаца культуры чыгуначнікаў адбыўся паказ дзвюх аднаактовых пастановак: вакальна-харэаграфічнага прадстаўлення "Карміна Бурана" на музыку К. Орфа і спектакля-прысвячэння "Балеро" на музыку М. Равэля. На 27 верасня ў Наваполацку запланавана праграма оперных салістаў "Вечар старадаўняга раманса", а 5 кастрычніка ў Магілёве на сцэне Палаца культуры вобласці пакажуць оперу Дж. Пучыні "Мадам Батэрфляй". Кіраўніцтва тэатра падкрэслівае важнасць пастаяннага кантакту з рэгіёнамі: для многіх гледачоў, якія не маюць магчымасці з'ездзіць на спектакль у Мінск, такая сустрэча з жывым узорам высокага мастацтва — шчаслівая і незабыўная падзея.



Сцэна са спектакля "Балеро".

Пра ўсе праявы гармоніі ды ўсе парадоксы ў любоўных стасунках мужчыны і жанчыны імкнулася распавесці мастачка Галіна Лазарчык праз персанальны праект "1+1=69". Пад гэтай назвай выстаўка эратычнай графікі маладой мінскай аўтаркі экспанавалася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва і прыцягвала яго наведвальнікаў шчырасцю, адкрытасцю, дасціпнасцю творчага выказвання.

Барочны ансамбль "Capella Cracoviensis" з польскага горада Кракава выступіць 18 верасня ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі. У складзе калектыву — высокаадораныя музыканты, якія спецыялізуюцца на выкананні старадаўняй музыкі на гістарычных інструментах.



Народная артыстка Беларусі, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва Бэла Масумян у спектаклі "Загадкавы візіт".

# Загадкавы... бенефіс

Арцём КУМЕЛЬСКІХ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

Імя гэтай актрысы апошнім часам не сыходзіць са старонак "ЛіМа". Дзіва што! Ладная частка сённяшняга рэпертуару аднаго з вядучых мастацкіх калектываў краіны, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага трымаецца на яе шматгранных і яркіх творчых магчымасцях і дасканалым майстэрстве. Бэла Масумян іграе вядучыя ролі ў такіх разнапланавых спектаклях, у тым ліку і новых пастаноўках, як "Перад змярканнем", "Сыходзіў муж ад жонкі", "Сунічная паляна", "Праўда — добра, а шчасце лепш", "Ідэальны муж", "Пане Каханку", "Леў узімку", "Пігмаліён" і, вядома ж, — нядаўняя прэм'ера "Загадкавы візіт". Роля Клары Цаханасьян у гэтым спектаклі стала для актрысы сапраўды бенефіснай.

Летась мы адзначалі 50-годдзе самаадданага служэння актрысы горкаўскаму тэатру, у які яна прыйшла адразу пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Сёлета ў яе жыцці — яшчэ адна прыгожая дата. І святкаванне юбілею актрысы адбудзецца заўтра ўвечары. Пасля ўрачыстай цырымоніі, да якой калегі, сябры і прыхільнікі мастацтва Бэлы Масумян рыхтуюць прыемныя сюрпрызы, адбудзецца спектакль "Загадкавы візіт". Пачнецца бенефіс а 18-й гадзіне.

# Заслаўская аўра

Адметным асяродкам культуры і асветніцтва ў старажытным Заслаўі з'яўляецца дзіцячая школа мастацтваў, якая тры гады таму справіла свой "залаты" юбілей. Дакладней, школай мастацтваў яна стала пасля таго, як у мясцовай ДМШ адкрылі мастацкае аддзяленне. Адбылося гэта ў 1987-м, так што сёлета Заслаўская дзіцячая школа мастацтваў можа пачуваць сябе ўдвая "памаладзелай", 25-гадовай імяніннiцай. Варта прыгадаць яшчэ дзве знамянальныя даты з яе гісторыі: у 1999-м адбыўся пераезд установы ў адрамантаванае трохпавярховае памяшканне з канцэртнай залай на 120 месцаў, а праз год у ДШМ быў створаны клас харэаграфіі, які размясціўся ў Заслаўскай гімназіі.



*Вобраз народнага свята — у стылі традыцыйных беларускіх маляванак.*

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота Святланы Берасцень**

Падчас вандровак у Заслаўе на традыцыйнае свята мастацтваў, што ладзіць тут Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі на чале з маэстра Міхаілам Фінбергам, міжволі адчуваеш і шчырую гасціннасць, і творчую аўру школы, якая на час фэсту робіцца яго асноўнай пляцоўкай. Давялося пазнаёміцца з яе дырэктарам — музыкантам, педагогам і мудрым адміністратарам Валерыем Шкурскім, пад кіраўніцтвам якога ДШМ па праве набыла нефармальны статус культурна-асветніцкага цэнтра горада, бо намаганнямі гэтага калектыву праводзіцца вялікая работа па эстэтычным выхаванні моладзі, прапагандзе высокіх традыцый нацыянальнай культуры, народнай творчасці. Тут ёсць і падрыхтоўчая група, і музычная студыя для ўсіх ахвотных — без абмежаванняў па ўзросце — займацца на ўпадабаным інструменце. Больш як тры сотні юных заслаўчан вучацца ў школе на фартэпіянным, народным (баян, акардэон), духавым, тэарэтычным, харавым, смыковым струнным і народным струнным, харэаграфічным і мастацкім аддзяленнях. Разнастайнасць кірункаў навучання і прафесіяналізм выкладчыкаў паспрыялі стварэнню ў школе самых розных мастацкіх калектываў, якія ўдзельнічаюць у шматлікіх школьных ды гарадскіх мерапрыемствах, маюць ганаровыя званні, выступаюць на фестывалях за мяжой, вылучаюцца на міжнародных конкурсах.




*Маляваны дыван Ларысы Сакаловай "Рагнеда".*

Плённа працуе і мастацкае аддзяленне, галоўная задача якога — развіццё ў вучняў здольнасцей да выяўленчай творчасці, захаванне і пераемнасць спадчынных культурных традыцый нашай бацькаўшчыны. Сёння пра выхаванцаў гэтага аддзялення Заслаўскай ДШМ ведаюць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі — хаця б таму, што некаторыя з іх сталі дыпламантамі міжнародных конкурсаў "Іншы погляд" (г. Сасновец, Польшча), "Космас і я" (г. Новасібірск, Расія).

Творчыя поспехі дзяцей так або інакш адлюстроўваюць талент і прафесіяналізм настаўнікаў. А ў крэатыўных магчымасцях выкладчыкаў выяўленчага мастацтва мы пераканаліся падчас адной з выставак, што перыядычна праходзяць у фае школы. Нам пашанцавала ўбачыць работы маладых мастакоў, звязаных са старажытным горадам ці то праз уласнае маленства і першыя ўрокі малявання, ці то праз педагагічную працу ў мясцовай ДШМ. Хто ж быў сярод экспанентаў? Таццяна Мядзведзь — выхаванка Рэспубліканскай гімназіі-каледжа імя І. Ахрэмчыка, выпускніца БДУ культуры і мастацтваў, бакалаўр мастацтва, удзельніца міжнародных пленэраў і пленэраў, прысвечаных памяці Алены Кіш, прадстаўніца творчага аб'яднання "Мастак". Ларыса Сакалова — таксама выхаванка "школы Ахрэмчыка", выпускніца БДУ культуры і мастацтваў, удзельніца мастацкіх пленэраў, прадстаўніца аб'яднання "Мастак". Алена Тукач — выхаванка сваёй роднай Заслаўскай школы мастацтваў, колішняя навучэнка легендарнай "Глебаўкі", студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, удзельніца многіх рэспубліканскіх і міжнародных праектаў (выстаўка экслібрыса, прысвечаная свойскім жывёлам, у Аргенціне; выстаўка экслібрыса ў Тайвані; графічная трыенале ў Македоніі ды інш.).

Іх незвычайныя карціны жывіць аўра легендарнага горада, спадчына самабытных беларускіх майстроў мінулага, традыцыі народных маляванак (да слова, менавіта ў Заслаўі адбываюцца пленэры, прысвечаныя гэтаму дзівоснаму віду творчасці). А дэкаратыўныя сюжэты і пейзажы, матывы фальклору, рамантычнай міфалогіі ці далёкай гісторыі, увасобленыя ў работах мастачак, ствараюць ужо сваю непаўторную аўру...



*Шлях вечнага вандроўніка.*

Вось так спакваля фарміруецца ў заслаўскай школе тое музычна-выяўленчае асяроддзе, што не толькі робіць дабратворны ўплыў на індывідуальныя густы, але фарміруе і ўзнімае агульны эстэтычны ўзровень новага пакалення, ад якога залежаць будучыя мастацкія прыярытэты нашага грамадства.

# Насуперак «пратэзнай» рэчаіснасці

З усіх шматлікіх вызначэнняў сучаснай цывілізацыі (постіндустрыяльная, тэхнагенная, глабальная і г.д.) мне падаецца найбольш слушным вызначэнне…"пратэзная".

**Вольга ДАДЗІЁМАВА,**
**доктар мастацтвазнаўства, прафесар**

З аднаго боку, яно фіксуе ўвагу на імкненні пераадолець абмежаванасць нашых магчымасцей, праз тэхнічныя сродкі спрасаваць прастору-час, даўшы вялікія шанцы для кантактаў, вандровак, пазнання. З іншага ж — канстатуе факт падмены натуральных рэчаў (і не толькі матэрыяльных субстанцый, але і пачуццяў ды паводзін) штучнымі, другаснымі, падробленымі. Такая адзнака сучасных працэсаў магла б падаецца занадта негатыўнай, калі б не вядомая акалічнасць: ва ўсе эпохі чалавецтва вуснамі сваіх інтэлектуальных і духоўных лідараў дэкларавала недасканаласць рэчаіснасці.

Вядома, што ва ўсе часы людзі не толькі заўважалі хібы і заганы навакольнага свету, але і намагаліся стварыць для сябе, у сваёй душы нейкую запаветную прастору, што захоўвала ў чысціні і недатыкальнасці свет уласны, унутраны. Гэткі ж своеасаблівы "інстынкт самазахавання" спрадвек дзейнічаў не толькі на мікра-, але і на макраўзроўні — у грамадстве, якое трымалася ў раўнавазе толькі тады, калі было здатнае ўратаваць, захаваць тыя базавыя каштоўнасці, што ў сваю чаргу выратоўвалі грамадства ад дэфармацыі і разбурэння. Беларусі ў гэтым сэнсе пашанцавала: яе фундаментальныя каштоўнасці — фальклорныя скарбы, невымерна багатыя, — быццам самі ратавалі сябе ў складаныя часы. Для мяне як даследчыка пісьмовых форм айчыннага музычнага мастацтва гэта асабліва відавочна: на фоне шматвяковых працэсаў трансфармацыі і колішняй этнічнай міграцыі айчыннага акадэмічнага мастацтва асабліва трывалым, непахісным і разам з тым жывым уяўляецца велічны народнатворчы пласт, які, нібы пад уласнай магутнай вагой, укладаўся на дно акіяна часу, ды прытым уздымаўся над ім магутным Манбланам, здалёк бачным кожнаму, хто імкнуўся спазнаць душу беларускага народа.

Такія думкі міжволі з'яўляюцца пры знаёмстве з манаграфіяй Зінаіды Мажэйкі "Экология традиционной народно-музыкальной культуры", што выйшла ў выдавецтве "Беларуская навука" ў 2011 годзе. Плён шматгадовай працы вучонага з сусветным імем, доктара мастацтвазнаўства, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, гэтая кніга сталася не толькі вынікам даследчыцкай яе аўтара, але і адкрыццём. Адкрыццём новых якасцей беларускага народна-музычнага Сусвету, новых шляхоў яго асэнсавання, разумення, аховы і захавання — у імя айчыннай культуры, дзеля яе непарушнасці. Адкрыццём новых граней творчасці самой Зінаіды Якаўлеўны, якая ва ўсіх сваіх шматлікіх і значных працах (перадусім фундаментальных манаграфіях ды дакументальна-этнамузыкалагічных фільмах, што атрымалі найвышэйшыя міжнародныя ўзнагароды) імкнулася знутры, з іманентнай дадзенасці фальклорных крыніц, руплiва знойдзеных, беражліва апрацаваных і даследаваных ёю, узвесці магутную касмаганічную канцэпцыю, скіраваную не толькі ў акадэмічную навуку, але і ў грамадскую практыку.

Менавіта ў гэтай грунтоўнай працы асабліва ёміста, ярка і доказна выяўленыя тыя дзейсныя ў музычнай аўтэнтыцы анталагічныя якасці, крыніцы ды механізмы самазахавання, якія насуперак усім разбуральным тэндэнцыям урбанізацыі не даюць каранёваму фальклору адысці ў нябыт, дапамагаюць яму захавацца ў свядомым і падсвядомым, яўным і латэнтным станах, у памяці яго носьбітаў, прадстаўнікоў высока адоранага беларускага народа. Больш за тое, на падставе абследавання ўсіх найважнейшых рэгіёнаў Беларусі (падкрэслю, што навукоўца вярталася ў іх неаднойчы, каб выявіць дынаміку разгортвання або згортвання народнапесеннай творчасці) З. Мажэйка паказала ўсім неабыякавым да лёсу беларускай "музычнай глебы", якія тэрміновыя захады патрэбныя для захавання гэтай часткі фальклорнай спадчыны, зберажэння яе традыцый.

Нездарма манаграфія яшчэ да выхаду ў свет, прадстаўленая ў рукапісе і ў навуковых дакладах, атрымала прызнанне вядучых спецыялістаў розных краін. Так, вядомы беларускі вучоны, доктар філалагічных навук А. Ліс пісаў у сваім водгуку, што гэтую працу "адзначае высокая ступень навуковай глыбіні і прафесійнай прынцыповасці", а буйная польская даследчыца, доктар мастацтвазнаўства Г. Чаканоўская адзначыла, што ўнікальнасць кнігі — у бясспрэчнай неабвержнасці ключавых палажэнняў і высноў, пацверджаных на практыцы.

Апошнім часам шмат гаворыцца пра экалогію: прыроды, душы, культуры. Кніга З. Мажэйкі не толькі патрапляе ў набат экалагічнай трывогі, заклікаючы да аховы фальклору ад урбанізаванага грамадства, не толькі дэкларуе ідэі захавання экалагічнай чысціні духоўнага асяроддзя жыватворных крыніц нацыянальнай беларускай культуры, але і вучыць усіх, і найперш маладое пакаленне, ахоўваць беларускую спадчыну, разумець і берагчы роднае.

Гэта радкі з "ЛіМа" за 3 кастрычніка 1997 года, прысвечаныя VI Еўрапейскай канферэнцыі: "Беспрэцэдэнтна на "біс" прынялі даклад вядомага знаўцы беларускага музычнага фальклору Зінаіды Мажэйка…" Прыгадваю іх з пажаданнем, каб наша знаная даследчыца яшчэ доўгія гады, "на біс", радавала і здзіўляла сваімі адкрыццямі, высокім палётам творчага духу, сваёй нястомнай дзейнасцю Мысляра і Падзвіжніка.

# «Цаніць жыццё, радавацца кожнаму пражытаму дню...»

У гэтым годзе вядомаму беларускаму літаратуразнаўцу, філосафу, крытыку, паэту, доктару філалагічных навук, в.а. намесніка дырэктара па навуковай рабоце Інстытута філасофіі НАН Беларусі Валерыю Максімовічу споўнілася 50 год. Да свайго юбілею аўтар выдаў паэтычны зборнік “Мяцежнай споведзі скрыжалі”, які склалі лірычныя вершы і паэмы, літаратурныя пародыі, песенныя тэксты, асобныя пераклады вершаў на рускую мову. Прадмову да зборніка напісаў вядомы беларускі пісьменнік, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. Сваю гутарку з Валерыем Максімовічам прапанаваў “ЛіМу” рэжысёр, артыст і паэт Алег Вінярскі.

**— Зразумела, у назве вашага зборніка прысутнічае слова “споведзь”, унутраная этымалогія якога ўказвае на шчырасць, адкрытасць, непасрэднасць прамоўленага, вымаўленага. Відавочна, усё, пра што вы пішаце, што выносіце на суд чытача, мае глыбокі біяграфічны, асобасны, можна сказаць, інтымны характар. Якое месца ў вашай паэзіі займае біяграфічная канва, што ў ёй — ад жыцця, а што — ад літаратуры? Ці можна размежаваць, развесці ў вершах тое, што мае рэальную аснову, а што з’яўляецца плёнам мастацкай выдумкі, фантазіі? Што ўвогуле для вас паэзія?**

— Пачнём па парадку. Наконт біяграфічнасці маёй творчасці. Яна, як кажуць, ляжыць на паверхні. І вы правільна заўважылі: ужо адно тое, што ў назве кнігі прысутнічае слова “споведзь”, сведчыць пра гэта. Іншага і быць не можа. Зразумела, аб’ектыўна існуе цесная сувязь паміж аўтарам, падзеямі, фактамі, перыпетыямі жыцця і творчасцю. Для мяне асабіста ўласны, біяграфічны вопыт, досвед адыграў надзвычайную ролю ў фарміраванні светапогляду, жыццёвых і творчых прыярытэтаў, у складванні майго творчага почырку, стылю, у абранні нейкіх стрыжнёвых тэм, праблем, якія я імкнуся разглядзець праз прызму мастацкага слова. Думаю, для мастака многае, што яго акружае, з чым ён сутыкаецца, з кім кантактуе, мае істотнае значэнне. Безумоўна, нейкія асновасутнасныя, базісныя дамінанты закладваюцца, фарміруюцца яшчэ ў дзяцінстве. Я, можа, далёкі ад таго, каб усё цалкам вытлумачваць генетычнымі схільнасцямі (відаць, гэта было б у прынцыпе няправільна), але не магу адмовіць ролю тых псіхалагічных асаблівасцей творцы, якія сфарміраваны выхаваннем у сям’і, тым атачэннем блізкіх і родных людзей, якія ўплывалі на свядомасць, на душу, фарміравалі свет думак і перажыванняў.

Словам, усё адзначанае мае месца ў жыцці мастака. Іншая справа, што нельга асобныя, як бы павярхневыя факты абсалютызаваць, рабіць на іх падставе высновы, сцвярджэнні. Павінна быць улічана як мага большая колькасць прамых і ўскосных сведчанняў, фактаў, падзей, якія звязаны з біяграфіяй мастака і могуць, такім чынам, праліць святло на сакрэт пісьменніцкай лабараторыі, указаць на пэўныя складнікі, умовы і характар стварэння мастацкага вобраза ці твора.

**— Але ці можа быць мастацкае жыццеапісанне (назавём яго так) панацэяй, сродкам спасціжэння ўнутранай сутнасці самога мастака, разгадкі сутнаснага, першапрычыннага, таго, што ў ім закладзена Богам і прыродай?**



*Валерый Максімовіч і Алег Вінярскі.*

— Бібліяграфічныя звесткі — вельмі важны складнік, які дапамагае як бы рэканструяваць этапы станаўлення, фарміравання асобы творцы, мастака. Адно каб адшуканыя ці агульнавядомыя звесткі не ператварыліся ў банальнае фармалізатарства, элементарную арыфметыку. Мала ведаць факты, трэба ўмець іх аналізаваць, сінтэзаваць, рабіць адпаведныя высновы. У кожнага з нас ёсць “знешнія раздражняльнікі”, але важна тое, у што яны пераходзяць, які выгляд набываюць “на выхадзе”, у працэсе ўнутранай трансфармацыі. Зноў жа, для мяне больш важны жыццяпіс маёй душы. Менавіта такую падназву, дарэчы, я даў сваёй паэме “Мой золак”. Усе мы жывём у больш-менш падобных варунках, усім нам даводзіцца — каму часцей, каму радзей — сутыкацца з праявамі людской чэрствасці, глухаты, а то і подласцю, крывадушшам. Прыкра, што ў нашым жыцці ёсць месца духоўнаму тэрору, маральнаму злачынству. Гнюснасці яшчэ ў нас хапае. Я неаднойчы пісаў пра гэта, і не толькі я. Заганная, нават антычалавечая, антыгуманная з’ява, з якой давялося сутыкнуцца, — татальнае шальмаванне чалавека, які можа стаць тваім канкурэнтам, які мае больш ўнутраны патэнцыял, валодае большым талентам, здольнасцямі. З гэтым я змірыцца не магу. Тут размова ідзе не проста пра неабходнасць прытрымлівання звычайнай чалавечай этыкі, а ўвогуле пра неабходнасць выпрацоўкі пэўнага заканадаўчага дакумента, дзе б быў прапісаны механізм этычнай рэгуляцыі чалавечай дзейнасці, захавання культуры міжасобасных паводзін, а таксама распрацавана сістэма спецыяльных санкцый для злосных правапарушальнікаў.

А пакуль гэтага няма, я свой пратэст выказваю праз слова паэтычнае, ды і не толькі паэтычнае. Дзякуючы непасрэднаму сутыкненню з такімі сапраўды грамадска шкоднымі з’явамі, ува мне канцэнтруецца шмат унутранай энергіі, віруючых эмоцый, якія я проста не паспяваю пераплаўляць у мастацкае слова. Але гэта я так рэагую. Іншы — па-іншаму. Усё залежыць ад уласнага болевага парога. Можа, хтосьці і не бачыць у тым вялікай бяды, не заўважае, не надае істотнага значэння. Усё залежыць ад канкрэтнага чалавека. У дачыненні да творцы знешняе, падзейнае выступае сапраўды пэўным каталізатарам, які паскарае выспяленне пачуцця, думкі, сэнсу, дае імпульс, штуршок для шматлікіх сэнсанараджэнняў. Бо, паўтаруся, многае залежыць ад уласнай душэўнай і разумовай настроенасці. І ўсё ж, мяркую, паэзіі без болю і пакут не бывае.

**— Валерый Аляксандравіч, зразумела, для вас як творцы, навукоўца, які мае справу з літаратурай рознага кшталту, вялікае значэнне маюць папярэднікі. Па адукацыі вы філолаг, выкладалі шмат гадоў студэнтам літаратуру, напісалі шэраг вучэбных дапаможнікаў для школ і ВНУ. Ці можаце назваць сваіх літаратурных настаўнікаў, чыя творчасць аказала ці аказвае на вас значны ўплыў?**

— Скажу адразу, што маім і навуковым, і творчым прыярытэтам з’яўляецца літаратурная класіка — і сусветная, і нацыянальная. Я не псіхааналітык, але для сябе знайшоў такую-сякую матывацыю таго, што я зрабіў і раблю ў паэзіі. Я не магу прыняць гэтак званы, удаваны па большасці, постмадэрнісцкі канон у мастацтве, бяздумны і бяздушны фармалізм, фармалізатарства. Прапануецца нейкі сурагат у падманна-прыгожай абгортцы. Іншая справа — класіка. Вазьміце, да прыкладу, тых жа нямецкіх рамантыкаў Фрыдрыха фон Шэлінга, братоў Шлегеляў, Фрыдрыха Гёлдэрліна, англійскіх Джорджа Байрана, Персі Шэлі. А наш вялікі Купала! Пагледзіце, якія драмы і трагедыі адбываюцца на старонках іх твораў, на якую бескампрамісную барацьбу з лёсам гатовыя іх героі-бунтары дзеля захавання ўнутранай свабоды, аўтаноміі духу, сваёй самасці. Колькі там жыцця, неўдаванай страсці, пачуццёвага накалу!

**— Высокадраматычны, а то і трагічны накал барацьбы, сапраўды тытанічная барацьба асобы з лёсам пазначае пафас многіх твораў рамантыкаў. У вашым зборніку таксама няма ла вершаў, дзе чуваць водгалас гэтай барацьбы з усім тым, што перашкаджае жыць годна, дыхаць на поўныя грудзі, радавацца кожнаму пражытаму дню.**

— Пішацца як дыхаецца… Неаднойчы паўтараю гэтыя словы. Хоць мне, прызнацца, да душы лірыка і пейзажная, і па-філасофску роздумна-разважлівая, сузіральная, а галоўнае, міралюбная, светланосная, якая прымушае па-асабліваму трымцець сэрца, перажываць шчаслівыя імгненні. Вось чаму я здаўна захапляюся паэзіяй Сяргея Ясеніна і Максіма Багдановіча. Яна мне ўнутрана блізкая, бо кранае да глыбіні душы.

**— Цэлы раздзел зборніка складаюць песенныя тэксты. Вы плённа супрацоўнічаеце з “Песнярамі”. З чаго ўсё пачыналася?**

— Для мяне і сапраўды вялікі гонар, што славутыя “Песняры” ўключылі ў свой рэпертуар песні, аўтарам слоў якіх з’яўляюся я. Нашу беларускую песню заўсёды слухаю з замілаваннем, асаблівым хваляваннем. Палюбіў яе яшчэ з дзяцінства. У нашай сям’і хораша спявала маці, яе дзве сястры. Дый я сам, калі здараецца нагода, не супраць зацягнуць добрую песню. Прыгадваю: у дзяцінстве, ды і ў больш позні час, адбываючы радоўку (чаргу пасвіць кароў або авечак), я ўвесь час спяваў — тое, што ведаў, што прыходзіла на памяць. І, натуральна, сам спрабаваў пісаць. Мелодыі таксама падбіраў. Бывае, так наспяваешся за доўгі летні дзень, што вечарам прыходзіш дадому ахрыплы. Я буду шчаслівы, калі мае песні будуць гучаць і прыносіць эстэтычнае задавальненне слухачам, ну і мне, зразумела.

**— Вы абралі свой шлях, свой стыль, складнікамі якога сталі лірычная спавядальнасць, схільнасць да рамантычнага паэтычнага канона. Ад чаго залежыць выбар почырку, як гэта стасуецца з вашым уласным, скажам так, кодэксам жыцця?**

— Ведаеце, я мяркую, што творчаму чалавеку цяжка навязаць пэўныя ўстаноўкі, перакананні. Пісаць трэба так, як просіць душа, і не станавіцца на горла ўласнай песні. Паэзія можа пачацца з адной выпадкова пачутай ноты, трымцення, гуку, тона і паўтона, адчутага рытму, гулу. Яна можа ўзнікнуць з унутранай настроенасці, парыву, раптоўна ўсхлынутай эмацыянальнай хвалі. А можа і не ўзнікнуць. Галоўнае — цярпенне і рашучасць, адшліфоўваць, даводзіць, фільтраваць тое, што навалілася нейкім комам, стыхіяй, цунамі… Гэта сапраўды пакутлівая праца. Сапраўдная паэзія — эманацыя, выпраменьванне жывой энергетыкі, якой паэту ўдаецца зарадзіць слова.

Паэзія і мой жыццёвы кодэкс непадзельныя. Бо пішу так і пра тое, што перажываю, што мяне не толькі хвалюе ці абурае, але і радуе, залагоджвае, прыносіць унутраную палёгку, прасвятленне. Усё пачынаецца з любові — гэта факт. Таму давайце любіць і шанаваць адзін аднаго, давайце памятаць пра сваё мінулае, любіць сваю мову, Радзіму, бацькоў сваіх, родных і блізкіх, імкнуцца да святла, гармоніі, прыгажосці, любіць гэты свет, радавацца сонцу і кожнаму пражытаму дню. У гэтым, відаць, і сутнасць чалавека на зямлі, у гэтым наша зямное пакліканне.

# 944 зялёныя жабкі для Кацярыны Вялікай

Працягваем распавядаць пра цікавыя экспанаты з калекцыі Музея Вікторыі і Альберта (www.vam.ac.uk), на якія можна падзівіцца ў нясвіжскім Палацавым ансамблі. Нішто так не падкрэслівае выключнасць, не растлумачвае каштоўнасць рэчы, як веданне гісторыі яе стварэння. Звернемся да чацвёртай тэматычнай секцыі выстаўкі "Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры" — "Адлюстраванне інтэр'ера". Прадстаўляем вашай увазе адзін з 944 прадметаў шыкоўнага сервіза, выкананага Джазайяй Веджвудам для Кацярыны II у 1773 годзе. "Сервіз з зялёнай жабкай" — такую шырокавядомую назву ён атрымаў у тыя часы. На кожнай талерачцы, сподачку і соусніцы красуецца невялікая зялёная жабка ў залатым картушы.



Прадметы з сервіза Кацярыны Вялікай.



**Настасся ПАДДУБСКАЯ**

## ФОН

Нагадаем, што ў эпоху Асветы побач з кровапралітнымі і вынішчальнымі войнамі назіраецца інтарэс да падкрэсленай раскошы. Тагачасныя манархі, а за імі і арыстакраты, імкнуцца да пышнага аздаблення сваёй прасторы. Адначасова ўзрастае інтарэс да навук. Кацярына Вялікая аб'яўляе Расію еўрапейскай дзяржавай. "Еўрапейскі" ў гэтым выпадку трактуецца хутчэй як "сучасны", "модны". Так калекцыі Эрмітажа папаўняюцца шматлікімі прадметамі мастацтва, у тым ліку кітайскім фарфорам і вырабамі Веджвудскай мануфактуры. Кацярына II была апантанай калекцыянеркай — яна набывае бібліятэку знакамітага мысліцеля Дэні Дзідро і забяспечвае яму фінансавую падтрымку да скону жыцця.

## РЭВЕРАНС

У гэты ж перыяд, а дакладней, у 1770 годзе, паступае заказ на "Сервіз з зялёнай жабкай"… У гонар перамогі Расійскай Імперыі ў першай руска-турэцкай вайне ў Пецярбургу будуецца Чэсменскі архітэктурны ансамбль, які складаецца з палаца і царквы. Ансамбль размясціўся побач з Царскасельскім шляхам (сённяшні Маскоўскі праспект) у мястэчку з фінскай назвай Кекерэкесінен, або "Жабіна балота". З гэтай нагоды на кожным прадмеце сервіза ў якасці своеасаблівай пацешнай эмблемы з'яўляецца згаданая намі зялёная жабка.

Лічыцца, што Кацярына Вялікая не была прыхільніцай мяккага эклектызму — хаця менавіта ў такой стылістыцы выкананы сервіз. Магчыма, гэта была даніна тагачаснай еўрапейскай модзе — проста адзін са шматлікіх рэверансаў імператрыцы ў бок Захаду. Пра набыццё веджвудскага сервіза рускай імператарскай сям'ёй адразу загаварылі ў Еўропе.

## 1222 АНГЛІЙСКІЯ КРАЯВІДЫ

Для выканання заказу Кацярыны II спатрэбіліся чатыры гады. У верасні 1774 года посуд прыбыў у Расію. Сервіз з 944 прадметаў, разлічаны на 50 персон, падзяляўся на дзве часткі — абедзенную і дэсертную. Большасць посуду паўтарае стылістыку сервіза для Георга III, які Веджвуд зрабіў раней. Але ёсць і свае разынкі. Так, некаторыя прадметы — кампацьеры, місачкі для крэму, марожаніцы — ствараліся спецыяльна для "жабінага" сервіза. Такая мадыфікацыя атрымала назву "кацярынінскай" формы.



Джазайя Веджвуд, аўтар імператарскага сервіза.

Прадметы, прызначаныя для абедзенных страў — усяго 680, — аздабляліся бардзюрам з дубовых галін. Дарэчы, блюда з нясвіжскай экспазіцыі мае менавіта такую аздобу. А вось дэсертны посуд упрыгожвае плюшч. Кожны выраб, згодна з пажаданнем Кацярыны II, распісваўся выявамі старажытных замкаў, абацтваў, сядзіб, паркаў, гарадскіх і сельскіх пейзажаў. Налічваецца 1222 англійскія краявіды, якія ні разу не паўтараюцца. Многія малюнкі належаць пэндзлю самага Веджвуда.

На блюдзе, што прадстаўлена на выстаўцы ў нясвіжскім Палацавым ансамблі, — выява садоў Заходняга Вайкома ў Букінгемшыры (West Wycombe in Buckinghamshire), скапіраваная з малюнка Уільяма Волета (William Wollett). Кампаньён Дж. Веджвуда Томас Бэнтлі зрабіў для Кацярыны Вялікай спецыяльны рукапісны каталог з назвамі ўсіх краявідаў. Іх нумары, адпаведна каталогу Бэнтлі, пазначаны на адваротным баку кожн ага прадмета.

Унікальнасць сервіза не вычэрпваецца толькі мастацкімі якасцямі. Ён цікавы і з гістарычнага пункту гледжання — многія з тых выяў, што адлюстраваліся на посудзе, сёння значна змяніліся альбо ўвогуле не існуюць. Асаблівую ўвагу прыцягваюць малюнкі першых прамысловых аб'ектаў Англіі. Каля 100 роспісаў дэманструюць архітэктурныя помнікі Лондана, маляўнічыя берагі Тэмзы. Некаторыя малюнкі рабіліся з натуры, для часткі эскізам сталі больш раннія гравюры розных аўтараў.

Сёння ў фондах Дзяржаўнага Эрмітажа захоўваецца каля 770 прадметаў з "жабінага" сервіза. Калі праца над посудам блізілася да заканчэння, Веджвуд выставіў частку сервіза ў Портленд-Хаўсе ў Лондане. Англійская публіка выдатна ацаніла працу прызнанага "караля фарфору" — Джазайі Веджвуда.

## "WEDGWOOD"

Джазайя Веджвуд нарадзіўся ў сям'і keraміста, і такім чынам яго лёс быў прадвызначаны. Пасля 8-гадовай працы побач са знакамітым майстрам таго часу Томасам Уілданам Веджвуд вынаходзіць асаблівую фаянсавую масу, вядомую як крэмавая, альбо "фаянс колеру вяршкоў". Гэты тып фаянсу адрозніваўся лёгкасцю і добра паддаваўся дэкору. У 1765 годзе сама каралева Англіі Шарлота замаўляе маладому майстру сервізы "колеру вяршкоў" для кавы ды гарбаты і міласціва дазваляе называць посуд гэтага тыпу Каралеўскім. Спецыялісты характарызуюць Джазайю Веджвуда як чалавека з тонкім пачуццём густу эпохі: яму з лёгкасцю і пастаянствам удавалася нейкім чынам прадвызначаць модныя тэндэнцыі. Веджвуду належыць і яшчэ адно ноў-хаў — піраметр, прылада для вымярэння гарачыні ў печы.

Сёння імя Веджвуд, як і тры стагоддзі таму, асацыіруецца з высокай якасцю і каралеўскай раскошай. Посуд са знакам "Wedgwood" — гэта шэдэўральны прыклад дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, які захоўвае свае функцыянальныя якасці. Дарэчы, яшчэ адзін буйны заказ з Расіі марка Wedgwood атрымала ў 1994 годзе: Адміністрацыя Барыса Ельцына замовіла сервіз ужо не на 944 прадметы, а на дзве тысячы. Прызначаўся ён для спецыяльных прыёмаў у Крамлі. Прычым на гэты раз "двор" вырашыў выбраць у якасці дэкору не віды Англіі, а залаты расійскі герб на белым фоне.

# Як у родным доме

**Яніна ВАСІЛЕЎСКАЯ**

У Цэнтры беларускай культуры ў Даўгаўпілсе (Латвія) новы сезон адкрыўся канцэртам спявачкі Валянціны Шылавай. Яна выканала класічныя творы італьянскіх і рускіх кампазітараў (арыі з опер і рамансы), а таксама дзве песні кампазітара Майі Калнiні і паэта Станіслава Валодзькі. Акампанавала спявачцы маладая піяністка Юлія Васільева. Станіслаў Валодзька расказаў пра жыццёвы і творчы шлях В. Шылавай і прачытаў прысвечаны ёй верш. Каб гэта свята адбылося, парупіліся Асацыяцыя творчай інтэлігенцыі Даўгаўпілса "Dina-ART" і беларускае таварыства "Уздым".

Валянціна Мікалаеўна ў двухгадовым узросце прыехала з бацькамі ў Даўгаўпілс. Тут прайшло яе дзяцінства, тут яна вучылася ў музычнай школе. Скончыўшы Ленінградскую кансерваторыю, працавала ў Грозненскай філармоніі, атрымала званне заслужанай артысткі Чачэна-Інгушэціі. Чачэнская вайна прымусіла яе пакінуць Грозны і пераехаць у Беларусь, на сваю радзіму. Дзесяць гадоў адпрацавала тут салісткай Віцебскай абласной філармоніі. Калі-нікалі В. Шылава наведвае Даўгаўпілс, дзе жывуць яе бацькі і сястра з братам.

Прысутныя на канцэрце генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Віктар Гейсік і старшыня беларускага таварыства "Уздым" Барыс Іваноў звярнуліся да спявачкі з цёплымі словамі, выказаўшы надзею, што такія творчыя сустрэчы будуць мець працяг.

# Калідор вечнасці

**Святлана ЖЫРАВА**

"Калідор вечнасці", аўтар якога Аляксандр Кудрашоў, быў урачыста адкрыты ў скверы імя Сымона Балівара ў Мінску.

Праўда, на адкрыцці помніка Аляксандр Кудрашоў адзначыў, што назву "Калідор вечнасці" ён лічыць некалькі недарэчнай. Лепш падыходзіць "Сінгулярнасць".

Сама ідэя ўзнікла ў рамках праекта Інстытута імя Гётэ "Арт-горад".

Кампазіцыя ўяўляе сабой невялікі люстраны калідор. Жадаючыя могуць прайсці па ім і скрозь невялікія адтуліны назіраць за наваколлем. Несумненна, калі знаходзішся ўнутры, як кажа сам аўтар, прыходзяць думкі пра вечнае: адносіны чалавека да прыроды, чорныя дзіры.

Таму, каму карціць пабачыць гэтую цікавую кампазіцыю, варта паспяшацца: у скверы яна будзе знаходзіцца толькі да 10 кастрычніка.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр акцыі "Нясвіж — культурная сталіца Беларусі".**

# Ёсць прыцягальны асяродак...

## Светлагорскай карціннай галерэі “Традыцыя” імя Германа Пранішнікава — 20 гадоў

“Наступны прыпынак — «Карцінная галерэя»”, — звыкла гучыць абвестка ў салоне аўтобуса. І кожны раз гэтыя словы ўспрымаюцца як запрашэнне. Ці мне так здаецца? Але амаль ва ўсіх пасажырах, што выходзяць тут, чамусьці бачу аматараў выяўленчага мастацтва…



*Віталь Цвірка “Празрысты дзень”.*

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

Дваццаты год сваёй дзейнасці Светлагорская карцінная галерэя “Традыцыя” імя Германа Пранішнікава завяршае выстаўкамі, якія пацвярджаюць яе высокі прафесійны ўзровень. “Белае сонца блакітнай зямлі” — экспазіцыя твораў Леаніда Шчамялёва. “Выбранае” — сумесная выстаўка Барыса і Аксаны Аракчэевых. “Аб'ектыўным рэпартажам” назвалі сямейны вернісаж народны мастак Георгій Паплаўскі, яго жонка Наталля і дачка Кацярына. А яшчэ — “Камяні стагоддзяў” заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, прафесара Анатоля Бараноўскага, “Нацюрморт” Віталія Герасімава, “Сугучча” Алены Бараноўскай, “Срэбныя сны” Андрэя Крылова, “Падарожжа” Вольгі ды Ігара Гардзіёнкаў, “Успамін пра Мікалая Палянкова” (з фондаў галерэі). Крыху раней персанальныя творчыя справаздачы тут ладзілі Гаўрыла Вашчанка з сынам Канстанцінам, Уладзімір Зінкевіч, Святаслаў Федарэнка, а з “Брамай мінулага і не толькі…” другі раз завітаў Павел Татарнікаў, экспанаваліся творы выкладчыкаў і студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў… Словам, свой юбілей галерэя адзначае салідна. Дарэчы, у яе фондзе сёння больш як 470 твораў выяўленчага мастацтва. За 20-гадовую гісторыю адбылося каля 400 выставак, наведвальнікамі якіх былі амаль 207 тысяч светлагорцаў і гасцей горада.

Жыхары Светлагорска ўпершыню завіталі ў сваю карцінную галерэю 19 верасня 1992 года. Ужо тады па прапанове аднаго з яе арганізатараў — мясцовага мастака Германа Пранішнікава — яна мела вельмі адказную назву: “Традыцыя”. Заснавальнікамі галерэі былі таксама тагачасны старшыня гарвыканкама А. Якабсон (цяпер старшыня Камітэта дзяржкантролю), упраўляючы аддзялення “Белпрамбудбанка” С. Панкавец (цяпер кіраўнік “Парытэт-банка” ў Мінску) і аўтар гэтых радкоў — не першы дырэктар.

Установа ствралася на правах малога прадпрыемства. Выстаўка, якая ўпрыгожыла святочны дзень адкрыцця галерэі, прадставіла творчасць Г. Пранішнікава. Гэты мастак арыентаваўся на класічныя традыцыі рускага і беларускага выяўленчага мастацтва, яго творы маюць, як правіла, філасофскі падтэкст і вымагаюць ад гледача паглыбленага асэнсавання. Першы вернісаж прадвызначыў высокі ўзровень наступных выставак. На жаль, пражыў Герман Міхайлавіч пасля адкрыцця галерэі зусім нямнога. 27 лістапада 1993 года загінуў пад коламі цягніка.



*Уладзімір Сулкоўскі “Старая яблыня”.*

Менш як праз год з часу стварэння галерэя набыла статус дзяржаўнай і пачала працаваць пры аддзеле культуры гарвыканкама. Ужо тады яна вызначылася ў арганізацыі і правядзенні выставак зусім не правінцыйнага кшталту. Вось пералік некаторых з іх: “Мастак і кніга” (творы лепшых беларускіх графікаў), “Зямля пад белымі крыламі” (калектыўны праект беларускіх жывапісцаў), “Краса, і светласць, і прастор” (да 100-годдзя Максіма Багдановіча). Падзеяй у культурным жыцці горада стала персанальная выстаўка А. Марачкіна. Ён падараваў галерэі адну з сваіх графічных работ, з якой пачалося фарміраванне нашага мастацкага фонду. А неўзабаве фонд галерэі папоўнілі творы Г. Вашчанкі, Л. Шчамялёва, У. Сулкоўскага...

Пасля трагічнай смерці Г. Пранішнікава адбыўся найбольш поўны паказ яго работ, якія пераканаў у значнасці створанага гэтым самабытным мастаком. Неўзабаве галерэі было нададзена яго імя. Асаблівую ўвагу “Традыцыя” звярнула на лепшых мастакоў Гомельшчыны. Прайшлі выстаўкі Мікалая Казакевіча, Роберта Ландарскага, а таксама Святланы Курашовай, Івана Папова, Ларысы Зуевай, Андрэя Крылова, Пятра Захарава, Аляксандра Гайлевіча… Высокаму творчаму ўзроўню галерэі паспрыяла правядзенне выстаўкі нашага вядомага земляка Уладзіміра Зінкевіча (1996). Шмат у чым дзякуючы яму светлагорцы змаглі паглядзець персанальныя выстаўкі такіх майстроў, як Леанід Шчамялёў, Гаўрыла Вашчанка, Васіль Шаранговіч, Анатоль Бараноўскі, Уладзімір Савіч, Віктар Альшэўскі, Уладзімір Вішнеўскі, Валерый Славук, Фелікс Янушкевіч. З імі ў Светлагорску ладзіліся сустрэчы, асабліва карысныя для школьнікаў, настаўнікаў, маладых мастакоў.

**Народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка:**
*“Здарылася так, што на ўрачыстае адкрыццё выстаўкі ў Светлагорску я спазніўся не па сваёй віне амаль на гадзіну. І якім было маё здзіўленне, што мяне чакалі! Залы былі перапоўненыя. Сустрэлі мяне светлагорскія аматары выяўленчага мастацтва з такой шчырасцю, зацікаўленасцю, што забыць гэтага нельга. Прыемна ўразіла і тое, з якой клапатлівай увагай ставяцца да галерэі прадстаўнікі мясцовай улады. Менавіта тут адбылася мая першая акварэльная выстаўка. Тут упершыню я паказаў свае “17 зім”, і тут узнікла ідэя наконт адкрыцця маёй галерэі ў Гомелі, што паспяхова ажыццёўлена”.*

Праходзілі ў нас экспазіцыі з фонду Беларускага саюза мастакоў (творы В. Цвіркі, У. Стальмашонка, З. Літвінавай, А. Мазалёва, У. Тоўсціка, В. Шкарубы, Б. Заборава, Л. Дробава, А. Кузьміча, П. Сергіевіча). Паказу твораў М. Селешчука, В. Сумарава, Ус. Кожуха паспрыяў сталічны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва. У Светлагорску экспанаваліся легендарны цыкл карцін Міхаіла Савіцкага “Лічбы на сэрцы”, творы Арлена Кашкурэвіча, які перадаў у фонд галерэі 8 сваіх графічных аркушаў. Вялікае ўражанне зрабілі аўталітаграфіі Уладзіміра Басалыгі з увасобленымі помнікамі беларускага дойлідства. А Нінэль Шчасная прадставіла ў Светлагорску больш як 60 партрэтных, жанравых, пейзажных, графічных твораў.

Выстаўка Уладзіміра Сулкоўскага нагадала пра выказванне Гаўрылы Вашчанкі: “Сапраўдны мастак не можа не быць нацыянальна свядомым чалавекам”. Нават самі назвы карцін прасякнутыя беларускасцю: “Вячоркі”, “Браслаўскі матыў”, “Валошкі”, “Навальніца на Палессі”…

Неяк завіталі да нас навуковыя супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі і прапанавалі зрабіць у Мінску выстаўку з нашага фонду. Я запытаўся: “А якімі арыенцірамі будзем кіравацца ў адборы твораў?” І пачуў, відаць, крыху жартоўнае: “Дайце нам тое, чаго няма ў нас…” Са 100 паказаных карцін шаноўныя госці выбралі 61. Экспазіцыя “Мастацтва светлага горада” ў галоўным музеі краіны сталася ў добрым сэнсе гэтага слова сенсацыяй. Потым мы давалі сталічным калегам для выставак творы Міколы Селешчука са свайго фонду. Але і самі, вядома ж, “пазычалі”: работы народнага мастака Віталя Цвіркі, напрыклад, калі ладзілі пленэр яго памяці.

Пасля правядзення Рэспубліканскага пленэру па жывапісе “Светлагорскія краявіды” на базе мясцовага санаторыя “Срэбныя крыніцы” наш фонд папоўніўся 17 карцінамі ўдзельнікаў. Між іншым, “Традыцыя” — ці не адзіная ў краіне ўстанова, якая мае ў сваім зборы 18 графічных твораў Міколы Селешчука, падараваных нам сябрамі гэтага незабыўнага мастака. Ёсць таксама падараваных нам 31 твор Валянціна Крылова і яго сына Андрэя, 16 пастэльных работ Алега Пятрова, 19 пейзажаў Станіслава Дзьяканава, 10 акварэляў Уладзіміра Кароткага. Значна папоўніў светлагорскую калекцыю старэйшы гомельскі мастак Мікалай Палянкоў, перадаўшы больш як 30 твораў.

Немагчыма пералічыць імёны ўсіх нашых экспанентаў. Сярод самых знаных — Май Данцыг, Марыя і Мікалай Ісаёнкі, Зоя Літвінава, Галіна Гаравая, Уладзімір Слабодчыкаў, Эдуард Астаф'еў, Віктар Ціханаў, Васіль Касцючэнка, Георгій Скрыпнічэнка, Ларыса Журавовіч, Раіса Сіплевіч, Кастусь Качан, Валерый Шкаруба, Аляксандр Грышкевіч, Уладзімір Уроднiч... Добрай традыцыяй зрабіліся выстаўкі мастакоў Гомельшчыны, перадусім — мемарыяльныя, прысвечаныя творчасці тых, каго ўжо не стала. Адбываецца знаёмства гледачоў і з работамі мясцовых мастакоў, і з конкурснымі выстаўкамі юных талентаў.

Успамінаюцца многія падзеі. Напрыклад, дзве выстаўкі нашага земляка, чалавека нялёгкага лёсу, Яўгена Бусла. Першая — “Мастак малюе прымаўкі” — уразіла ўменнем мастака ўвасабляць патаемны сэнс народнай мудрасці. Другая раскрыла яго жартоўна-вясёлы талент, што выявіўся за 30 гадоў працы ў часопісе “Вожык”. А як узбагаціла жыццё Светлагорска пашырэнне геаграфіі нашых экспазіцый! Веткаўскі музей народнай творчасці прывёз выстаўку старадаўніх абразоў, а мы наладзілі ў Ветцы паказ жывапісных твораў з фонду галерэі. Абмяняліся і пленэрамі: мастакі балгарскага горада Слівен пісалі нашы краявіды, а група светлагорскіх мастакоў на чале з мінчанінам Уладзімірам Сулкоўскім — балгарскія. Усталявалася традыцыя рэспубліканскіх і міжнародных пленэраў з удзелам расійскіх і ўкраінскіх мастакоў. Спрычынілася “Традыцыя” і да правядзення скульптурных пленэраў. Успамінаецца вернісаж армянскіх мастакоў. І тое, што ў Светлагорск завітаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Беларусі Юй Чжэньцы на адкрыццё экспазіцыі ўласных мастацкіх фотаздымкаў (а ёй папярэднічала выстаўка шэдэўраў кітайскай акварэлі і працягам была не менш сенсацыйная — “Бронзавае мастацтва Кітая”!). Успамінаецца, якую цікавасць выклікаў паказ у галерэі малюнкаў з дзённікаў Васіля Быкава.

**Леанід Шчамялёў:**
*“Светлагорская галерэя мае самы высакародны, пачуццёвы, эстэтычны сэнс. Яна вучыць, але не павучае. Яна ўдзячна ставіцца да тых мастакоў, якія ў ёй выстаўляюцца, і да ўсіх тых, хто ў ёй бывае. І на гэтую яе ўдзячнасць проста нельга не адказаць узаемнасцю”.*

Ад імя наведвальнікаў галерэі запоўненыя аж тры “Кнігі водгукаў”: тут словы ўдзячнага захаплення гледачоў ці не з усёй Беларусі, з многіх гарадоў Расіі, Малдовы, Індыі, Кітая, Англіі, Італіі, Германіі, Бельгіі, Польшчы, Нарвегіі, Японіі…

“Традыцыя” захоўвае свой высокі дух, які падтрымлівае і мая пераемніца на пасадзе дырэктара Надзея Шынкевіч. Прываблівае годны творчы ўзровень экспазіцый, паказ якіх ладзіцца не толькі ў залах галерэі, але і ва ўстановах культуры Светлагорска. Праводзяцца лекцыі па выяўленчым мастацтве ў школах, на прадпрыемствах горада і раёна, майстар-класы і конкурсы сярод навучэнцаў… Усё гэта — праца на добрую перспектыву.

# Сіні кампот з водарам ландышаў

Ганна Сілівончык нарадзілася ў 1980 годзе ў Гомелі. Вучылася ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. Ахрэмчыка. Галоўныя прафесійныя ўрокі атрымала ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на аддзяленні станковага жывапісу, у майстэрні Мая Данцыга. З 2002 года пачала ўдзельнічаць у зборных выстаўках (на сённяшні дзень правяла ўжо каля дваццаці персанальных). Працавала заўсёды толькі як вольны мастак — у майстэрні. Творы Г. Сілівончык запатрабаваныя на арт-рынку. З 2008 года ўваходзіць у Беларускі саюз мастакоў. Узнагароджана медалём “Талент і прызначэнне” Міжнароднага фонду міру і згоды. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, фондах Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, Музеі сучаснага рускага мастацтва Джэрсі Сіці (ЗША), Ялабужскім дзяржаўным музеі-запаведніку (Расія), прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, ЗША, Ізраіля, Германіі, Польшчы, Кітая.



*“Спелыя вішні”.*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

Скарбонка з фантазіямі заўсёды пры ёй. Адамкне — і, нібы з-пад вечка чарадзейнага куфэрка, пацягнецца несканчоная нізка ўяўленняў, рэфлексій, вобразаў. Мастачка дакранецца да гэтага стракатага мроіва — і чарада ілюзорных персанажаў, змяшаўшыся з рэальным прадметным светам, размесціцца на палатне. Яны займаюць ужо многія, многія дзясяткі жывапісных палотнаў Ганны Сілівончык. І кожная з гэтых работ пазначана аўтарскім почыркам, што робіць іх пазнавальнымі ў кантэксце нават самай маштабнай калектыўнай выстаўкі. А праз почырк выяўляецца індывідуальнасць, якая дзівосным чынам спалучае ў сабе пастаянства і зменлівасць.

Вось так: зменлівасць плюс пастаянства — і атрымліваецца той непаўторны і заваблівы свет карцін Ганны Сілівончык, які не надакучвае і не стамляе, бо тут заўсёды ёсць уцеха для вачэй, нагода для ўсмешкі, спажыва для разваг, штуршок для ўласных фантазій, прычына для палемікі. На мінскіх, рэспубліканскіх і замежных выстаўках часта суседнічаюць творы сямейнага дуэта Ганны Сілівончык да Васіля Пешкуна — ураджэнцаў Гомеля, а цяпер ужо сталічных жыхароў. Як вядома, з поспехам ажыццяўляюць маладыя жывапісцы і персанальныя праекты: публіка ў захапленні ад іх мастацтва і “ходзіць на імёны”.



*“Лістапад”.*

Не так даўно мінская гледачы “хадзілі на Сілівончык” і атрымалі рэдкасную асалоду ад яе арт-інтэрпрэтацыі кулінарна-гастранамічнай тэмы. Шыкоўны “абед”, прыгатаваны мастачкай са смакам і размахам, бясплатна пакаштавалі шматлікія наведвальнікі галерэі “Універсітэт культуры”. Зразумела, хоць і называлася выстаўка “Зачынена на абед”, Ганна не частавала публіку ні малюнкамі харчовых прадуктаў з натуры, ні абстрактнымі нацюрмортамі ці люстрункамі застольных рытуалаў, здатнымі выклікаць успамін пра “свята для страўніка”. Мастачка, паводле яе слоў, пакідае на палатне тыя адчуванні, настроі, унутраны стан і лад мыслення, што не падлягаюць вербальнаму выказванню. Новы цыкл работ прадставіў непаўторныя маляўнічыя сюжэты, за якімі адчуваеш і мудрагелісты спантанны экспромт, і лагічна прадуманую невыпадковасць. А колькі тут гумару! У гэтых яркіх дэкаратыўных сюжэтах стае па-дзіцячы кранальнай наіўнасці, сакавітых і знарочыста брутальных нотак народнага лубка; постмадэрнісцкай алегарычнасці, незласлівых “прыколаў”; какетлівай эксцэнтрычнасці, дзёрзкай насмешкі; сатырычных нюансаў, правакацыйнай эпатажнай парадыйнасці.

Ганна Сілівончык сама распавяла пра тое, адкуль бярэ натхненне. Распавяла не ў “эксклюзіўным” інтэрв'ю, а публічна, размясціўшы ля свайго палатна “Бясконцае чаяванне” ўласную іранічную карацельку пад назваю “Размова з Музай”. Мастачка прызналася — глядач прачытаў: “У маю галаву заўсёды прыходзіць безліч разнастайных думак, меркаванняў і ідэй. Яны трапляюць туды праз усялякія адтуліны: як рот, нос або вушы, а часцей праз вочы. Часам усім гэтым фантазіям у галаве робіцца цесна, і яны просяцца на свет. Тады я бяру вялікі чарпак, зачэрпваю ім натхненне са спецыяльнай крыніцы і разліваю яго ў два кубкі. Другі для Музы, якая заўсёды наведвае мяне ў такія моманты. Натхненне, калі хто не паспытаў, на смак да кампоту падобнае, толькі колер сіні, а пахне ландышам. Але галоўнае тут пра закуску не забыць. Імбірныя пернікі самае тое. Муза іх вельмі любіць. Потым я малюю, а Муза сядзіць і глядзіць, частуецца і захапляецца...”

Знаўцы творчасці Ганны Сілівончык неаднойчы заўважалі, што вольную ад дэталяў прастору карціны мастачка любіць запаўняць вербальнымі вобразамі, наносячы на палатно лёгкую сетачку іранічнарытмічных слоў — радкі ўласных вершаў. Гэтым разам яна дапоўніла выявы, размясціўшы побач з рамкамі палотнаў вынаходлівыя “рэцэпты”: подпісы да карцін суправаджаліся афарыстычнымі выказваннямі больш ці менш вядомых асоб, народнымі прымаўкамі, папулярнымі выслоўямі, асацыятыўнымі прыпавесцямі ды павучальнымі казачкамі з нагоды пэўных жывапісных “страў” і жыццёвых сітуацый.

Ля палатна “Снежныя хмаркі” (крылаты хлопчык у цёмным палітончыку, шапцы, паласатым шаліку ды валёначках пускае з кучаравага воблака папяровыя самалёцікі) гледачы, нібы азіраючыся ў сваё дзяцінства, замілавана чыталі аўтарскую казку пра анёлаў, якія жывуць на белых аблоках, ходзяць у белых шкарпэтках, ядуць белы зефір, за людзьмі назіраюць у бінокль і ўсё, што бачаць, у кніжачкі запісваюць — для падліку добрых і благіх спраў, зробленых кожным чалавекам за жыццё. А пасля... Як вынікае з казкі, адным людзям выдаюць белыя шкарпэткі, бінокль і зефір, іншым жа — кажух ды лапату, каб дзень пры дні снег разграбалі, а замест белага зефіру ім даюць манную кашу і малако з плеўкамі... Колькі такіх кранальных гісторый прачыталі наведвальнікі галерэі дый пачулі з вялікага экрана, на якім дэманстраваўся відэафільм, створаны мастачкай спецыяльна да вернісажу!

Можна шмат чаму навучыцца ў творчай прафесіі. Пры ўважлівым стаўленні да яе законаў, праз упартую стараннасць у дасягненні амбітным мэты і няспынную практыку можна ўдасканаліць звычайныя ўменні, узняўшы іх на ўзровень майстэрства. Ды ніякай практыкай не здабудзеш таго, што даецца звыш. Быць “артавым чалавекам” не дапамогуць ні парады мудрых настаўнікаў, ні татава прозвішча, ні маміны заслугі, ні сямейныя творчыя традыцыі, ні шанц апынуцца ў патрэбным месцы ў належны час, ні багемны лад жыцця. “Артавым чалавекам” трэба нарадзіцца — што і наканавана было Ганне Сілівончык. Яна не толькі валодае грунтоўнай школай, эстэтычным густам, адчуваннем стылю. Чалавек мастацтва, яна ўражвае тым, чаму немагчыма навучыцца: бясконцай варыятыўнасцю фантазіі, гармоніяй парадоксаў, творчай інтуіцыяй... Талентам!



*“Матрункі”.*



*“Смаката”.*

# Знойдзены «Страчаны рай»



Персанальная выстаўка народнага майстра Беларусі Мікалая Тарасюка "Страчаны рай", прысвечаная 80-гадоваму юбілею аўтара, якая ладзілася нядаўна ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, выклікала вялікую цікавасць у мастацтвазнаўцаў, журналістаў і шматлікіх гледачоў.

*"Едзе вяселле".*



*"З сенакосу".*

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**

Мастацтвазнаўцы называюць творчасць Мікалая Тарасюка "наіўным", "прымітыўным" ці "інсітным" мастацтвам. Яго драўляныя кампазіцыі прынята адносіць да наіўнага рэалізму, дзе праз абагульненне знешняга выгляду прадметаў і дзеючых асоб на першае месца выходзяць ідэя, вобраз і падзея.

ДАВЕДКА "ЛІМА":

Мікалай Тарасюк нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Стойлы Пружанскага раёна. Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва "За духоўнае адраджэнне" ў намінацыі "Народная творчасць" за асабісты ўклад у адраджэнне і развіццё народных традыцый драўлянай скульптуры. З канца 1980-х удзельнічае ў выстаўках рознага ўзроўню. Творы Мікалая Тарасюка захоўваюцца і экспануюцца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, музеі "Пружанскі Палацык", Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры. Персанальная выстаўка ўнікальнага майстра ў беларускай сталіцы прайшла ўпершыню.

— Спрашчэнне і абагульненасць формы, імкненне да непасрэднасці характэрна для шматлікіх сучасных мастацкіх практык, у тым ліку для прымітыўнага мастацтва, — распавяла навуковы супрацоўнік аддзела выставак Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Паторская. — Прымітывізм існуе як самастойны кірунак, у той ці іншай ступені да яго звяртаюцца шматлікія сучасныя мастакі, якія працуюць у межах мадэрнісцкіх ці постмадэрнісцкіх тэндэнцый. Наіўнае мастацтва — адзін з відаў прымітывізму, які можа быць непрафесійным, але не страчвае ад гэтага, а, наадварот, набывае. Гэта, напрыклад, самадзейнае мастацтва ці творчасць мастакоў-самавучак, і Мікалай Тарасюк — сапраўды ўнікальны па творчых і жыццёвых поглядах аўтар.

На выстаўцы былі прадстаўленыя скульптурныя кампазіцыі на тэмы сялянскага жыцця, выкананыя ў тэхніцы разьбы па дрэве, расфарбаваныя і ўмацаваныя на падстаўках, плеценых з лазы. У работах майстра сялянскае жыццё сканцэнтравана так моцна, нібы стагоддзі гісторыі спрэсаваныя ў адным томе энцыклапедыі.

— У кампазіцыях Мікалая Васільевіча паказаныя сцэны з жыцця беларускай вёскі, адлюстраваныя некаторыя абрады, — зазначыла куратар выстаўкі, загадчыца аддзела традыцыйнай культуры Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра Ларыса Быцко. — Аўтар беражліва захоўвае ў сваіх творах народныя звычаі, традыцыі, святы. Як правіла, адной падзеі з жыцця чалавека, напрыклад, вяселлю, прысвечана цэлая серыя работ. Нават ёсць мініцарква, унутры якой знаходзяцца людзі, — кампазіцыя "Вянчанне". Майстар увасабляе ўласны досвед, успаміны, нават выказвае сваю сацыяльную пазіцыю, прытым з уласцівым яму гумарам і разуменнем жыцця простага чалавека.

Мастацтвазнаўцы, дарэчы, лічаць, што для народнага майстра работы Мікалая Тарасюка вельмі ўжо "жывыя". Пазнаёміўшыся бліжэй з творчасцю гэтага чалавека, адчуваеш і нестандартнае мысленне аўтара, і яго жыццёвую філасофію.

— Мікалай Васільевіч лічыць, што чалавек павінен працаваць, і прытым вельмі шмат, — на карысць сваёй сям'і, Айчыны, — заўважыла Наталля Паторская. — У адной з яго кампазіцый за ткацкім станком сядзіць мужчына, бо аўтар упэўнены: калі ў сям'і лад, то муж заўсёды і ва ўсім дапамагае жонцы, а не дзеліць работу на мужчынскую і жаночую.

Цікавы факт: у прыбудове да свайго дома Мікалай Тарасюк адкрыў уласны музей "Успаміны Бацькаўшчыны", дзе прадстаўленыя яго работы. Сёння гэты незвычайны музей ужо добра вядомы турыстам.



*"Каля хаты".*

## Афарызм

*Непакой за цябе, зямля мая, —*
*Мой хлеб надзённы.*

**Максім ТАНК**

## З глыбінкі

# Дзень пісьменства па-лунінецку

Дзень беларускага пісьменства, сёлета абраўшы сталіцай Глыбокае, не абмінуў і іншыя гарады Беларусі. Разам з Днём ведаў адзначылі яго ў Лунінцы. Свята арганізавалі работнікі цэнтральнай раённай і цэнтральнай дзіцячай бібліятэк.

У праграме мерапрыемстваў — літаратурныя гульні, конкурсы, віктарыны, якія падрыхтавалі работнікі дзіцячай бібліятэкі, з'явіўшыся перад гасцямі ў вобразах Дзеда-Усяведа і Еўфрасінні Полацкай. Канцэртную музычную праграму ладзілі ансамбль "Кросны" Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў, выступіла таксама супрацоўніца Азярніцкай сельскай бібліятэкі Наталля Бярозка з дачкой Людмілай і сынам Сяргеем. Вершы дэкламавалі самыя актыўныя чытачы.

Галоўнай дзеючай асобай свята, безумоўна, была кніга, прадстаўленая на шматлікіх тэматычных выстаўках. Наведвальнікі свята маглі таксама пазнаёміцца з творчымі выстаўкамі, на якіх былі прапанаваны вырабы з дрэва, пластыку, вышыўка, ткацтва і г.д. Вельмі арыгінальнай была выстаўка макетаў кніг, зробленых бібліятэкарамі раёна, а таксама незвычайная выстаўка вырабаў з макароны, аўтар якіх — дырэктар РЦБС Надзея Радзіяновіч.

**Таццяна КАРПУКОВІЧ, г. Лунінец**

# Збіраюцца зоркі над Убарцю

Артысты з Ельскага і Хойніцкага раёнаў Гомельскай вобласці сталі ўдзельнікамі XI адкрытага абласнога фестывалю ўкраінскай сучаснай эстраднай песні "Зоры над Убарцю", які з вялікім размахам прайшоў у горадзе Алеўску Жытомірскай вобласці Украіны. Усяго ж свае таленты прадэманстравалі каля 30 канкурсантаў — салістаў і вакальных калектываў.

Фестываль "Зоры над Убарцю" быў насычаны канцэртамі прафесійных і аматарскіх калектываў, зорак эстрады.

Неад'емнай часткай свята сталі выстаўкі народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і прэзентацыя работ мясцовых майстроў дэкаратыўна-прыкладной творчасці ды мастакоў-аматараў. У якасці завяршэння фестывальных мерапрыемстваў адбылася гала-канцэрт лаўрэатаў конкурсу і гасцей.

Свята працягвалася да позняй ночы — жыхары і госці горада без стомы танцавалі пад рытмы жывой музыкі.

**Жанна РЫНГОЎСКАЯ, г. Ельск — Хойнікі — Алеўск**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2760.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 13.09.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 4076

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12